# Кніга камандзіра партызанскай брыгады Данілы Фядотавіча Райцэва

Кніга “Рэха над Дзвіной” напісана легендарным камандзірам партызанскай брыгады імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола Данілам Фядотавічам Райцавым. У сваіх мемуарах ён апавядае не толькі пра сябе, але і пра той час, калі праходзіла яго жыццё. Успаміны камбрыга -- пра былое змаганне, цяжкія партызанскія дарогі да Перамогі, пра баявых сяброў і паплечнікаў.

Кніга ўспамінаў Данілы Фядотавіча Райцава “Рэха над Дзвіной” узноўлена членам Беларускага Саюза журналістаў Таццянай Кузьміч па публікацыях у абласной газеце “Віцебскі рабочы” і рукапісах легендарнага камбрыга, якія захоўваюцца ў Віцебскім абласным музеі Героя Савецкага Саюза М.П. Шмырова.

Даніла РАЙЦАЎ

РЭХА НАД ДЗВІНОЙ

НАРОДНЫ ГЕРОЙ



У красавіку 2014 года жыхары Віцебшчыны адзначылі векавы юбілей свайго земляка, актыўнага змагара з нямецка-фашысцкімі акупантамі, арганізатара партызанскага руху, камандзіра партызанскай брыгады імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола Беларусі, ганаровага грамадзяніна горада Віцебска Данілы Фядотавіча Райцава, якога ветэраны Віцебшчыны тройчы дэлегавалі на Парад Перамогі ў Маскве. Адбыліся сустрэчы ў населеных пунктах Віцебскага раёна з тымі, хто ваяваў поплеч з партызанскім камандзірам, хто працаваў разам з ім у мірны час; была арганізавана навукова-практычная канферэнцыя ў абласным музеі Героя Савецкага Саюза Міная Опіліпавіча Шмырова.

З Данілам Фядотавічам Райцавым я была знаёма асабіста. Ён даволі часта прыходзіў да нас, у рэдакцыю абласной газеты “Віцебскі рабочы”. Тут працавалі журналісты, якія, як і ён, ваявалі з фашыстамі. Напрыклад, Варвара Паўлаўна Мянжынская, Уладзімір Дзмітрыевіч Надзёжны, Яўген Вікенцьевіч Стамінок – у партызанскіх атрадах, Фёдар Еўсцігнеевіч Еўсцігнееў, Уладзімір Міхайлавіч Зайцаў, Пётр Мітрафанавіч Барэйка, Міхаіл Іванавіч Міхайлаў -- у радах Чырвонай Арміі, Пётр Данілавіч Севярын – матросам-падводнікам на Паўночным флоце, Мікалай Уладзіміравіч Дарафеенка – лётчыкам-знішчальнікам у далёкім Запаляр’і. Данілу Фядотавіча цягнула да іх: пагаварыць, параіцца, успомніць былое, калі-нікалі кульнуць разам чарку. Ён заўсёды прыносіў яблыкі са свайго саду: чырванабокія, хрумсткія, сакавітыя. Частаваў маладых супрацоўнікаў. Прыемна было атрымаць з рук шыракаплечага двухметровага волата райскі яблычак, наліты сонцам. Некалі, вярнуўшыся з вайны, камбрыг Райцаў пабудаваў хату і пасадзіў яблынькі, ігрушы, слівы, вішні. Гадаваў, няньчыў, як малых дзяцей. І яны стараліся аддзячыць яму за працу. А ён спяшаўся падзяліцца гэтым смакоццем з людзьмі.

Ужо пазней, калі яго рэдакцыйныя сябры сталі пенсіянерамі, а нехта з іх адышоў у іншы свет, атрымала я ад нашага галоўнага рэдактара Уладзіміра Рыгоравіча Скапы заданне напісаць матэрыял да 80-годдзя славутага партызанскага камандзіра. Было трохі боязна: як ён успрыме маю асобу, якая пораху не нюхала. Аб чым з такой гаварыць?! Але хвалявалася дарэмна.

Мяне запрасілі ў госці, вельмі цёпла сустрэлі. У двухпакаёвай утульнай кватэры не было нічога лішняга. На сцяне – партрэт Данілы Фядотавіча, напісаны вядомым віцебскім мастаком Пятром Явічам. Тут камбрыгу недзе гадоў сорак пяць, ва ўсёй мужчынскай прыгажосці – чарнавалосы, з агеньчыкамі ў вачах. І з узнагародамі на магутных грудзях: ордэнамі Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны І ступені, медалямі “За адвагу”, “Партызану Айчыннай вайны” першай і другой ступеней. Аб ногі трэцца сімпатычная шэранькая істота – кошка Чыта, завіхаецца на кухні жонка гаспадара Вольга Міхайлаўна, пра якую можна пісаць раман. У якасці медработніка яна аддала сем гадоў арміі, чатыры з якіх адабрала вайна – Вялікая Айчынная і так званая японская. Не маючы сваіх дзетак, яна дапамагла вывесці ў людзі мужавых: Віктар скончыў авіяцыйнае вучылішча, а Рая – медыцынскі інстытут. Мужу была правай рукой. Без яе яму цяжка было

б дасягнуць  поспехаў у мірным працоўным жыцці. Сямейны тыл шмат значыць.

Успамінаць вайну не хацелася, але той навалы з жыцця не выкрасліш. Тым больш, што многія злажылі свае галовы дзеля перамогі над ворагам. Расстраляны фашысцкім звяр'ём бацька Данілы Фядот Пахомавіч – удзельнік першай сусветнай вайны, інвалід, матуля Пелагея Сцяпанаўна, сястра Кацярына з маленькім сынком. Не вярнуліся з фашысцкай няволі сёстры Марыя і Соф'я. Усяго 14 чалавек радні пазбавіла жыцця вайна. Не абмінула фашысцкая куля і Данілу Фядотавіча, пакінула інвалідам. А колькі баявых сяброў спачывае ў партызанскіх магілах!

22 чэрвеня 1941 года Даніла Фядотавіч выпадкова апынуўся ў Суражы: прыбыў у камандзіроўку з Астравецкага раёна Вілейскай вобласці, дзе ў вёсцы Міхалішкі будаваў аэрадром. Урад імкнуўся як мага хутчэй умацаваць нядаўна вызваленыя заходнія рубяжы Беларусі. Дыханне вайны адчувалася ўжо выразна. І не трэба казаць, што застала яна нас знянацку. Проста не паспелі  да яе падрыхтавацца. Ваенныя падзеі развіваліся занадта імкліва, фронт набліжаўся да Віцебска. І новае заданне -- пабудаваць аэрадром ля Суража выканаць з-за гэтага таксама не здолелі. Давялося аэрадромнае абсталяванне знішчыць, каб не дасталося ворагу, а людзей эвакуіраваць. Рыхтаваліся як след “сустрэць” ворага. Былі створаны баявыя атрады, знішчальны батальён. А раённую разведку даручылі ўзначаліць Райцаву. Напэўна, таму, што ўвесь Суражскі раён ён выхадзіў уздоўж і ўпоперак, амаль пяць гадоў адпрацаваў тут старшым землеўпарадчыкам.

Даніла Фядотавіч расказваў, як першы раз стралялі па фашыстах. Раніцай 11 ліпеня ў Сураж уварвалася восем танкаў, і немцы асмеліліся, бы дома, на Рэйне, змыць свой бруд у Касплі. Распрануліся дагала і паклыпалі да вады. Вось тут і трапілі пад нашы кулі восем ваяк, астатнія пахаваліся ў танках, не рызыкуючы перапраўляцца на другі бераг.

Арганізавацца ў баявы партызанскі атрад рашылі пасля таго, як адступаючыя чырванаармейцы запэўнілі, што ад нас будзе больш карысці ў варожым тыле. Камандаваць атрадам  даверылі Райцаву. У атрадзе спачатку было 100 чалавек, потым у яго ўліваліся акружэнцы, якія прабіраліся на ўсход. Атрад папаўняўся не толькі кадравымі ваеннымі, але і ўзбраеннем.

Пазней на базе атрада была створана партызанская брыгада імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола Беларусі пад камандаваннем Данілы Фядотавіча Райцава, якая дзейнічала ў Гарадоцкім, Суражскім і Мехаўскім раёнах. За гады барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі партызанамі брыгады знішчана каля чатырох тысяч варожых салдат і афіцэраў, пушчаны пад адхон 36 эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай праціўніка, узарваны 54 чыгуначныя і шасейныя масты, пашкоджаны сотні метраў чыгуначнага палатна.

Пасля злучэння  брыгады з воінамі Чырвонай Арміі, якія гналі фашыстаў у іх логава праз родную Беларусь, партызанскага важака Д.Ф. Райцава выбралі старшынёй Суражскага райвыканкама. Усю сваю энергію ён аддаваў справе аднаўлення разбуранай фашыстамі народнай гаспадаркі.  Затым яго прызначаюць начальнікам Заходне-Дзвінскага ўпраўлення асушальных сетак. Ператвараючы балоты і пераўвільготненыя землі Віцебшчыны ва ўрадлівыя нівы,  Даніла Фядотавіч атрымаў ордэн “Знак Пашаны”, медаль “За працоўную доблесць” і званне заслужанага меліяратара БССР.  Выйшаўшы на пенсію, ён цалкам аддаўся грамадскай рабоце. Больш дзесяці гадоў узначальваў Віцебскую раённую ветэранскую арганізацыю. Патрэбы старых вяскоўцаў ведаў не горш за ўласныя: у таго дах працякае, гэтай бабульцы дровы трэба папілаваць, у яе суседкі плот пакасіўся. Клапаціўся, каб не забыліся пра ветэранскія гароды: зааралiць, дапамагчы ўбраць ураджай. Карацей, бацькам ён быў для партызан у лесе, бацькам стаў для старых і нямоглых у мірны час.

3 чэрвеня 1996 года легендарны партызанскі камбрыг пакінуў тых, хто жыве, і далучыўся да загінуўшых баявых сяброў. На памяць нам засталіся ўспаміны, дзе ён падрабязна расказаў пра час, пра сябе, пра патрыётаў, якія любілі Радзіму больш, чым уласнае жыццё, пра людзей, якія падарылі нам мір.

Таццяна КУЗЬМІЧ,

член Беларускага Саюза журналістаў.

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

З Я М Л Я  Г Е Р О Я Ў

Данілу Райцаву прысвячаю

Крамяныя росы ў ззянні
З бароў ападаюць на шлях,
Квітнее ў зялёным убранні
Славутых герояў зямля.
Зямля гэта – Бацькі Міная,
Яго неўміручых сыноў.
Яна нашу ласку прымае
За подзвіг мільёнаў байцоў.
Калі распускаюцца ружы
Над быстрай Дзвіною ў садах,
Дзе разам хадзілі з Харужай,
Ўсцілаем мы кветкамі шлях.
Праз ночы лясныя грымоты

Каціліся ўсцяж па зямлі.

Праз “Віцебскія вароты”

У тыл мы варожы ішлі.

Мы тут сваю радасць і гора

Дзялілі ў паходзе з табой.

Здаецца, не месяц, не зоры –

Усюды кастры над Дзвіной.

Прайшлі мы праз пушчы, даліны

Да дня пераможнай вясны.

Красу нашай роднай краіны

Уткалі ў свае дываны.

Я слаўлю зямлю дарагую,

Героямі пройдзены шлях,

І сцежку наддзвінскую тую,

Якой мы хадзілі ў баях.

Петр БОРЕЙКО

С О Л Д А Т И Ч Е Л О В Е К

(К 50-летнему юбилею Данилы Райцева)

С ружьем побродив спозаранок,

Под мирные всплески костра

Дымком партизанских землянок

Ты грезить готов до утра.

Ты видишь, как утром дозоры

Обходят тропу за тропой,

Где мины взрывали разоры

И слышалось грозное: «Стой!»

Строчит с пулемета Сильницкий,

И снег почернел от огня…

Над Курино блещут зарницы

Лучами грядущего дня.

…А рядом высокие сосны

Стоят как живая стена,

И в пущу Щелбовскую весны

Несет голубая Двина.

Их много уже пролетело –

Крылатых, всегда заревых…

Мы верим: в любые метели

Ты будешь среди молодых.

А если виски побелеют

И годы оставят свой след,

Ты помни, что есть юбилеи

В девяносто и даже сто лет!

Даніла РАЙЦАЎ

Р Э Х А Н А Д Д З В І Н О Й

ПЕРАД НАВАЛЬНІЦАЙ

У прыёмнай  райкама партыі ўжо знаходзілася некалькі суражскіх камуністаў. І калі я пераступіў парог апошнім, насустрач мне спяшаўся загадчык аддзела і, указаўшы на дзверы кабінета, сказаў:

--Заходзь, Даніла, цябе чакае таварыш Камароў…

Першы сакратар райкама партыі сустрэў мяне цёплым позіркам, які можа быць толькі ў роднага бацькі, моцна паціснуў мне руку, пасадзіў побач з сабою, крыху памаўчаў, напэўна, настройваў апошнюю думку, каб сказаць незабыўнае на ўсё маё жыццё:

--Партыя табе давярае адказную справу. З нашай рэкамендацыяй хутка ты паедзеш у абкам, а адтуль – надоўга ў далёкую дарогу, на захад, дзе пралягаюць свяшчэнныя рубяжы Радзімы.

Потым ён падрабязна растлумачыў мне сэнс і змест тых насычаных будняў , што чакалі мяне на ўдарнай будоўлі абароннага значэння.

--Наш часовы сусед па той бок заходняй граніцы – Гітлер, і цана яму гітлераўская, таму што яму, сусветнаму разбойніку, няма з нашага боку ніякай веры. Мы павінны закаваць заходнія рубяжы краіны ў непрыступны граніт, каб гітлераўцы, калі ім захочацца справакаваць супраць нас вайну, панеслі поўнае знішчэнне. І гэту святую місію закліканы ўзначаліць камуністы – надзейны авангард умацавання абароны краіны. Дарэчы, чаму наш выбар спыніўся  на тваёй кандыдатуры? – спытаў важак суражскіх камуністаў і тут жа сам адказаў:

--У цябе ўжо ёсць пэўная спецыяльнасць – раз, і па-другое – верым табе, маладому камуністу, ад пачатку да канца.  А што зараз скажаш райкаму ты сам?

--Магу толькі шчыра падзякаваць за аказаны мне давер. Як камуніст заўсёды гатовы апраўдаць яго з гонарам. Калі ў абкам партыі за пуцёўкай?

--Заўтра.

Моцна занятыя гутаркай, якая праходзіла ў такіх хвалюючых абставінах, асабліва для мяне, мы не заўважылі, як над Суражам неба зацягнула свінцом, і толькі пачулі першы веснавы гром. Хутка хмары разгрузіліся: на зямлю ўпаў лівень. Камароў адчыніў фортачку, у пакой уварваўся паток паветра, насычанага водарам свежай зямлі і маладой лістоты на дрэвах пад вокнамі

райкама. Тады ішла апошняя пяцідзёнка красавіка сорак першага года. Вясна была ранняя, шчодрая на сонца і цёплыя дажджы.

Сакратар райкама ўважліва глядзеў на чараду хмар, а потым сказаў, ставячы націск на кожным слове:

--Чуеш? Гэта з грукатам едзе да нас багаты ўраджай. У кроплях дажджу адчуваецца залаты зерняпад.

Я падумаў: “Пяцігодка крочыць  нястрымна. Багацее край і працоўны люд. Нам ёсць што абараняць ад ворагаў, ёсць каму і чым….” А Камароў, угадаўшы мае думкі, падкрэсліў:

--Дык вось, дарагі таварыш… Паедзеш ты па пуцёўцы партыі ўзводзіць надзейны заслон ад карычневай саранчы, каб яна, калі збярэцца на нашы пасевы, захлынулася  ўласнай крывёю.

Развітваючыся ля парога, ён пажадаў:

--І на новай пасадзе трымай высока марку суражан!

* * *

Раптам з глыбіні душы ўсплылі разважанні.

Успомнілася, быццам учарашні дзень, мінулая восень. У празрыстым небе ляцелі клінамі на поўдзень журавы. У іх пераклічцы адчуваўся матыў расставання з абжытым краем. Вясковыя хлапчукі і дзяўчаткі махалі ўслед ім шапкамі, крычалі наперабой:

--Шчаслівай дарогі!

--Вяртайцеся дадому з вясной!

А зараз і я гавару: “Да пабачэння, родныя прасторы!”

Заўтрашняя дарога выклікала не ўпадніцтва, а прагу хутчэй рухацца ў шлях, і я адчуў, як пачынаюць вырастаць крылы. І, пэўна, заўсёды бывае так. Перад тым, як чалавеку адправіцца ў невядомы яму дагэтуль край, ён здзяйсняе належныя агледзіны на родным месцы, яшчэ раз, быццам упершыню, знаёміцца з тым, што яму вядома з дзяцінства і што возьме з сабою на памяць.

А я на сваю памяць не скардзіўся.

*   *   *

Помню я, помню, как

Мать меня родила, --

Она не раз, не два

Об этом говорила…

(З народнай песні).

Вы не бывалі ў вёсцы Міхалкава? Хоць праездам? А ў Курыне? У Ноўцы? У Шчалбоўскіх лясах? Калі не, то -- калі ласка…

Тут, улегшыся ў крутых берагах, нясе праз Беларусь у Прыбалтыку свае воды Заходняя Дзвіна. Па ёй цугам плывуць платы з рускім і беларускім лесам. Памятаю, яшчэ малым быў, калі напрадвесні дзед Пахом у мяне спытаў:

--Хочаш пабываць у далёкіх краінах, убачыць мора сіняе?

--Хачу, хачу!

--Садзіся вунь на тую вялікую крыгу, я табе сваю ватоўку падсцялю, каб не прымёрз, -- і ты даплывеш да самай Рыгі…

Дзед, вядома, жартаваў, а мне хоць плач – так моцна хацелася пакатацца на крызе.

Наш беларускі куточак, дзе ствараў свае славутыя палотны Ілья Рэпін, край непаўторнай прыгажосці і мноства прыродных багаццяў. Выйдзеш, бывала, за ваколіцу ціхім вясновым ранкам,  толькі паглядзі, паслухай… У кожным садочку пачынаюць натхнёна і нястомна змагацца за першынство салісты-салоўкі. У лазе то адзавецца, то змоўкне кулік, даючы зразумець, што і ён не апошняя скрыпка ў ранішнім хоры. А ў Дзвіне, абуджанай досвіткам, пачынае раскідваць свае вёслы ружовая зара, бязлітасна б’юць хвастамі па вадзе шчупакі, пакідаючы кругі. Якой дарогай ні пойдзеш, яна прывядзе цябе ў сапраўднае царства прыроды і прымусіць пакланіцца яму.  Ногі не забываюць, колькі б ні прайшоў гэтымі дарогамі, і асабліва, калі яны пераплецены ляснымі перакрыжаваннямі. Выбірай любую.Тут нядрэнна адпачыць у гушчары векавога бору, удыхнуць гаючы водар жывіцы, паслухаць, аб чым бясконца тэлеграфуе дзяцел. А хто з нас не адчуў на сабе незабыўнае ўражанне ад лясных азёраў! Іх берагі прыцягваюць жывапісным

пейзажам. У прыбярэжным чароце пачынаюць свае першыя заплывы вывадкі дзікіх качак і гусей. Сюды знаёмымі сцяжынкамі прыходзяць на вадапой лясныя прыгажуны – ласі. А ў пратоках да сёмага поту стараецца будаўнічая брыгада баброў. Асляпляльна блішчыць на сонцы празрыстае люстэрка возера. Але ў яго, як і чалавека, бывае розны настрой, у залежнасці ад абставін. Яно гладкае, як шкло – калі навокал ціха, і пеніцца, накочваецца на берагі хвалямі – калі ўстрывожана парывамі моцнага ветру. Нашы азёры багатыя рыбай і ракамі. Таму, напэўна, невыпадкова ў гэтых мясцінах гатуюць самую смачную юшку!

…Я нарадзіўся ў Міхалкаве ў самае ліхалецце – у красавіку 1914-га, калі ў нашу старонку папаўзлі з Захаду страшэнныя хмары вайны. Якая яна сабой – адкуль мне было ведаць. Загорнуты ў пялюшкі і крыж-накрыж перавязаны саматканым паскам, я тады займаў сваю бяспечную пазіцыю ў калысцы, падвешанай да столі. На мяне не трапіў позірк бацькі: ён быў прызваны ў салдаты. Са мною дні і ночы каратала маці Пелагея Сцяпанаўна. І пела, і плакала над калыскай…

Калі крыху падрос і пачаў самастойна хадзіць па хаце, зразумеў, што ў мяне ёсць мама, тата і сястрычкі.

--Дзе мой тата? – дапытваўся я ў мамы, калі ўжо пайшла мая трэцяя вясна.

--На вайне, сынок.

--Ён будзе там, а мы тут?

--Прыедзе да цябе.

--Хутка?

--Усіх ворагаў пераб’е – і прыедзе.

--Яны благія?

--Злыя, як сабакі.

--А я сабакі не баюся. Коціка – таксама…

--А твой татка немцаў не баіцца.

--Татка прыедзе дамоў? Гасцінца прывязе?

--Прыедзе, прывязе.

--Тады я не буду плакаць.

Але трывога не адступала ад нашай хаты, ад многіх міхалкаўскіх падворкаў. З вайны прыходзілі весткі ад забітых. Пісалі са шпіталяў параненыя. Вярталіся дамоў калекі. Галасілі абяссіленыя жанчыны, а за імі , учапіўшыся за спадніцы, у адзін голас і дзеці. Не высыхалі слёзы на вачах маёй маці і старэйшых сясцёр. Бо ад бацькі не было ніякіх вестак. Асабліва па ім сумаваў я.

--Які мой тата? – часта пытаўся  ў мамы.

--Добры. На цябе падобны.

Пасля такіх слоў мне яшчэ мацней хацелася сустрэць і абняць бацьку.

Тады я ўпершыню ўлавіў вухам нейкіх Вільгельма і цара, апошняга Мікалашкам называлі. Вельмі дрэнна пра іх гаварылі. Гэта ж яны столькі гора людзям нарабілі. Казалі яшчэ, што хутка будзе канец аднаму і другому, што больш не будзе вайны, і мне хацелася, каб тата як мага хутчэй пабіў і Вільгельма, і Мікалашку і сам вярнуўся дахаты.

Ён вярнуўся ў 1918-м, калі мне споўнілася чатыры гады, а ў нашай мясцовасці за гэты час адбыліся вялікія перамены.

…Адчыніліся дзверы, і парог хаты пераступіў чалавек у салдацкім шынялі. Я разгубіўся. Маці, дзед, Марыя і Сафія – мае сястрычкі, кінуліся да яго ў абдымкі, радаваліся і ад радасці плакалі. Потым гэты чалавек узяў мяне на калені, моцна пацалаваў,  насыпаў прыгаршчы цукерак. Я пазіраў на яго са здзіўленнем, мне даказвалі, што гэта і ёсць мой тата, па якім я так моцна сумаваў, так доўга чакаў яго з вайны. Памятаю, як абхапіўшы аберуч бацькаву шыю, доўга не адпускаў яго, баяўся: адпушчу – яго зноў забяруць на вайну.

Мама, накрываючы на стол, скрозь слёзы расказвала пра наша гора: сям’я марнела ў галечы і беднасці. Дзед праклінаў на чым свет стаіць вайну і таго, хто яе прыдумаў. Потым у хаце стала зусім цесна, яе біткам запоўнілі суседзі, яны навыперадкі абдымалі, віталі бацьку:

--З вяртаннем, Фядот Пахомавіч! Ці не з таго ты свету? Мы ўжо даўно недапечанага Мікалашку скінулі. Ноўкінскага заводчыка, памешчыкаў з буржуямі прагналі. Ленінскай дарогай па жыцці крочым!

--А што тут было, калі, Фядотка, сваю родную Савецкую ўладу ўстанаўлівалі! Пан – сваё, поп – сваё, а мы: “Прэч з нашай дарогі!” Крывасмокі зараз з Курына і адусюль выкінуты.

--Дзядзька Пахом, твая Пелагея з дзеткамі і мы ўсе цябе зачакаліся.

--Дзякуй вам, людзі добрыя, за сардэчныя словы. Таго гора, якое мы ўсе перанеслі, мяркую, больш не будзе, -- адказваў тата. – Цяпер мы разам, як адна сям’я. Калі што якое ды не так, то за сваю ўладу сцяной  станем.

--Памятайце, дзеці мае, старую прытчу, -- умяшаўся дзед Пахом. – Вось яна якая. Сабраў адзін бацька сваіх сыноў, а іх у яго сямёра было, ды кажа: “ Вось вам туга звязаны венік. Паспрабуйце, хто з вас пераломіць венік папалам. Вядома, нікому з іх не пашчасціла, сілы падвялі. Тады бацька развязаў венік. “Ламіце яго па аднаму дубчыку, -- кажа. А потым дадаў: -- Лёгка? Трэсь, трэсь – і гатова? Я думаю! Так можа ў жыцці адбыцца і з вамі. Паасобку цяжка змагацца і ўстаяць, а калі разам – ніякая навала не страшная”. Зразумелі, пра што я вам расказваю?

--А як жа, дзядзька Пахом!

Мой дзед сярод тых, якім быў сам, лічыўся ў той час нават крыху прагрэсіўным селянінам. Па нядзелях ён не забываў пра бога і царкву, бывала, маліўся і сам-насам. І ў той жа час адкрыта праклінаў цара і яго двор, у ім бурліла нянавісць да прыгнятальнікаў усіх масцей і адценняў.  “Во якія каркі наелі, як клапы, нашай крыві напіліся, а мы гні на іх спіну, перабівайся з мякіны на лебяду… Каб іх саміх у такія мундзіры апранулі!” – ужо іншай “малітвай” сустракаў і праводзіў кожны свой будзённы дзень. Ён запэўніваў людзей, што “рана ці позна, а прыйдзе на паноў падзеж”, пры гэтым аўтарытэтна спасылаўся на Емяльяна Пугачова.

Змяркалася. Бацька, які паспеў ужо агледзець хату і падворак, адрамантаваў у сенцах стаяк, зноў прысеў да стала і ўзяў мяне на калені. Ён доўга расказваў нам пра сваё салдацкае ліхалецце.

Ім было вельмі цяжка на вайне. Мерзлі і галадалі ў акопах. Камандзіры прымушалі іх пець: “Солдатушки, браво, ребятушки”,  а яны ледзь трымаліся на нагах – такі ўжо быў салдацкі паёк. Салдат касілі заразныя хваробы. А да ўсяго па іх спінах гулялі афіцэрскія шомпалы. Да іх звярталіся  не інакш, як

“скаціна”. А ў палках нарастала нянавісць да вайны і царызму, даходзіла да адкрытых бунтаў.

У адным з жорсткіх баёў радавы 4-га Сібірскага палка Фядот Пахомавіч Райцаў быў цяжка паранены і трапіў у нямецкі палон – можна сказаць, з агню ды ў полымя. Тры гады нявольнікам на чужыне... І кожны дзень такое агіднае: “Рус, давай, давай!”

Міхалкава вайна напасрэдна на зачапіла. Я не чуў стрэлаў, не бачыў пажараў. Таму  дапытваўся ў бацькі: “На каго падобныя немцы? Ці ёсць у іх хвасты і рогі? “ І нават: ці моцна плакаў бацька, калі яго паранілі. Тата чамусьці не размалёўваў тых жахаў, магчыма, не хацеў палохаць маленькага сына, але цяжка ўздыхаў, і я пачынаў разумець: дрэнна яму было на вайне.

У дзеда Пахома, акрамя майго бацькі Фядота, былі яшчэ тры сыны – Іван, Кірыла і Ігнат. І кожны з іх унёс сваю даніну на алтар уздыбленай падзеямі краіны. Іван Пахомавіч быў петраградскім рабочым. Разам з тысячамі іншых ішоў супраць цара і капіталістаў. Калі бываў у родным Міхалкаве, то шмат расказваў пра забастоўкі, бальшавікоў, якія вядуць на штурм старога свету. Дзядзька Кірыла, калі маладая Савецкая  рэспубліка апынулася ў небяспецы, са зброяй у руках мужна змагаўся супраць белагвардзейцаў на франтах грамадзянскай вайны. Ігнат Пахомавіч служыў рабочым на чыгунцы.

Калі ваенная стыхія ўціхамірылася, Райцавы хто адкуль пачалі вяртацца да сваіх гнёздаў, у край дзядоў і прадзедаў. А пуцяводнай зоркай у родныя мясціны ім служыў ленінскі Дэкрэт аб зямлі. Памешчыцкія палі, якія з пакалення ў пакаленне паліваліся крывавым потам вясковай беднаты, цяпер сталі яе ўласнасцю. Атрымалі дадатковыя надзелы і Райцавы.

Кірыла і Іван засталіся жыць і працаваць на надзеле з дзедам, а Ігнат і мой бацька аддзяліліся на свае дзясяціны.

Бацьку выбралі старшынёй мясцовага камітэта беднаты. Работы яму хапала цераз край. Абзаводзіўся гаспадаркай. Корпаўся на няўдобіцы, яму ў гэтым дапамагаў кароslівы конь, перададзены з фонда дэмабілізацыі. Атрымалі таксама карову, якую нялёгка было пракарміць. Бацька ў той час славіўся майстрам на ўсе рукі. Асабліва гэта адчувала ўжо немалая сям’я. Дадатковыя заробкі, якія бацька здабываў мазалём на будаўніцтве хат, кармілі і апраналі нас.

Хапала спраў і ў камбедзе. Іншы раз ліхія гэта былі справы! Навокал групавалася ў банды кулаччо. Бандыты хадзілі па начах з абрэзамі, нападалі на актывістаў, падпальвалі хаты і маёмасць, пагражалі кожнаму, хто цвёрда стаяў на баку Савецкай улады. Найбольшых сваіх ворагаў у вёсцы яны бачылі ў асобе камбедаўцаў. Кулакам мроіўся іх учарашні дзень з вялікімі масівамі земляў і батракамі на палях.  І мой бацька на чале вясковай беднаты часам са зброяй у руках хадзіў на начныя аперацыі супраць кулакоў. Мы ведалі, што гэта не вайна, што бандыты хутка атрымаюць па заслугах, аднак хваляваліся за бацьку. А, хвалюючыся, кожны раз праводзілі яго наказам: "Паадкручвайце галовы крывасмокам, каб іхняга духу тут не было!"

І гэта ачышчэнне ў нашых мясцінах адбывалася не горш, чым у самых спрактыкаваных санітараў.

У 1924 годзе перайшлі на хутары. Бацьку дасталося пяць з палавінай дзясяцін самай няўдобіцы. Шмат купін і вялікі кавалак балота. Мне давялося забыцца пра дзяцінства, узяць у рукі рыдлёўку і капаць канавы. А потым пазычылі другога каня, каб узараць дзірван. Старэйшая сястра Марыя была пры гэтым галоўным аратым, з усіх сіл прыціскала да дзярніны саху, а я кіраваў канём. Крыху пазней, калі бацьку выдзелілі бясплатна драўніны з кулацкага лесу, я пацеў на распілоўцы дошак. Бацька стаяў зверху, а мы з Марыяй унізе напарнікамі. Яна была вышэй ростам, і таму маім рукам даставалася больш мазалёў. Час ад часу нас наведваў кулак Фелясёнак і бурчаў:

--Вось убачыш, Фядот, твая новая хата кругом пацячэ, як цяпер цякуць з маіх вачэй слёзы…

Але гэта былі слёзы драпежнага кракадзіла, які раней прыстасаваўся прадаваць дошкі батракам па шалёным кошце на дамавіны. Таму яго называлі  то шакалам, то трунаром.

Бацька, бывала, спыніць на хвілінку пілу, паслухае моўчкі, што там унізе балбоча  пярэварацень старога свету, а потым паплюе на свае каравыя далоні – і спакойна працягвае работу. Маўляў, не спявай, бо твая песня ўжо даўно спета.

* * *

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, у якую хату ні зайдзі, побач з хлебам убачыш кнігу, сшытак або грыфельную дошку. У барацьбе з цемрай яны былі

ярчэйшымі за само сонца. Як маладыя парасткі да сонечных промняў , так цяпер і людзі цягнуліся да азоў навукі. Мой дзед, бацька і маці былі непісьменнымі. І з іх ніхто не смяяўся, таму што паблізу не было, пэўна, ніводнага грамацея. А Курынская воласць і наш Суражскі раён тым часам заклікалі: “Вучыцеся!” Дарослых і моладзь вучылі чытаць і пісаць на курсах ліквідацыі непісьменнасці. Адкрые, бывала, вясковая жанчына буквар – і ўголас:

--Сымонка, глянь сюды… Тут як у Шчалбоўскім лесе… Якая з іх “а”, і дзе тут “б”?

--На трубе, -- жартаваў лікбезаўскі сусед па парце. – Чужых авечак пасвіла?

--Няўжо ж…

--Нябось біркі на хвасты не вешала, і без гэтага пазнавала, якая авечка Сцяпанава, а якая Лявонава…

--Выдумаў яшчэ! Авечак, хоць іх будзе сто і больш, я кожную пазнаю. А тут… Гэтыя літары – вялікія і маленькія, затым, тыя і гэтыя – дваякія: адны роўненька стаяць, другія ж з хвосцікамі, схіліліся ўправа…

--І кожная з іх, заўваж, сваю асобую прыкмету мае. Зубры, зубры – і памятай іх.

Навукі сонца зазірнула і ў наша ваконца. Сястра Марыя скончыла тры класы нядзельнай школы і лічылася дома прафесарам. Чытала нам цікавыя кніжкі, з захапленнем дэкламавала вершы, пісала ад імя ўсёй нашай сям’і пісьмы блізкім і знаёмым. А Сафія стала пісьменнай па лініі лікбеза.

--А ў якія акадэміі нашага Данілу? – пачаў бацька аднойчы за вячэрай, калі набліжаўся дзень першага школьнага званка. – Іх дзве: адна па-суседству ў Дражным, а другая вось жа, адразу за парогам пачынаецца; хочаш пастухом – бяры пугу, аратым – саха і кошык пад дахам…

--Лепш купі яму буквар і задачнік, а торбу я сама сшыю. У школу яму трэба, -- настойвала маці.

--І я так кумекаю, -- прыязна пагадзіўся тата. – Няхай сабе з нашага Данілы начальнік і не атрымаецца, а пісьменным быць абавязаны. Зараз шмат размоў пра тое, як правільна зямельку даглядаць, пра сады, пра пчол, пра

скаціну ў кніжках і газетах расказваюць, Мічурына хваляць, паказваюць, за які канец перш-наперш ухапіцца, каб складаны клубок распутаць.

--Ты вось вучыся, сынку, -- звярнуўся бацька да мяне, -- як казаў адзін пісьменнік: “Вучыся, нябожа, вучэнне паможа”... Будзем араць і сеяць з разумнай кніжкай за поясам. Агралом ты наш...

--Аграном, -- паправіла Марыя.

--Няхай будзе па-твойму.

...Першы раз ішоў у Дражнінскую школу, адначасова адчуваючы радасць і пераадольваючы страх. У думках прадстаўляў, што там будзе. Вялікая цагляная школа, напэўна, у бляску прыгажосці, боязна парог пераступіць. А якія там настаўнікі? Добрыя? Чуў, што раней яны дралі вучням вушы, дубцамі па далонях білі, ставілі на калені, падсыпаючы гарох. А зараз? А што мне дадуць за тое, калі буду паслухмяным і старанным? Наказвала маці: ”Не свавольнічай у класе. Слухайся настаўніка. Каб нам сорамна за цябе не было”.

Але ўсе мае трывогі зніклі гэтак жа раптоўна, калі, прайшоўшы цёмнымі сенцамі, я пераступіў парог прасторнай хаты Сцяпана Мельячэнкі. Гэта і была тая школа, а гаспадар дома назваўся нашым настаўнікам. Хоць сам ён, як расказвалі, яшчэ пры цары скончыў толькі два класы, і тым не менш ён абавязаны быў даць нам адукацыю кожнаму за тры класы.

Пры ўсім тым мы былі задаволены сваім настаўнікам. Відаць, не тыя яго два класы, а самаадукацыя і прыроджаныя здольнасці дазволілі паважанаму Сцяпану Мельячэнку заняць ганаровае настаўніцкае месца ў школе.

Усе тры класы займаліся разам у адну змену. Для гэтага існаваў цвёрды расклад: адны паўтаралі за настаўнікам па буквары: “Эм-а-ма-эм-а-ма, ма-ма”, другія ціхенька рашалі задачы, астатнія вывучалі граматыку. Потым мяняліся па чарзе вусныя заняткі з пісьмовымі. Але гэта ніяк не тычылася гаспадыні хаты. Яна свой расклад не звязвала з нашым. Упраўлялася ля печы, чыгункі, гаршчкі і патэльні хутка перамяшчаліся з прыпечка ў печ і назад, як тыя маняўровыя паравозы. Адтуль на ўсю школу пахла смажаным. Зусім, як дома, у роднай мамы!

--Яшчэ не надакучыла? – спытаў мяне бацька, калі я скончыў Дражнінскую школу.

--Малавата.

--Дададзім. Можна вучыцца далей у Курыне, а потым у Ноўцы. Усё пад бокам.

У Курыне было пяць класаў, школа, вядомая на ўсё наваколле. Уладкаваўся. Паступова пратоптваліся яшчэ нязведаныя сцежкі ў ведах.

Мы тады вучыліся і былі памочнікамі бацькоў у сваіх гаспадарках.  Бывала, так стараешся, каб да прыстойнай школьнай адзнакі прыбавілася і татава. Вельмі не хацелася атрымаць папрок або заўвагу. А тут, як на зло, не пашанцавала.

Паехаў я з бацькам у Касачэўшчыну па дровы. Нагрузілі воз карчоў, і я павёз іх дамоў. І раптам на вузкай дарозе сустрэўся курынскі поп Гнядоўскі. Ехаў у рызе, магчыма, на малебен. Я спадзяваўся, што зверне з дарогі поп, бо ехаў ён улегцы, а ён сядзеў купінай, надзьмуўшыся, толькі нос тырчаў, падобны на сліву. Я збочыў каня, каб раз’ехацца,і незнарок зачапіў карчом рызу, і яна падралася.

Поп пазнаў бацькаву кабылу.

Разгрузіўшы карчы, я залез на печ, маўчаў, баяўся немінучай папругі.

Вечарам прыйшоў да нас дзед Пахом. Моцна злаваўся на мяне.

--Ты, -- кажа, -- што нарабіў? Бацюшку няма ў чым абедню служыць. На ўсю парафію нас ганьбіць…

--Каб большага гора не было. Няма рызы, няхай мяшок надзене, той, у якім каўбасы з кумпяком возіць, калі па хатах багамольцаў аб’язджае, --пажартаваў бацька.

Аднак жарты былі дрэнныя – давялося за рызу расплаціцца ладнай мерай жыта.

Пасля гэтага выпадку, знаходзячыся ў Курыне, я пазбягаў сустрэч з папом, а сваім аднакласнікам усяляк стараўся даказаць, што пад яго рызай хаваецца нешта самае нялюдскае.

Скончыўшы курынскія пяць класаў,  прагу да ведаў не наталіў. Мяне чакала яшчэ адна вышыня – Ноўкінская фабрычна-заводская сямігодка. Яна базіравалася пры шклозаводзе. Акрамя агульных ведаў, школа давала

спецыяльнасці  шкладуваў, цесляроў і іншыя. Я авалодваў слясарнай справай. На практычных занятках выраблялі малаткі.

Апошні год вучобы супаў з самай вялікай пасля рэвалюцыі падзеяй, якая ахапіла ўсе навакольныя вёскі: пачалася калектывізацыя сельскай гаспадаркі. З вечара і да самай раніцы працягваліся сходы сялян. Кароткае слова “калгас”, якое ўжо стала самым хадавым,  разглядалася ў такіх падрабязнасцях, што калі апісаць падрабязна ўсё сказанае пра яго, магчыма, не хапіла б паперы і часу.

Вяскоўцаў цікавіла не толькі тое, што будзе, але і чаму ніколі не бываць. І агульныя кухонныя кацялкі, і сумесныя коўдры, карацей, на што толькі была здольная фантазія.  Бедната была за калектыўнае гаспадаранне на абагуленай зямлі.  Яна бачыла ў гэтым сваю будучыню. Але не драмалі кулакі з падкулачнікамі. Гэта яны сеялі розныя небыліцы, палохалі сялян. Ішлі на правакацыі. “Вось вам і дапамагла Савецкая ўлада… Спачатку дала зямлю, каб нацешыліся, на няўдобіцы гарбы нарасцілі. А зараз аддай ёй назад; зноў у маёнткі…” Але ў нас на Суражчыне, дзе разграмілі кулацкія і эсэраўскія банды, ужо ведалі цану падобным вылазкам, давалі ворагам дастойны адпор.

Рабоце не было ні пачатку, ні канца. Яна захапіла ўсіх, уцягнула ў сваё кола вясковую моладзь.  У хатах-чытальнях наладжваліся масавыя вечары, калектыўна абмяркоўваліся творы мастацкай літаратуры, са сцэны гучалі вершы і песні. Прамень асветніцкай работы ў асноўным быў накіраваны ў цэнтры маладых калгасаў, дзе пад кіраўніцтвам сельскіх камуністаў атрымлівалі свой бурны росквіт калектыўная праца і быт калгаснікаў. Выдатным прыкладам у гэтым служыў калгас “Пралетарый”, які потым многія гады быў самым перадавым у раёне, меў пастаянную прапіску на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы, узнагароджваўся дыпломамі. Моладзь і дарослыя, якія складалі трывалы актыў хаты-чытальні, сваёй разнастайнай культурна-асветніцкай работай дапамагалі калгаснікам упэўнена крочыць па выбраным імі шляху.

Да мяне пачаў уважліва прыглядацца загадчык Суражскага раённага аддзела народнай адукацыі Колесаў. Гэтаму аддзелу ў той час падпарадкоўваліся і культурна-асветніцкія ўстановы: клубы, хаты-чытальні, бібліятэкі. Аднойчы Колесаў завязаў са мною гаворку:

--Ці жадаеш ты вучыцца? – проста адразу трапіў у маю запаветную мару.

--Хоць сёння паеду. Куды загадаеце?

--У Віцебск, на курсы настаўнікаў.

--Гэта вы сур'ёзна? – прыняў  прапанову за жарт.

--Я рэкамендую…

У той час адчувалася патрэба ў настаўніцкіх кадрах, і я апынуўся ў ліку тых, хто павінен быў запоўніць гэты прабел.

Для таго, каб стаць "гатовым настаўнікам",  мне спатрэбілася ўсяго толькі шэсць месяцаў курсавой падрыхтоўкі. Вучэбная праграма была перагружана, як іншы раз наш дзвінскі паром. Ледзьве паспявалі, і асабліва налягалі на методыку выкладання. Гэты напружаны час праляцеў незаўважна, і мяне адразу ж Колесаў благаславіў сеяць добрае, разумнае, вечнае. Спачатку настаўнічаў у Мазганах, потым у Дражні, дзе некалі сам спасцігаў першыя азы. А пазней быў залічаны ў педагагічны калектыў Курынскай школы. Адным словам, увесь час ішоў па свайму ўласнаму следу. Тады яшчэ часта мне снілася, што стаю ў гэтай школе навыцяжку перад дошкай з мелам у руцэ, а прачнуся, пратру вочы – сонца ў акне, час снедаць ды хуценька на першы ўрок.

Сярод многіх маіх вучняў у другім класе выдзяляўся Міша Сільніцкі, сын Фёдара Сільніцкага, калгаснага каваля. Міша з самага ранняга дзяцінства цікавіўся механікай, захапляўся спортам і моцна сябраваў з рабятамі. (Потым настане час, калі лёс камсамольца Сільніцкага будзе цесна звязаны з маім і іншых таварышаў).

Пасля школьных заняткаў іду ў калгас "Памяць Леніна". Там нас чакае таварыш Шарпанко, сакратар сельсавецкай партыйнай арганізацыі. Па ўказанню гэтага сардэчнага чалавека, пасланца працоўнага калектыву Ноўкінскага шклозавода, штодзённа дапамагалі калгаснікам закладваць фундамент новага жыцця.

--Таварышы, -- сказаў аднойчы Шарпанко, звяртаючыся да тых, хто араў першыя калгасныя агароды, -- рашуча стаўшы на ленінскую дарогу камуніі, вы пацвердзілі сваю вернасць запаветам Ільіча. І  сапраўды – хто быў нікім, той стаў усім. Багатым ураджаем радуюць калгасныя палі, багацейшымі

становяцца калгаснікі. Вы былі першымі, а цяпер, глядзіце, тысячы і тысячы вашых паслядоўнікаў разаралі межы аднаасобнага жыцця. Пройдзе крыху часу, і нашы вёскі стануць непазнавальнымі, вёску цяжка будзе адрозніць ад горада. Электрычнасць, трактары і машыны аблегчаць цяжкую працу на зямлі, паскораць развіццё калгасаў. Пра гэта клапоціцца ленінская партыя. Руку брацкай дапамогі падае вам рабочы клас.

А пакуль што ўсе працавалі саматужна.Салёны пот прабіваўся праз кашулі аратых, кофты жнеяк. Выручала заезджаная конская сіла.

Усталяваўся калгасны лад і ў Міхалкаве. Міхалкаўцы арганізаваліся ў калгас імя Варашылава і дружна ўзяліся за калектыўную працу. Потым аб’ядналіся ў агульную арцель з калгасам “Перамога”.

Райцавы адразу вызначылі сваё месца ў самым віры падзей. Свядома станавіліся там, дзе цяжэй. У полі сустракалі і праводзілі сонца. Іх менш цікавіў уласны заробак, а больш непакоіў агульны стан арцелі, хацелася бачыць яе моцнай, у росквіце сіл і прыгажосці.

Дарэчы, пра гэта вельмі часта казаў мой бацька.

Аднойчы, вярнуўшыся з калгаснага гумна, дзе працаваў на малатарні, доўга хадзіў па хаце ўзбуджаны. Пачаў расказваць:

--Сёння да нас прыязджаў адзін таварыш з зямельнага аддзела. Мы якраз дагружалі чырвоны абоз, адпраўлялі збожжа дзяржаве. Пацікавіўшыся нашымі справамі, прадстаўнік сказаў, што наш калгас па ўраджаях апярэдзіў у раёне ўсе гаспадаркі. Дакладна падлічана, што сёлетняга намалоту хопіць на план нарыхтовак у насенны і фуражны фонды і яшчэ някепска выдаць за працу калгаснікам. Вось якія мы! Сёння я хацеў бы спытаць у тых кулакоў, што палохалі нас калгасамі: “На чыім баку праўда? Вы нам абяцалі пекла, а ў нас сапраўдны рай! Гэта толькі першая сяўба, а яшчэ не тое будзе!”

Майго бацьку выбралі старшынёй калгаса, і ён доўгі час кіраваў калектывам. Але ішоў ён на гэту пасаду вельмі неахвотна. І выстаўляў свае грунтоўныя пярэчанні:

--Мне б сякеру, пілу, фуганак у рукі. Я будаваў бы новае, рамантаваў старое. А то – старшыня! Чытаць, пісаць не ўмею, а вы мне такую справу… Гэта, каб потым па этапу пусціць? За якія грахі вы мяне?

--Усе мы такія грамацеі, -- першым запярэчыў бацькаў равеснік і сябар дзяцінства Максім Сямёнаў. – Не хочаш сам, пусці жонку Пелагею… Наконт Пелагеі гэта я пажартаваў, яна павінна будзе табе саладуху варыць. А што датычыцца цябе, Фядот Пахомавіч, то скажам проста ўсёй грамадой: згаджайся і кіруй, мы табе давяраем больш, чым каму-небудзь. Ты ж гарою стаяў за беднату, убіраў з нашай дарогі кулакоў. А вось цяпер дазволь нам паставіць на цябе.

Упаўнаважаны з Суража, які выступаў на сходзе, пацвердзіў думку Сямёнава і дадаў, што выбар выпаў на Фядота Райцава невыпадкова: яго ведаюць як сумленнага чалавека, здольнага гаспадара. А палявой грамаце – яго не трэба вучыць.

--Памятаеш, Даніла, што я табе казаў, калі ў дражнінскую акадэмію адпраўляў? – прыпомніў бацька, вярнуўшыся дамоў “у чыне”. – Што будзеш па-кніжнаму ў полі працаваць.. А зараз гэта мне самому моцна спатрэбілася. Дык дапамагай.

Але чытаць яму нешта агранамічнае для мяне складала амаль неадольную цяжкасць . Бо мой будучы слухач рэдка меў вольны час  і ўсё больш займаўся калгасам. І кіраваў, і цяслярыў. Лічаныя хвіліны знаходзіўся ў калгаснай канторы, турбуючы рахункавода:

--Якія там паперы з раёна?

--Сёння не вельмі – толькі пяць штук.

--Пра што яны? Пачытай, калі ласка…

Старшыня ўважліва слухаў і матаў сабе на вус. Што калгасу выдзелены племянны бычок і ўказана, адкуль яго прывезці. Што прыедзе ветэрынар рабіць скаціне прышчэпкі. Што ёсць нарады на лес і цэглу. І, нарэшце, што старшыню выклікаюць на раённую нараду, дзе ён павінен будзе выступіць са справаздачай па дваццаці паказчыках.

Райцаў пачасаў патыліцу і просіць:

--Пералічы мне гэтыя паказчыкі яшчэ раз, а то адразу не ахапіў.

Справіўшыся са сваімі суфлёрскімі абавязкамі, рахункавод працягвала:

--Я вам, Фядот Пахомавіч, магу па кожнаму пункту выбраць адпаведныя даныя ў разрэзе калгаса.

--Навошта яны мне?  Каб ты ведала, яшчэ не нарадзілася ў калгасе ніводная лічба, якой бы я не даводзіўся хросным бацькам! На сёння ўсё ясна… Павесь гэтыя паведамленні на цвічок, а зверху чыстую паперку прымацуй, числo запішы, гэта для большага парадку, каб сённяшняя пошта не перамяшалася з заўтрашняй…

Службовыя паперы бацька паважаў не горш за іншага патомнага канцылярыста, хоць сам іх не чытаў. А больш пэўна будзе, калі скажу, што ва ўсіх пісьмовых указаннях, якія паступалі з Суража ці непасрэдна з Віцебска, ён адчуваў локаць старэйшых таварышаў у правільным кіраўніцтве гаспадаркай.

Кожны год спраўлялі ўдарныя дасеўкі і багатыя дажынкі. Бацька заўсёды быў на ганаровым месцы -- на куце, яму жнейкі падносілі вянок з каласоў і палявых кветак і першую чарку. Называлі добрым гаспадаром, падкідвалі ўгору.

А праз некаторы час уважылі бацькаву просьбу, калі ён прапанаваў выбраць на пасаду старшыні калгаса маладзейшага і адукаванага. Сам заставаўся намеснікам па льнаводству. Лён-даўгунец ужо тады лічыўся залатым кладам. Вырошчваць яго і даводзіць да ладу даручалася самым вопытным. Мой бацька адчуваў сябе ў гэтай галіне, як рыба ў вадзе. Не ў сэнсе “плаваў”, а акунуўся ў рэдкую для сябе стыхію. Лён радзіў на славу, прыцягваў экскурсіі з суседніх калгасаў.

Ліўнем чырвонцаў адгукнуўся даўгунец у калгаснай касе.

* * *

Бывайце, мае маленькія школьныя сябры!

Мяне паклікалі важныя зямельныя справы.

А пакуль еду ў Горкі, дзе пры землеўпарадкавальным тэхнікуме буду дзесяць месяцаў вучыцца на чарцёжніка. Потым вярнуся ў свой раён, каб прыняць непасрэдны ўдзел у выдачы калгасам актаў на вечнае карыстанне зямлёй.

Працаваць даводзілася многа, не абышлося без кур’ёзаў…

Аднойчы мне даручылі ў вёсцы Фокіна Котаўскага сельсавета правесці сход вяскоўцаў. Гэта вёска самай апошняй ступіла на калгасны шлях.

Сабралася поўная хата народу, прыйшлі  дзяды, людзі сярэдніх гадоў, кабеты, прыхапілі з сабой дзяцей.

--Гэта для поўнага парадку, каб больш галасоў было, -- жартоўна заўважыў адзін з вяскоўцаў. А другі, жадаючы апярэдзіць падзеі, сказаў:

--Вось зараз пачуем нешта пра калгасы…

--Пачуць – мала, будуць запісваць, -- удакладніў трэці.

Хутка задыміў самасад. Паміж вяскоўцамі завязалася размова, ні даць, ні ўзяць, як у тых цырульнікаў за работай.  “Калгас – гэта добра, але шкада маладога каня аддаваць”.  Або: “Туды зойдзеш… А ці будзе выхад назад, калі спатрэбіцца?” І гэтак далей.

Сход працягваўся да трэціх пеўняў. Усё было перагаворана, узважана. І ніхто не быў супраць уступлення ў калгас. І прагаласавалі дружна “за”. А прыйшоў час паставіць подпісы пад статутам сельгасарцелі, мая аўдыторыя раптам адступіла. Ніхто не жадаў распісвацца першым.

--Лысы я, ці што, каб з мяне ўсё пачынаць, -- кажа адзін.

--Калі ўсе, тады і я, -- няўпэўнена азваўся другі. І так без канца.

Тады я вывеў на статуце круг, прапаную:

--Распісвайцеся ўкругавую, па сонцы. Тады не адрозніш, хто першы, а хто апошні.

--Так можна, -- згадзіліся сяляне і за паўгадзіны афармілі дакумент.

Суражскія земаддзельцы хутка пачалі заўважаць:

--Дроў,  Даніла, на зіму не нарыхтаваў, ці што?

--Адкуль вы гэта ўзялі? – пытаю ў сваю чаргу.

--У лес глядзіш…

Тады я прызнаўся:

--Хачу зноў у Горкі паехаць. Але ўжо на пяць гадоў, каб інстытут скончыць, па землеўпарадкавальнай справе інжынерам стаць.

--Лічы, што нашы і твае думкі  сышліся, -- сказаў загадчык аддзела. – Дадзім табе накіраванне ў Горкі, толькі, братка, вучыся, а пасля – да нас. Работы па горла. Будзем разам ўпарадкоўваць землі…

А перад гэтым была ў мяне яшчэ адна гісторыя. Калі працаваў у Курынскай школе, паступіў на завочнае аддзяленне педагагічнага вучылішча. І ўжо быў на другім курсе. У той час, здаецца, у 1933 годзе, загарэлася мне апрануць чырванаармейскую форму. Падаў заяву ў ваенкамат і быў залічаны ў Ленінградскае тапаграфічнае вучылішча. Паехаў, уладкаваўся, як трэба. А следам за мною пісьмо ў часць ад аднаго кулака. Патрыётам прыкінуўся, што куды там! Жадае армію ачысціць ад такіх, як я. “Каго вы прынялі на службу? – пісаў чалавек, якога раскулачваў мой бацька. – Яго дзед Пахом Райцаў быў царкоўным старастам!” І мяне адлічылі, не ўглыбіўшыся ў дэталі, хоць асабіста я меў дачыненне да царквы такое ж, як курынскі поп Гнядоўскі да маіх поглядаў. Горка і крыўдна стала на душы, але хутка ўсё ўтрэслася. Стаў чарцёжнікам, прымераўся да калгасных земляў, а зараз  следам да запаветнай мары – у інстытут!

Цікавы быў час, яго цалкам можна было б назваць часам масавых пералётаў моладзі. Выраслі крылы, уносілі яе, узнёслую, на рабфакі, у вучылішчы, інстытуты.

Я стараўся вучыцца на “4” і “5”, пазбягаючы троек. Бо разумеў, што без глыбокіх ведаў потым буду мелка плаваць у землеўпарадкаванні, якому заўсёды надавалася вялікае дзяржаўнае заначэнне.

На канікулы прыязджаў у родныя мясціны.  Але не госцем быў.  Увесь час дапамагаў суражскім землеўпарадчыкам.

Скончыў тры курсы, толькі пераступіў экватар вучобы – і загад наркома земляробства  СССР:  прыпыніць вучобу, выехаць у свае раёны, каб адразу ж уключыцца ў кампанію па выдачы калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй.

--Тэк, тэк, -- заўважыў з сумам адзін наш аднакурснік, -- зразумела, навука без нас абыдзецца. Толькі, як нам без яе?

--Вернецеся ў інстытут, калі адказнае заданне выканаеце, -- суцяшалі нас. – Самі разумееце, таварышы: ка-лек-ты-візацыя!

Са свайго боку падкрэсліваю ў адказ, што як хто, а асабіста я ўкладваю ў маючую адбыцца паездку часцінку свайго сэрца; паеду працягваць і завяршаць тое, што пачынаў на заранку калектывізацыі. Зараз у калектывізацыі ўвесь сэнс майго маладога жыцця.

Пацягнуліся, як бясконцыя чароды воблакаў, дні і месяцы напружанай працы. За калгасам калгас. У канцы трыццаць восьмага я падлічыў, што з пачатку калектывізацыі наведаў больш за сотню вёсак. У вёсцы Фокіна Суражскага раёна ўручыў калгасу імя Сталіна апошні дзяржаўны акт на вечнае карыстанне зямлёй. У трыццаць дзевятым годзе – новая адказная кампанія: ссяленне з хутароў і адвод калгасных цэнтраў. Я тады працаваў у раёне старшым землеўпарадчыкам, з’яўляўся членам раённага камітэта камсамола і адначасова ўзначальваў пярвічную прафсаюзную арганізацыю ў зямельным аддзеле. А колькі тады было ўсялякіх спраў у кожнага раённага і сельскага работніка! Ні сну табе нармальнага, ні часу на абед. Толькі зоймешся якой-небудзь сур’ёзнай справай, як мокры снег на галаву – сігнал:

--У нас надзвычайнае здарэнне. Трубім людзей на сход. Хутчэй прыязджай…

Не едзеш, а ідзеш, хоць гэта далёка.

Памятаю, было гэта ў трыццаць дзявятым. У калгасе “Партызан” Курынскага сельсавета, у вёсцы Буглінка мы адвялі калгасны цэнтр. А хутка даведваемся, што васямнаццаць гаспадарак на чале з брыгадзірам Палікіным паспрабавалі сябе ў анархізме.  Яны за двое сутак зняліся з хутароў і талакою пераехалі не ў адведзенае месца, а куды самім захацелася.

Я аператыўна ўмяшаўся, але не так ужо лёгка было завярнуць іх на тую, што трэба, дарогу.

--Што табе ад нас трэба? – не адступалі зламыснікі. – Хто ты такі?

--Я --  старшы землямер. Ці не ведаеце? А патрэбна мне, каб быў парадак на зямлі.

--А мы – земляробы, і таксама за парадак на зямлі. Няўжо нам у аблоках гаспадарыць?

Доўга працягваліся спрэчкі, доказы і контрдоказы, але нарэшце ўсё скончылася добра. Вяскоўцы згадзіліся з нашым планам. А ў хуткім часе яны наладзілі вясёлае наваселле, пачалі з толкам абжывацца на новым месцы.

Наладзіліся наогул і ўсе справы калгасныя. Упарадкаванне земляў і ссяленне хутароў не стрымлівалі нармальнага працэсу гаспадарчых работ. Наадварот, з кожным наступным летам калгасы ўсё больш багацелі, слава пра іх разносілася па ўсёй Беларусі.

У 1939-м мяне прынялі ў рады слаўнай Камуністычнай партыі.

Першае, што мне тады прадыктавала сэрца, было: усёй сваёй дзейнасцю і паводзінамі апраўдвай давер камуністаў.

Другое: будзь гатовы да любых цяжкасцей у імя Радзімы.

Трэцяе: да канца свайго жыцця будзь верным ленінцам.

* * *

… Вось і агледжана, здаецца, усё да апошняга. А калі што якое забылася – не бяда, прыпомніцца ў дарозе, разам са зноў нажытым. Там будзе і звычайная проза нашых працоўных будняў, і меладычная паэзія нашага рамантычнага жыцця. Што чакае наперадзе, не цікаўлюся, а смела іду яму насустрач, як ідуць у розныя гавані караблі.

* * *

Свежымі былі ў маёй памяці словы Камарова: “Ты, таварыш Райцаў, малады і энергічны, можаш на справе даказаць, чаго варты”, калі назаўтра я ўжо быў на прыёме ў загадчыка ваеннага аддзела, а потым і ў сакратара абласнога камітэта партыі Г. Мельнікава.

--Абкам пацвярджае рэкамедацыю райкама, -- сказаў сакратар. – Будзьце на вышыні нашага даверу. Часу засталося мала – ідзіце ў абласное ўпраўленне НКУС, там вас чакаюць для канчатковага афармлення.

Далейшы шлях пралягаў у беларускі абласны цэнтр Вілейка, адтуль – у вёску Міхалішкі Астравецкага раёна.

Начальнік будоўлі Размысловіч вітаў мяне па-зямляцку.

--З Суража, кажаш? А я сам віцебскі. У ДЭУ начальнікам быў. Магчыма, чуў? Ну, што ж, землячок, давай пагаворым, пакурым, разам паабедаем – і за справу. У нас вунь які маштаб!

Не злічыць грузавых аўтамабіляў, рознай будаўнічай тэхнікі. Бясконцы паток конных абозаў. Цэлая армія людзей, асабліва моладзі. Да самага небасхілу вісіць над зямлёю жоўты пыл, засланяючы сонца. Зямля гарачая, як патэльня. Усё наваколле ахоплена гулам матораў, грукатам. Адусюль толькі і чуваць:

--Давай, давай!

--Уз-зя-лі…Р-раз!

“Вялізную дулю Гітлеру пад нос рыхтуюць, малайцы, рабяты!” – з захапленнем падумаў я, няспешна аглядаючы аб’ект.

Мяне прызначылі начальнікам наземных работ.

19 чэрвеня 1941 года я прыбыў па заданню ў Мінск, у Наркамат  унутраных спраў. У той час паралельна з абаронным будаўніцтвам рыхтавалася праектна-каштарысная дакументацыя, і частку яе я павінен быў даставіць на наш аб’ект.

–Тое, што вам патрэбна, -- сказалі ў рэспубліканскім Наркамаце, -- можаце атрымаць толькі ў Віцебску. Шчаслівага шляху і поспехаў!

21-га чысла я змог пабываць у Суражы. Зайшоў у райвыканкам.

--Так хутка адпусцілі на пабыўку? – здзівіліся сябры.

--Зайшоў адзначыць камандзіроўку. Заўтра – назад.

Мяне пачалі распытваць: як там, бліжэй да граніцы? Тады я з поўным задавальненнем змог адказаць:

--Колькі жыву, такога энтузіязму ў працы яшчэ не бачыў. Няхай усюды будзе так, як у нас. Нам тады нішто не страшна. Горы паравернем, любога непрыяцеля – у парашок!

А на досвітку наступнага дня ўсіх нас ашаламіла страшэнная вестка: фашысцкая Германія раптоўна, без аб’яўлення вайны напала на Савецкі Саюз. З трывогай у сэрцы я слухаў той раніцай прамову народнага камісара замежных спраў СССР В.М. Молатава, які выступаў па даручэнню Савецкага

ўрада. Можа, тысячу разоў я ў думках сваіх паўтараў: “За намі праўда. Вораг будзе разбіты. Перамога будзе за намі”.

Гэта было на вуснах тысяч і тысяч маіх віцебскіх землякоў.

У першы дзень вайны ў абласным упраўленні ўнутраных спраў мне выдалі ўсю дакументацыю, а 23 чэрвеня я ўжо быў у Мінску.

Сталіца захоўвала дысцыпліну і парадак. Працавалі ўсе прадпрыемствы і ўстановы. Як заўсёды, на мінскіх вуліцах было шмат народу. Але прыкметы вайны адчуваліся на кожным кроку. Да зборных пунктаў цягнулася чарада мабілізаваных на фронт. Час ад часу аб’яўлялася паветраная трывога, і нашы зенітчыкі стралялі па фашысцкіх сцярвятніках, якія рваліся бамбіць Мінск.

Я хачу хутчэй дабрацца да сваіх на будоўлю. І ў гэты час трапіў на станцыі Мінск пад варожую бамбёжку. Бомба ўзарвалася зусім блізка. Мяне, параненага асколкам у калена, засыпала зямлёй. Выбраўшыся, я перавязаў рану і першым цягнікам выехаў у накірунку Маладзечна. Але змог дабрацца толькі да Радашковічаў. Далей праезду не было.

--Любым спосабам прабірайцеся ў Віцебск, дзе атрымаеце далейшыя ўказанні, -- распарадзіліся ў Наркамаце ўнутраных спраў.

З Мінска да Барысава ішоў пешшу, адтуль да Оршы ехаў у эшалоне. Па дарозе сустракалася шмат воінскіх падраздзяленняў, якія рухаліся на захад, насустрач варожаму агню. Ад чэрвеньскай гарачыні трэскалася зямля, асфальт ператвараўся ў цеста. А войскі ішлі, ішлі, апаленыя сонцам. У поўнай баявой. З-пад касак выглядалі мужчынскія твары, над калонамі луналі патрыятычныя песні.

На прыпынку я разгаварыўся з адным камандзірам.

--Страшыдлам малююць Гітлера, -- гаварыў бывалы воін. – Гэты тып – сапраўдная знаходка для карыкатурыстаў. Толькі не даўгавечны ён. Прыслухайся, вунь тыя асіны плачуць па ім. Крах ім усім, як і іх далёкім сабакам-рыцарам на Чудскім возеры пры Аляксандры Неўскім… Да пабачэння, таварыш… Нам у дарогу… І табе таксама. Да сустрэчы пасля перамогі!

Абозы, абозы, абозы… Краіна апранулася ў шынялі.

Мы яшчэ верылі ў тое, што пачатая намі праграма будаўніцтва абарончых аб’ектаў будзе працягвацца дзе-небудзь у іншым месцы.

І на нашы карты быў тэрмінова нанесены 39-ты Суражскі будаўнічы раён.

Я паехаў туды неадкладна, як толькі атрымаў загад. Да месца суражскай будоўлі прыбыло да дваццаці тысяч рабочых, пяць тысяч падвод, сотні тры грузавых аўтамабіляў, шмат featureрознай тэхнікі.

Аднак ваенныя падзеі развіваліся не на карысць нашага будаўніцтва. Да Віцебска набліжаўся фронт. Фашысты бамбілі горад. Паблізу ад нас, пад Астраўскімі , варожай бомбай быў знішчаны параход на Дзвіне. Чалавечых ахвяр не было.

Пад вечар нас паклікаў да сябе начальнік будоўлі. Ён сказаў:

--Абставіны складваюцца сур’ёзныя і небяспечныя. Зараз мы павінны падабраць чатырнаццаць чалавек, якія добра ведаюць мясцовасць. З іх дапамогай ноччу пачнём эвакуацыю нашых людзей. І яшчэ задача: усё, што нам непатрэбна, каб яно не трапіла ў рукі ворага, -- трэба знішчыць.

8 ліпеня, знішчыўшы апошняе аэрадромнае абсталяванне, група таварышаў, у тым ліку і я, прабралася да Суражскага райкама партыі. У двурэччы – Дзвіны і Касплі – са 150 чалавек партыйнага і савецкага актыву ствараўся знішчальны батальён. Райкам у гэты адказны час ператварыўся ў баявы штаб.

## ПАКЛІКАЎ РАЙКАМ

Быццам усе дарогі і сцежкі, якія былі на Суражчыне, у гэты дзень збегліся да райкама, прывёўшы шмат людзей з усіх куткоў раёна.

Спяшаўся туды і я з групай камуністаў.

Ішоў трэці тыдзень вайны. І хоць яна няўмольна набліжалася да правабярэжжа Заходняй Дзвіны, Сураж знешне нагадваў мірны гарадок. Людзі спакойна ўладкоўвалі свае надзённыя справы. Нармальна працавалі банк, сувязь, гандлёвыя кропкі. Мірным было і суражскае неба – яго яшчэ не трывожылі фашысцкія сцярвятнікі.

Людзі, што былі выкліканы ў райкам, паводзілі сябе ўраўнаважана, і не сум з жальбою, а мужнасць і вера ў святую справу ляглі на іх твары глыбокім адбіткам.

Калі я зайшоў, у кабінеце першага сакратара Камарова знаходзіліся члены бюро райкама партыі і раённага выканаўчага камітэта са старшынёй  Барысам Максімавічам Вярташкам.

Першы сакратар райкама выйшаў з-за стала, прывітаўся са мною поціскам рукі і нібы жартам сказаў:

--Такім кулаком, як твой, Даніла, можна забіваць акупантаў без зброі. – І тут жа дадаў: -- Экстрана склікалі расшыранае бюро райкама. На парадку дня – адпор ворагу. Прысядзь. Хутка пачнём. Дарэчы, ты хочаш нешта сказаць? Паслухаем…

Я далажыў, што аэрадромнае абсталяванне знішчана ўшчэнт. Людзі эвакуіраваны ў глыбокі тыл. Сюды прыбыў з групай камуністаў. Чакаем даручэнняў.

Першы сакратар акінуў позіркам прысутных, якіх з кожнай мінутай прыбаўлялася.

--Каго чакаем? А, Мінaя Піліпавіча Шмырова…

Яшчэ з часоў грамадзянскай вайны гэты чалавек карыстаўся народнай любоўю і славай. Ён вадзіў партызанскія атрады на разгром ворагаў маладой Савецкай рэспублікі. Мінаеўцы наводзілі  на кулацка-эсэраўскія банды жах. Пад іх нагамі гарэла зямля. Камуніст Шмыроў за мужнасць і адвагу быў узнагароджаны ордэнам баявога Чырвонага Сцяга.

З Мінаем Піліпавічам я быў знаёмы даўно. Кожная сустрэча з ім пакідала штосьці сваё, незабыўнае. Пра былое ён расказваў лаканічна, з уласцівым яму гумарам: “Быў на пазіцыях першай імперыялістычнай. На немцах практыку праходзіў. Тры георгіеўскія крыжы зарабіў. А бацькам Мінаем мяне пачалі называць, калі яшчэ быў дзецюком.  У сям’і нас было многа, я ж самы старэйшы.  Гадаваліся без бацькі. Асноўны цяжар лёг на мае плечы. Адтуль і пайшло: бацька”.

У гады мірнага будаўніцтва Мінaя можна было бачыць на рыштаваннях пяцігодак. Ішоў туды, дзе было цяжэй. Дбайны, кемлівы і разважны, ён бачыў

толк у кожным пачынанні. Карыстаўся высокім даверам народа, выбіраўся членам ЦВК БССР, а пазней – у Вярхоўны Савет рэспублікі. Верна служыў інтарэсам дзяржавы і выконваў усе наказы выбаршчыкаў. Асабліва паважаў людзей майго пакалення, даваў нам пуцёўку ў жыццё.

…Неўзабаве ў кабінет першага сакратара ўвайшоў Мінай Паліпавіч. Настрой у яго быў няважны. Прывітаўшыся, ён спыніўся пасярэдзіне пакоя, пачаў:

--Непарадак, таварышы… Паглядзелі б, што дзеецца на тым беразе Дзвіны! Скапіліся натоўпы людзей, якія эвакуіруюцца з Віцебска, а паром … быццам тая чарапаха. Перавоз цераз раку надзвычай замаруджаны. Як гэта небяспечна – не вам даказваць…

Старшыня райвыканкама падхапіў картуз – і да выхаду.

--Мабілізую камунальнікаў, -- на хаду кінуў ён і прыбавіў крок.

Запланаваны ў райкаме рэгламент не парушыўся. Пасяджэнне бюро пачалося ў вызначаны час.

--Фашысты, несучы вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы, -- пачаў  сакратар, -- наступаюць на Віцебск з боку Бешанковічаў і Полацка. Але гэта часовы поспех акупантаў. Вораг будзе разгромлены. Чырвоная Армія праяўляе цуды гераізму. Яна непераможная. Бо нікому і ніколі не перамагчы таго народа, які адстойвае свае заваёвы – заваёвы Вялікага Кастрычніка!

Маці-Радзіма апранула ў шынялі сваіх сыноў, благаславіла іх на ратныя подзвігі. Час брацца за зброю і суражанам. І ў першую чаргу – партыйнаму актыву, камуністам… А цяпер, таварышы, бліжэй да справы. – Сакратар трымаў у руках тэлефанаграму за подпісам сакратара абласнога камітэта партыі Івана Андрэевіча Стулава. Растлумачыў: -- Сёння для адпору ворагу створым і ўзброім баявыя адзінкі: у Суражы – знішчальны батальён, у Ноўцы на шклозаводзе і ў Пудаці на кардоннай фабрыцы – баявыя атрады. Зброі пакуль што ў нас мала, магчыма, на ўсіх і не хопіць…

Прамоўца неяк схамянуўся:

--Часу на роздум у нас няма. Зараз трэба неадкладна дамовіцца аб асабовым і камандным саставах батальёна і груп – раз, аб іх задачах – два. І мець на ўвазе, што давядзецца  выступіць у любы момант, можа, нават сёння…

Перш-наперш быў сфарміраваны знішчальны батальён. Камандзірам яго прызначаны начальнік раённага аддзялення міліцыі Пузака, камісарам – памочнік сакратара райкама партыі Лясаў, начальнікам штаба – старшыня раённага савета Асаавіяхіма старшы лейтэнант Грума, а інтэндантам па забеспячэнню харчаваннем – загадчык дарожнага аддзела Валковіч.

--А Даніла Райцаў, -- сакратар райкама паглядзеў на мяне, -- узначаліць батальённую разведку. Ён працаваў землеўпарадчыкам, яму ў раёне кожная сцежка вядома.

У асабовы састаў батальёна ўключалася сто трыццаць байцоў з ліку савецкага і партыйнага актыву Суражскага раёна.

Пудацкі атрад узначаліў Мінай Піліпавіч Шмыроў. Камісарам прызначылі сакратара партыйнай арганізацыі кардоннай фабрыкі Рычарда Уладзіслававіча Шкрэду, начальнікам штаба – інжынера Голубева. Затым укамплектаваўся Ноўкінскі атрад на чале з дырэктарам шклозавода Сямёнавым. Камісарам атрада зацвердзілі Ліпскага, а начальнікам штаба – Ляонава.

Калі пасяджэнне бюро завяршалася, сакратар райкама папрасіў, каб выступіў герой грамадзянскай вайны Мінай Піліпавіч Шмыроў.

Мінай Піліпавіч устаў з крэсла, у знак падзякі пакланіўся актыву. Калі пачаў гаварыць, у кабінеце ўсталявалася цішыня.

--Не такі вораг і страшны, калі падысці да яго ўшчыльную і разабраць яго па ўсіх костачках. Ну, немец… Ну, Гітлер… Правільна тут было сказана, што ніхто і ніколі не пераможа той народ, імя якому – савецкі!

Некалькі чалавек дружна падхапілі: “Правільна!”

А Мінай працягваў:

--Не падумайце, што я збіраюся закідаць акупантаў яловымі шышкамі. Не. Трэба ўсім нам ведаць, што маем справу з лютым зверам, узброеным да зубоў. А ў нас і ёсць каму і ёсць чым даць яму па зубах! Наша Чырвоная Армія яшчэ пакажа Гітлеру, дзе ракі зімуюць. Тое, што немцы залезлі ўглыб, горш для іх, у пастку трапяць. І ў сувязі з гэтым – наша задача… стварыць у тыле ворага другі, партызанскі фронт. Каб кожны куст, кожная купіна стралялі па ворагу! Якімі павінны быць метады партызанскай барацьбы? Тут няма

цвёрдай тэорыі. А ёсць успаміны пра былое, дзе выкладзена многа захапляючых эпізодаў. З часоў Дзяніса Давыдава і асабліва з грамадзянскай вайны.

Кожны новы дзень партызанскай вайны не падобны на папярэдні, а ўсё залежыць ад абставін, якія складваюцца па-рознаму ў кожным паходзе, у кожнай засадзе. Самі партызаны з’яўляюцца непасрэднымі творцамі сваёй ваеннай стратэгіі. Але ёсць у нашых руках і некаторыя пастаянныя козыры. Па-першае, абсалютная большасць з нас – тутэйшыя, нам вядомы ўсе ўваходы і выхады, і гэта дазваляе нападаць  на ворага знянацку, адкуль ён нас не чакае, а пры неабходнасці і грунтоўна замаскіравацца, асабліва ў лясістай або забалочанай мясцовасці. І вось яшчэ што важна ўлічыць. Варожыя войскі рухаюцца ў асноўным па бойкіх бальшаках, а ў глыбінкі рэдка заглядваюць. Там мы і павінны асталявацца. З больш шырокім развіццём партызанскага руху мы зможам стаць поўнымі гаспадарамі становішча на ўсёй суражскай зямлі. Не акупанты нам, а мы ім будзем дыктаваць сваю волю.

Трэцяя ўмова – жыць у цеснай дружбе з насельніцтвам, нікога не крыўдзіць, а тым больш не замахвацца на маёмасць. Чацвёртае: у партызанскіх атрадаў павінна быць жалезная дысцыпліна, як і ў арміі. Штодзённа будзем весці ў падраздзяленнях і сярод насельніцтва растлумачальную палітычную работу, падпарадкаваную свяшчэннай мэце – перамозе.

Калі Мінай Піліпавіч закончыў, сакратар райкама вярнуўся да ўзбраення батальёна і атрадаў.

--Здабывайце трафеі. Пабольш вінтовак і патронаў! Запасайцеся бутэлькамі з гаручай сумессю, каб паліць варожыя танкі. Знішчайце акупантаў паўсюдна, дзе б яны ні паявіліся.

Шмыроў і Сямёнаў паехалі мабілізоўваць рабочых у баявыя атрады, а мы ўшчыльную заняліся сваім батальёнам. Падзялілі падраздзяленне на асобныя групы па знішчэнню варожых танкаў, мініраванню дарог і мастоў, вядзенню разведкі, забеспячэнню і г. д.

Неўзабаве атрымалі вінтоўкі, а да іх па пяць-шэсць патронаў. У першы ж дзень, калі вывучалі вінтоўку, вялі прыцэл ухаластую, бо трэба было берагчы боепрыпасы.

Восьмага ліпеня занялі баявыя пазіцыі. Група з бутэлькамі акапалася каля будынка райспажыўсаюза на левым беразе Касплі. А другія дзве групы замініравалі масты на Касплі і Суражцы.

--Штосьці не чуваць арыйцаў… Га? – не цярпелася Валковічу. – Вунь якую гару бутэлек нарыхтаваў. Не гандляваць жа мне імі. А рукі так свярбяць, так свярбяць… Бухнуць бы! Га?

Жарты на вайне – рэч добрая. Яны ўзнімаюць баявы дух. Але не паспеў Валковіч расказаць нешта смешнае, як з пасялковага Савета нам данеслі, што каля задзвінскай вёскі Калінка ідуць варожыя калоны.

Гэта навіна ўмомант падняла батальён на ногі. Настрой у байцоў быў такі, што кожнаму хацелася як мага хутчэй паслаць у лоб праціўніку сваю кулю.

Праз некалькі гадзін мы пачулі глухія раскаты артылерыйскай кананады – бой завязаўся каля вёскі Казанава, на паўшляху паміж Віцебскам і Суражам. Чырванаармейскія часці адступалі, стрымліваючы націск праціўніка.

Усе групы нашага батальёна круглыя суткі пільна дзяжурылі на сваіх пастах. Я, Міканенка, Арэхаў, Зайцаў, Пурыжонак, Смольскі, Качаргін, Герасімаў, Чарнышоў  і іншыя стралкі занялі абарону на правым беразе Касплі.

А падзеі нарасталі. Фашысцкая авіяцыя наляцела на Сураж, відаць, каб выклікаць паніку, разбамбіць мост цераз Касплю, перарэзаць шлях адступлення нашым войскам і перашкодзіць эвакуацыі насельніцтва з Віцебска. Каля вёскі Астраўскія фашысцкая бомба разбіла параход “Тэльман”, які стаяў ля прычала. Другая знішчыла дом паблізу касплянскага моста ў Суражы.

Раніцай 11 ліпеня ў Сураж уварваліся варожыя танкі, машын восем. Спыніліся каля рэдакцыі газеты “Ударнік”, адкрылі ў танках люкі, вылезлі, азіраюцца. Бачаць: мост цераз Касплю ўзарваны. Гэта пастараліся мінёры з нашага знішчальнага батальёна. Эх, пальнуць бы па фашыстах з правага берагу! Аднак пакуль што заўчасна, трэба эканоміць боепрыпасы.

Заляглі ў акопы, не зводзім з гітлераўцаў вачэй, напружана чакаем, калі тыя самі папросяцца да нас на прыцэльныя мушкі.

А яны і на самой справе з першых мінут адчулі сябе як на беразе Рэйна. Ідуць спакваля, у развалку, гергечуць. Спусціліся да вады. Пачалі распранацца.

Прыцэльваемся: па галышу на кожную мушку. Гітлераўцы – у ваду, а мы па камандзе “Агонь!” трапна пасылаем кулі; восем фашысцкіх ваяк патанулі ў касплянскіх хвалях. Астатнія пахаваліся ў танках, не рызыкуючы перапраўляцца на наш бераг.

Тры гадзіны маўчаў варожы стан. Потым падцягнулася падмацаванне, і праціўнік пачаў абстрэльваць з танкаў правабярэжжа. Параіўшыся, мы рашылі адысці. Сілы былі няроўныя. Па той бок скацілася варожая лавіна, гатовая ўмомант абрушыцца на ўсходнюю частку пасёлка, а ў нас мала людзей і боепрыпасаў.

Адступленне…

Дакуль яно будзе? Дзе той паваротны рубеж?

Гляджу на сваіх таварышаў па зброі, і ў іх цвёрдай хадзе, у кожным твары ўгадваю ўпэўненасць.

--Ладнае купанне мы наладзілі фашыстам у рацэ! І ты не памыліўся, васьмёра не вынырнулі з Касплі? – пытаюся ў Міканенкі, які крочыў побач і насвістваў нейкую паходную мелодыю.

Учарашнія трапныя выстралы па фашысцкіх танкістах уздзейнічалі на байцоў батальёна натхняюча.

Наш шлях ляжаў у лясную Касплянскую дачу праз вёскі Бадрэўшчына, Азаркі. У лесе натрапілі на правіянт – многа селядцоў, сыру, тлушчу, цукру, круп. Да нашага прыходу ў гэтай мясціне буксавалі грузавікі, частку прадуктаў скінулі. Мы папоўнілі імі свае запасы, а астатняе раздалі жыхарам вёскі Азаркі.

На начлег нас прыняло ўрочышча Канішчаўка. Я з групай байцоў заначаваў на хутары лесніка Лініна.

Сон быў салодкім, але  трывожным. На досвітку, калі начлежнікі храплі на ўсе лады, скрозь сон пачулася:

--Уставайце, уставайце… Хутчэй! Немцы!..

Нас будзіў ляснік.

--Зусім блізка… каля хутара, -- працягваў Лінін, -- высадзіўся нямецкі дэсант.

Усіх паднялі па баявой трывозе.

--У разведку на пошукі дэсанта! Хто са мною? – І тут жа да мяне далучыліся работнік раённай інспекцыі ЦСУ Каніксон і яшчэ некалькі ўзброеных байцоў. Астатнія замаскіраваліся ў кустах.

Нечакана перад намі выраслі ўзброеныя чырванаармейцы. Яны нацэлілі на нас дулы вінтовак, скамандавалі:

--Стойце, а то будзем страляць!

--Фашысцкія шкуры! – са злосцю крыкнуў адзін з чырванаармейцаў і ўжо замахнуўся прыкладам, але яго паспелі ахаладзіць свае. – Хіба сляпыя, не бачыце, -- спрабаваў яшчэ раз кінуцца на нас той баец, -- гэта ж пераапранутыя фрыцы, дэсантнікі. Яны нас абстралялі!

Мы паказалі пашпарты, ваенныя білеты, аднак нічога не дапамагло – нас прымалі за нямецкі дэсант.

--У такім разе, -- уношу кампрамісную прапанову, -- вядзіце нас да свайго камандзіра, ён нас рассудзіць правільна.

Хутка прыскакаў на кані камандзір часці ў званні маёра. Мы яму падрабязна расказалі, хто такія і як аказаліся тут, а ён уважліва слухаў. Затым на гэту стаянку падцягнуўся ўвесь наш атрад, сто трыццаць пяць чалавек. Размова працягвалася спакойна.

Камандзір часці прасіў параіць, як лепей з Канішчаўкі прайсці на Веліж. Увесь маршрут я паказаў на тапаграфічнай карце. Маёр падзякаваў і пачаў збірацца ў дарогу.

--Вазьміце нас з сабою, будзе для фронту добрае папаўненне, -- прапануем камандзіру часці.

У адказ ён пачаў хутка развітвацца.

--Не можам, -- сказаў рашуча. – Мы самі прабіваемся з варожага акружэння. І не маем права браць вас з сабою. Перад вамі пастаўлены адказныя задачы па барацьбе ў тыле ворага. Жадаю вам баявых поспехаў, таварышы!

…Чырванаармейцы пайшлі на ўсход, а мы засталіся ў лесе.

Пасылаем людзей у разведку на дарогу Сураж – Веліж. Даведваемся, што немцы буйнымі сіламі рухаюцца на ўсход. А частка мірнага насельніцтва вяртаецца ў Сураж. Бальшак запруджаны людзьмі, у небе бясконца равуць

нямецкія самалёты. Кулямётныя чэргі паліваюць свінцом дарогі і пералескі. Гудзе зямля. Ад выбухаў уздрыгвае лес.  А ў сэрцы кожнага з нас кіпіць нянавісць.

Вайна, здавалася, пакідала нас ззаду.

Неўзабаве я аб'явіў збор.

Першым павінен быў сказаць сваё важкае слова Пузака, камандзір знішчальнага батальёна. Але Пузака прысеў, выціраючы з твару рукавом пот і раз-пораз моўчкі азіраючыся на ўсіх, хто сядзеў побач.

Пачаў я:

--Хопіць. Засядзеліся. Быццам тая квактуха на яйках...

--І куранят не вывелі, -- перабіў Міканенка.

--Трэба сёння ж зняцца адгэтуль у новы раён, каб пачаць барацьбу супраць ворага па-партызанску, да чаго заклікаў нас па радыё таварыш Сталін. І яшчэ скажу, чаму нам нельга больш заставацца ў гэтых мясцінах. Нашы разведчыкі з задання не вярнуліся, а ліха яго ведае, хто з мінуты на мінуту па іхняй сцяжынцы да нас завітае. Немцаў маю на ўвазе. Пойдзем да хлопцаў Мінаая Шмырова. Я ўпэўнены, Мінай Піліпавіч ужо гуртуе партызан.

Бачу, амаль уся наша дружына ажывілася. Чую адабрэнне:

--Правільна, не лезці ж добраахвотна ў лапы акупантаў, а біць іх.

--Арганізавацца ў баявы партызанскі атрад!

--Іншай гаворкі не можа быць!

На карысць перадыслакацыі выказалася большасць.

Лёс атрада паставілі на галасаванне.  Лес рук узняўся ўгору за маю прапанову.

Пакінуўшы ўрочышча Вал,  мы ўзялі кірунак на Плоты, Антонаўку, Стасенкі. Быў намер ноччу перайсці шасейную дарогу Сураж – Веліж, затрымацца ў вёсцы Дубраўка і адтуль фарсіраваць Заходнюю Дзвіну.

Рухаліся стройна, без прывалаў.

У Антонаўцы нас падсцярог фашысцкі разведвальны самалёт. Кружыўся і абстрэльваў. Людзі разбегліся, хто куды. І толькі пад вечар на ўмоўленую

стаянку з’явіліся сто чалавек. Некаторыя прыйшлі разутымі. Спачатку адчувалі сябе няёмка, а, пасмялеўшы, даказвалі:

--Хіба ж у чаравіках ад самалёта ўцячэш?!

Бальшак перасеклі ноччу па праveраным разведкай маршруце. Затрымаліся ў лесе ў Дубраўскай дачы, каля самай Дзвіны.

Вялі набярэжную разведку.

Неўзабаве наш разведчык прыбег з гушчару, дакладвае:

--У лесе … васьмёра … Спяць .. у хмызняку …Па форме – чырванаармейцы…

Яны трапілі ў акружэнне, блукалі на лясах, шукаючы надзейнае выйсце, выбіліся з апошніх сіл, сон скасіў іх у кустах.

--Якія ў вас планы? – пытаюся ў акружэнцаў.

--Прабіваемся да сваіх…

--А калі да нас, у партызаны? Якая вам розніца, дзе знішчаць акупантаў, на фронце, ці ў тыле?

--Яно так, -- пачаў адзін з іх нерашуча, -- але ж прыпіска да вайсковай часці і воінская прысяга абавязваюць…

--І прысяга застанецца ў сіле, і прыпіска будзе адмысловая, партызанская…

Перагаворы былі кароткімі, байцы ўліліся ў наш атрад.

У тую ноч фарсіраваць раку не ўдалося. Высветлілася, што не ўсе ўмеюць плаваць. А лодачныя пераправы, якія былі на беразе, знішчылі гітлераўцы.

На другія суткі ўбачылі дзіва: уніз па Дзвіне плыла баржа, загружаная каменным вугалем, без парахода. Плыла блізка ад нашага берагу, і затрымаць яе было няцяжка. Неадкладна адшукалі жэрдкі, каб кіраваць баржай і пераправіцца на левы бераг.

Плывём. І раптам бачым, як на тым беразе бягуць да ракі людзі з ручнікамі на плячах.

--Вунь шмыроўцы!

Умомант пазнаю: немцы! Даю каманду:

--Пакінуць баржу – і ўброд на сваё ранейшае месца!

…У лесе знайшлі гармату. Якая штука! Будзе чым дастаць фашыстаў на тым баку ракі. Але што гэта? Дзе затвор, прыцэл? Пачалі шукаць у кустах… Ура, знайшоўся затвор! Можна гармату зараджаць, балазе, ёсць і снарады! А як быць без прыцэлу?

--Не бяда, таварышы, -- за справу ўзяўся адзін з акружэнцаў. – Я артылерыст, умею трапна біць прамой наводкай. Толькі пакажыце, куды!

У гэты час за Дзвіной паказаліся дзве аўтамашыны з гітлераўцамі. Было не да разважанняў. Камандую:

--Прамой наводкай па праціўніку … агонь!

Хоць мішэні рухаліся ўздоўж ракі, тым не менш выстрал быў  трапны. Мы ўбачылі клубы чорнага дыму, а затым і рэшткі машыны.

Байцы атрада ад радасці абдымаліся, падкідалі ўгору нашага артылерыста.

Затым пайшлі на пошук шмыроўцаў. На лясной паляне, каля самай дарогі, знайшлі мноства лістовак.

--Нашы! Савецкія!

--Нас на бітву з ворагам клічуць!

Лістоўкі былі за подпісамі наркома абароны СССР Маршала Савецкага Саюза С.К. Цімашэнкі і першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі П.К. Панамарэнкі. Кожны радок, кожнае слова бралі за душу. Фашысцкія захопнікі, уварваўшыся на нашу свяшчэнную зямлю, рабуюць, забіваюць, гвалцяць, паляць. Крывёю, руінамі і папялішчамі ўсеяны шлях, па якім прайшлі чужынцы. У тыле ворага трэба ствараць пешыя і конныя партызанскія атрады, дыверсійныя групы, усіх здольных насіць зброю ўзнімаць на ўсенародную свяшчэнную барацьбу.

--Смерць нямецкім акупантам! -- прачытаў я ў апошнім радку.

--Смерць! Смерць! Смерць!

Сабраўшы лістоўкі, мы неслі іх па маршруце, які ляжаў цераз лясныя вёскі, каб узнімаць, клікаць людзей на барацьбу, усяляць у іх веру ў нашу перамогу.

Разведка далажыла, што на Новааляксандраўскім ільнозаводзе ў апошнія дні ліпеня паяўлялася група ўзброеных людзей. Можа, гэта  людзі Міная

Піліпавіча Шмырова? Асцярожна заводжу гаворку з жыхарамі вёскі Цімахі, дапытваюся. Адны моўчкі паціскалі плячыма, другія, пачуўшы слова “партызаны”, старані́ліся мяне.

Адвячоркам зайшоў да лесніка Стымбала, які жыў каля ракі Усвяча. Гаспадар быў дома. Зачыніўшы на крук сенцы, ён ціха звярнуўся да мяне:

--З якім ветрам да нас?

--Я прыбыў з атрадам. Ідзём на сувязь з Мінаем Шмыровым. Чулі, ён дзесьці тут…

Стымбал хітравата ўсміхнуўся, а затым кажа:

--Ёсць такі чалавек, ёсць. Зараз, мабыць, ён у лазні на палку парыцца…

Я ўсумніўся:

--Шмыроў? Сам Шмыроў?..

--А хто ж яшчэ? Пойдзем… Дам вам лодку, каб цераз Усвячу да Міная Піліпавіча…

…Апынуўшыся ў вузенькім прылазніку, я ўважліва прыслухаўся. Ціхутка адчыняю дзверы. Праз шчыліну мой твар абдало жарам.

--Хто там?

--Даніла. Райцаў. Можна?

--Заходзь, заходзь, цыбаты сябар…

--З лёгкай парай, Мінай Піліпавіч!

--Дзякую, сынок… Адкуль ты ўзяўся? Я ўжо думаў, куды мой паважаны каморнічак дзеўся? А ты – во!

--Амаль што побач з вамі знаходзіліся… Я тут, Мінай Піліпавіч, з атрадам… Ёсць аб чым пагутарыць…

Паддадзеная Шмыровым пара рабіла сваю справу. Па ўсім целе ручаямі паплыў пот. Пахла бярозай, дубам і ядлоўцам ад моцна распараных венікаў. Я скруціўся на караткаватым для мяне палку баранкам, а Мінай Піліпавіч лупцаваў мяне то адным, то другім венікам. У лазні, мне здалося, быццам пяць пудоў са спіны скінуў.

Потым зайшлі да Стымбала. За вячэрай працягвалася наша дзелавая размова. Я падзяліўся з Мінаем лістоўкамі.

--Дык гэта ж сапраўдны скарб! – ажывіўся ён, прачытаўшы зварот. – Мы гэтыя лістоўкі павінны ад рукі размножыць, пусціць у народ. – І крыху прыціхлым голасам дадаў: -- Так яно і ёсць, пачынаецца ўсенародная партызанская вайна. З намі пойдуць сотні і тысячы, будзе гарэць зямля пад нагамі фашысцкай погані!

Я акрэсліў у агульных рысах увесь наш шлях ад Каспллі да Усвячы. Шмыроў уважліва слухаў і толькі зрэдку ўстаўляў: “Вось як. Правільна. Так і трэба было. Па-партызанску”.

--Мы хочам, Мінай Піліпавіч, для барацьбы супраць ворага аб’яднацца з вашым атрадам, -- уношу прапанову.

А Шмыроў кажа:

--У прынцыпе я не супраць, але лепей, каб былі два атрады – мой і твой.  На агульны атрад харчавання не хопіць. У нас жа, сам ведаеш, сваіх інтэндацкіх складоў няма. Бярыце кірунак на Шчалбоўскую дачу, у ваколіцы Ноўкі. Там ужо дзейнічае атрад шклозаводцаў. Звяжыцеся з Сямёнавым, Ліпскім. І з намі сувязей не губляйце.

Пад канец размовы Мінай Піліпавіч даў шэраг каштоўных парад адносна вядзення партызанскага бою, разведкі, засад і дыверсій, сувязі з насельніцтвам, папаўнення атрада, забеспячэння яго зброяй, адзеннем, харчамі.

--Ну, як кажуць, ні пуху, ні пяра, -- сказаў ён на развітанне. -- І галоўнае – ніякага спуску ворагу і ягоным памагатым.

Наш партызанскі атрад рушыў ляснымі дарогамі ў ваколіцу рабочай Ноўкі.

ПАРТЫЗАНСКІЯ  “ПАЧАСТУНКІ”

Атрад спыніўся ў зоне Ноўкінскага лясніцтва.

У лясных дачах цвілі верасы. Над палянамі вісела машкара, а ў празрыстае паветра ўрываўся хвалямі водар жывіцы. Моцна прагрэтая зямля зіхацела

трэшчынамі. І хоць надышоў верасень, усё наваколле нагадвала гарачае лета. Нават у самой прыродзе адчувалася гарачая трывога.

І ўсё гэта дапаўняў грукат калёс, які даносіўся з навакольных бальшакоў. Там – гітлераўцы…

Колькі іх – няважна. Будзем лічыць мушкамі вінтовак, гранатамі, зарадамі толу. А пакуль што вядзём глыбокую разведку, вывучаючы абстаноўку.

…Акупанты ўзмацнялі сваё становішча. У Суражы і Жабенцяях размясціліся буйныя гарнізоны карнікаў. У Курыне, Пышняках і Мікалаёве дзейнічалі нямецкія ўправы. Гітлераўцы кантралявалі ўсе дарогі, якія звязвалі вёскі з Віцебскам, Суражам і Веліжам. Шнырылі паўсюдна, шукаючы партызанскія сляды. У Ноўцы ім удалося натрапіць на баявую падпольную групу Ліпскіх. І карнікі па-зверску расправіліся з савецкімі патрыётамі. У фашыстаў быў яшчэ адзін план: рабаваць народнае дабро і забяспечваць ім гітлераўскую армію.

Я сабраў атрад у цёмным лесе, выклаў перад ім даныя разведкі і накрэсліў контрмеры. Звяртаючыся да партызан, сказаў:

--Мы іх “накормім”… Лопнуць гадзюкі ад злосці, а нашым хлебам не паласуюцца…

І мы нацэліліся на Курына. Трэба было ўзарваць паром на Заходняй Дзвіне, каб пазбавіць ворага карацейшага шляху дастаўкі правіянту ў Віцебск і іншыя гарнізоны, разграміць курынскую ўправу, паралізаваць усе акупацыйныя “нарыхтоўкі”.

Як нам стала вядома, фашысцкія захопнікі тое-сёе для сябе ўжо накапілі. Быў запас зерня, фуражу. Пакваціліся і на калгасную жывёлу. У Ізахове на мясцовым заводзе перад пачаткам вайны была выраблена вялікая колькасць цэглы для патрэб мясцовага насельніцтва, якую не паспелі рэалізаваць. Цяпер гандаль цэглай разгарнула ўправа. Уся выручка прызначалася на карысць акупантаў. “Нарыхтоўшчыкі” дзейнічалі адкрыта і нахабна, а іхнія апетыты разгараліся ўсё больш. Аднак яны не ўлічвалі таго, што за кожным іх зладзейскім крокам сочыць уся Суражчына, як адзін чалавек, гатовая дапамагчы партызанам.

Рушылі на Курына невялікай групай – я, Яфім Фёдаравіч Клімовіч, Іван Якаўлевіч Кандрацэнка, Парфен Якаўлевіч Каралёў. Мы пераапрануліся ў форму савецкіх лётчыкаў, запасліся патронамі і гранатамі. А надзейнай

памочніцай у нас была цёмная, як бездань, ноч. Уся аперацыя была распісана па мінутах. Кожны ведаў, што рабіць і як дзейнічаць.

Асцярожна наблізіліся да Дзвіны. Прыслухаліся. Ні жывой душы. Ціха. Толькі дзе-нідзе чутны рэдкія ўсплёскі шчупакоў пад карчамі. А прычалены да берагу паром нагадваў робата, які моцна спаў, знядужаны перавозкамі.

--Мы цябе, небарака, на другі бок перавернем, каб смачней спалася, -- кінуў насмешку адзін з партызанаў. І пачалі адвязваць паром ад прычала.

Далейшае я ўзяў на сябе. Падрыхтаваў звязку з шасці гранат, і сілы хапала, каб шпурнуць гэты груз у цэль. Але нейкі момант сумняваўся ў поспеху, бо першы раз у жыцці давялося рабіць такое.

--Агонь! – вырвалася з маіх грудзей, і звязка паляцела бліскавіцай. Раздаўся страшэнны выбух. Паром разламаўся на кавалкі, а дзвінскія хвалі падхапілі іх і пагналі ўніз, па цячэнню.

Потым мімаходзь абмеркавалі аператыўную вартасць аперацыі. Ясна: загублена драўляная плывучая адзінка без жывой сілы праціўніка. А паглядзець з другога боку: фашысты пазбаўлены вельмі важнай пераправы, іх гарнізон адрэзаны ад Курына і Ноўкі.

--А цяпер перакурым ды ў госці да Сямёна Баканава, -- не цярпелася Каралёву. – Абяцаеш, Даніла, пачастунак будзе адмысловым?

--Будзе залежаць ад цябе, -- адказваю, -- ад таго, як ты яму спадабаешся.

Баканаў жыў у папоўскім доме, быў бургамістрам курынскай управы. Тып, якіх у Суражскім раёне было нямнога. Бо хто адважыўся служыць акупантам? Вядома, валацугі-зладзеі, былыя кулакі і іншая погань. Баканаў, які ўяўляў сябе фюрэрам мясцовага значэння, нават не здагадваўся, што паліцай Пятро Скупаў служыць не яму, а партызанам, што нашы сувязныя пазаймалі “цёплыя месцы” ў Суражы і Віцебску і будуць сярод акупантаў да таго часу, пакуль мы іх не адзавём ў свой партызанскі край.

Пятро Скупаў перад аперацыяй забяспечыў нас данымі аб становішчы ў Курыне і паводзінах бургамістра. Мы ведалі, дзе ён знаходзіцца і як яго ўзяць. Быў яшчэ адзін чалавек – Зайцаў , які пераехаў з Суража і жыў за сцяной кватэры Баканава. Гэтага мы строга папярэдзілі: што б ні было ўначы на кватэры Баканава, прыкінься глухім. У тым папоўскім асабняку прыжыўся і

трэці – вартаўнік управы, якога ўсе звалі мянушкай Спалігонь. А з ім, калі ўмяшаецца ў справу, разбярэцца начальнік штаба атрада Яўхім Клімовіч.

У госці да бургамістра пайшлі Іван Кандраценка і Парфен Каралёў.

Стукалі ў дзверы нерашуча, раз-пораз, з паўзамі.

--Хто?

--Адчыніце, пан бургамістр…

--Каму?

--З Суража… Ад пана каменданта…

--Хайль, хайль… -- прабурчаў спрасоння Баканаў і грымнуў засаўкай.

--Хайль, хайль, прадажная шкура, -- скрозь зубы вымавіў Каралёў і штурхнуў здрадніка з сенцаў у пакой.

--Маўчаць! Ні гу-гу! – папярэдзіў яго Кандраценка. – Здай зброю…

--Гэтага мала, -- дадаў Каралёў. – Кладзі на стол ключы ад сейфа. А сам…

--Таварышы… -- замармытаў Баканаў у дрыжыках.

—Мы табе таварышы? Цьфу, мярзотнік… Юда…

--Што са мною зробіце?

--Будзеш служыць фашыстам – зробім, сам ведаеш што…

--Не буду… Забі мяне пярун, не буду!.. Памыліўся, аступіўся. Прабачце апошні раз…

Баканава папярэдзілі, каб ні кроку з дому.

Зайцаў не адазваўся ні разу.

А Спалігонь паспрабаваў узняць трывогу, але натыкнуўся на Клімовіча. Той схапіў вартаўніка за каўнер і адкінуў у сенцы, папярэдзіўшы:

--Лезь у нару і нават носа не паказвай. Сляпы, не бачыш, што ў Курына высадзіўся вялікі дэсант?

Выручаць бацьку спяшаўся сын Баканава, але, убачыўшы, з кім будзе мець справу, кінуўся наўцёкі.

У Курыне ўсталявалася трывога. Ні ў адной хаце не запалілі святло, ніхто не паказаўся на вуліцы.

Наша “ціхая” работа набліжалася да завяршэння. Апошні яе этап адбываўся ў памяшканні ўправы, а аб’ектам стаў сейф. З ягонага нутра выцягнулі вялікую суму грошай, у тым ліку ўсю выручку за ізахоўскую цэглу. Забралі ўсе чыстыя бланкі акупацыйных дакументаў і сярод іх – пропускі ў нямецкія гарнізоны. Будзем прапускаць у варожы стан сваіх разведчыкаў, балазе, цяпер у нашых руках і круглая пячатка са штампам управы.  Крыху папоўнілі свой арсенал: забралі шэсць паляўнічых ружжаў, вінтоўку Баканава і боепрыпасы.

Назаўтра, калі нас зноў прыняла лясная дача, мы даведаліся, што ў Курыне з усходам сонца ўзняўся перапалох. Наша маленькая група была прынята за трыста дэсантнікаў.

...На адной з лясных дарог мы сустрэлі былога старшыню Мазалаўскага сельсавета  Міхаіла Фёдаравіча Біруліна з групай людзей.

--Куды ваш шлях? – пацікавіліся ў яго.

--На вайну, -- адказаў Бірулін. – А вы?

--Ваюем.

Я падзяліўся з Міхаілам Фёдаравічам савецкімі лістоўкамі, у якіх расказвалася аб апошніх падзеях на фронце. На развітанне мы пажадалі бірулінцам баявых поспехаў.

Восень сорак першага ўпісалася ў летапіс нашага атрада шчодрай старонкай. Партызаны набылі пэўны баявы вопыт. Наша задача – весці барацьбу разумнымі вылазкамі, з засад паралізоўваць аператыўныя дзеянні праціўніка, абрастаць людзьмі  -- выконвалася планамерна.

Гітлераўцаў супакоіла кароткае зацішша ў лясных дачах. Яны суцяшалі саміх сябе: маўляў, партызанам капут. Мусіць, мелі на ўвазе буйны налёт нямецкіх карнікаў на групу атрада Бацькі Міная ва ўрочышчы Крапівонка, дзе партызаны панеслі людскія ахвяры ў няроўным баі і вымушаны былі адступіць.

Аднак неўзабаве акупанты на ўласнай шкуры пераканаліся, што ёсць партызаны, ды яшчэ якія!

Па Вялікалуцкаму тракту, на адрэзку дарогі Шухвосты -- Віцебск, рухалася нямецкая легкавая аўтамашына. У засадзе былі Іван Кандраценка, Міхаіл Сільніцкі і ўжо залічаны ў атрад Пятро Скупаў. Трапнымі выстраламі партызаны перабілі ўсіх, хто сядзеў у машыне. А быў там эсэсаўскі генерал са світай афіцэраў.

--Як ні кажы, -- прыкінуў Кандраценка, -- генерала ўкакошыць, гэта, браце, не Баканава за грудкі тузаць. Пабольш бы іх на нашы мушкі трапляла!

Потым разграмілі ў вёсцы Шакелі млын, адкуль акупанты бралі муку і крупы. У Маскальках такі лёс напаткаў маслазавод. А ў вёсцы Ходарава фашысцкія ваякі "аб'еліся" беларускай свінінай, не пакаштаваўшы яе.

Шэсць гітлераўцаў прыкацілі туды на грузавіку. Пагрузілі ў яго сем ладных вепрукоў. І рагочуць на ўсё Ходарава. А мае хлопцы кажуць:

--Зараз мы ім такую адбіўную прыгатуем, што не праглынуць.

Партызаны дзейнічалі маланкава. Фашыстаў перастралялі, а грузавік спалілі.

Каб лягчэй было разгадваць каварныя планы акупантаў, атрад усталёўваў у Суражы свае надзейныя арыенціры. Імі былі людзі, з якімі нярэдка я сам наладжваў сувязь. Ля камендатуры ўладкаваўся наш чалавек Павел Скорачкін. Ён забяспечваў нас данымі першай свежасці. Аднойчы я прабраўся да знаёмага каморніка Сяргея Сямёнавіча Шапо. Даведаўся , што акупанты выклікалі ў Сураж стараст і бургамістраў і загадалі даносіць ва ўправу або камендатуру аб паяўленні невядомых дасюль людзей. Сабраўшы патрэбныя звесткі, я хутка вярнуўся ў атрад. А ўслед за мною пайшоў у партызаны і Сяргей Шапо.

Нарэшце фашысты даведаліся, што няўлоўнымі партызанамі ў задзвінскіх лясных дачах камандуе Даніла Райцаў – сын Фядота Пахомавіча Райцава. Тады майго бацьку, маці, сястру карнікі таксама ўзялі на прыцэл. У раёне распаўсюджваліся аб'явы аб тым, што акупанты шукаюць партызанскага камандзіра Райцава, а той, хто дапаможа знайсці і перадаць яго ў рукі гестапа, атрымае шмат рэйхсмарак.

Ішоў час. Кожная гадзіна для гандляроў маім жыццём здавалася вечнасцю. Чаму ніхто не ідзе ў камендатуру, не вязе мяне звязанага, не нясе маю адсечаную галаву? Дурні нейкія, а не людзі – ім не патрэбны грошы… Ніхто не

прадае партызана – ні лес, ні чалавек, ні птушка лясная. Шалеюць ворагі ад злосці…

У шаленстве яны зрабілі налёт на наш міхалкаўскі дом, забралі заложнікамі майго бацьку Фядота Пахомавіча  і старэйшую сястру Соф’ю Фядотаўну. Пасадзілі ў турму, пачаліся допыты. Мой бацька з часоў палону ў кайзераўскай Германіі крыху ведаў нямецкую мову, а таму разумеў, у якое павуцінне імкнуцца зацягнуць яго гітлераўцы.

А фашысты ўсё дапытваліся:

--Дзе сын?

--А хто яго ведае… Можа, жывы, а можа ўжо даўно ў сырой зямліцы…

--Даўно быў дома?

--Ой, даўно!.. Яшчэ пры той уладзе як паехаў кудысьці на работу, так і не вярнуўся дахаты.

--Ён бандыт! Партызан!

--Не можа гэтага быць. Мой сын ціхі, спакойны, і вы дарэмна яго ў бандыты залічваеце.

--Апошні раз пытаем: дзе сын-партызан?

--Каб я ведаў…

--Затое мы ведаем дзе: у лесе.

--Калі ведаеце – бярыце…

--Хопіць прыкідвацца дурнем! Павесім сына, цябе, увесь ваш род знішчым Нікога не пакінем жывымі!

Пасля доўгіх допытаў і пакут бацька паабяцаў:

--Буду шукаць. Знайду – прывяду да вас. Паслухаецца ж ён роднага бацьку…

Гітлераўцы паверылі. А бацька ашукаў іх.

Разам з бацькам пакутавалі два чырванаармейцы, якія трапілі ў палон. Абяссіленыя і змучаныя катаваннямі, яны змаглі сабрацца і развязаць вяроўкі. Вузлы грызлі зубамі, абліваліся крывёю і потам. І збеглі з палону.

Аднаму гэта ўдалося да канца, а другога дагнала фашысцкая куля. Бацька , выбраўшы зручны момант, уцёк да нас.

Карнікі пусцілі “чырвонага пеўня” – спалілі бацькаву хату.

--Мы з іх за гэта такую страхоўку спагонім! -- супакойваў я бацьку. – Агнём і дымам, у парашок сатром гадаў!

Што за парода, гэтыя гестапаўцы! Яны на самой справе паверылі, што ў нас бацька можа прадаць роднага сына!... Тады навошта ваяваць? Звярніся да бацькоў і маці ўсіх франтавікоў і партызан, і яны аблегчаць справу. Так можна не толькі да Урала, але і да Ціхага акіяна ўрачыстым маршам прайсці...

## СКРОЗЬ ВАРОЖЫЯ ЗАСТАВЫ

--Даніла, трубі збор, -- прапанаваў мне армейскі палітрук Мельянцоў. – Наспела патрэба сур’ёзна пагаварыць аб выратаванні чалавечых душ.

--Будзем спавядаць партызан?

--Вырываць з варожых цянётаў тых, хто заблудзіўся. Ратаваць іх, пакуль яшчэ не позна!

Нарада актыву партызанскага атрада была кароткай, як і ўвогуле гэта бывае ў баявой абстаноўцы, калі не да засядацельскай мітусні, калі на строгім уліку, бадай, кожнае імгненне.

Гаварылі аб такіх, як былы віцебскі бухгалтар-сувязіст Бакацоў, што ліжа фашыстоўскія боты, аб хістунах, малаверах, якія яшчэ не выбралі, да якога берагу ім плыць. З горада да нас прасочваліся самыя разнабойныя звесткі. Расказвалася аб зверскіх катаваннях, павешаных, расстраляных, угнаных у Германію. Нямецкая прапаганда вылузвалася са скуры, каб даказаць поспех “бліц-крыгу”. Масква здалася! Саветы на краі пагібелі! Днямі будзе захоплены Урал!” – не сунімалася служба Гебельса. У наш партызанскі лес даходзілі і добрыя навіны. Масква вытрымала штурм самых адборных гітлераўскіх полчышчаў, разграміла іх ушчэнт, пачалося вызваленне акупіраванай тэрыторыі на шырокім фронце. Гітлераўская Германія атрымала ўрок ваеннай катастрофы. Гебельсу трэба было трубіць не пра Урал, а часцей азірацца на Берлін, Одэр, Рэйн і Рур... На берлінскія бамбасховішчы.

Стала вядома, што ў Віцебску разгортвае сваю дзейнасць партыйна-патрыятычнае падполле. У горад праніклі дыверсійныя групы Калінінскага фронту.

--Неабходна наладзіць сувязь з Віцебскам, -- сказаў у заключэнне Мельянцоў. – Каго пашлём?

--Пайду сам, -- вызваўся без лішняга роздуму.

--А ці варта, Фядотавіч, рызыкаваць? – засумняваўся Мельянцоў. – Камандзір жа…

--Вось іменна, я – камандзір.

--Гэта яшчэ туды-сюды, на лбе не напісана…

--Мельянцоў агледзеў мяне з ног да галавы, як незнаёмага, усміхнуўся і заўважыў: -- Ты чалавек – жэрдка, факт. Вядомы чалавек. Цяжка будзе маскіравацца…

--Які ўжо вырас. Не ўкарачуся… Пайду, у мяне там ёсць надзейныя людзі.

Іду. Дарога на Віцебск бойкая, блізкая. Але толькі для мірнага часу. Цяпер кроку не прыбавіш. На кожнай вярсце разоў мо’ сто азірнешся.Не вярста, а сем міляў.

Пры мне дзве рэчы: пісталет, каб у самы крытычны момант, калі здарыцца, страляць у фашыстаў, і самае дарагое – наказ таварышаў па партызанскай барацьбе.

Гэта адбывалася ў снежні першага года вайны. Глыбокія сумёты, мароз, як па заказу. Такое немцам і не снілася!

Апоўначы, старанна абышоўшы варожыя заставы, лабірынты Пескавацікa, прыбіўся на Піянерскую вуліцу.

Асцярожна пастукаў у дзверы дома Кандрацьева. Ён тады служыў у нямецкай управе.

--Даніла! – гасцінна сустрэў мяне гаспадар на парозе. – Заходзь, заходзь… Будзеш госцем.

У пакоі на сцяне вісела геаграфічная карта. Кандрацьеў наблізіўся да яе, акрэсліў абстаноўку з выглядам ваеннага стратэга, толькі гітлераўскага тыпу.

--Масква ў кляшчах, -- даводзіў гаспадар. – Армія вялікай Германіі даказала ўсяму свету, што яна непераможная. Сёння – Масква, Петраград, Царыцын, Каўказ, Урал, Сібір – і рухне Савецкі Саюз. Няхай толькі яшчэ падключыцца Японія. Трэба быць ідыётамі, каб аказваць немцам супраціўленне. Гэта ж самагубства!

Маўчу і думаю: “Заблытаўся ты, чалавеча. Калі-небудзь схамянешся, толькі каб не было позна. І прыгадаліся мне словы Мельянцова: “Трэба як мага хутчэй вырваць людзей з фашысцкага павуціння!”

Іду да людзей, шукаю надзейных.

Медыцынскі ўрач Акаловіч зразумела мяне з паўслова.

--Праўда ваша, Даніла Фядотавіч, -- адкрылася патрыётка, -- нас не пераможа ніхто. Полымя вайны з Масквы перакінецца ў Берлін, і там згарыць датла фашызм! А што да мяне асабіста, то я гатова служыць Радзіме ўсім сваім жыццём. Суражскія партызаны могуць на мяне разлічваць: з гатоўнасцю выканаю любое іх заданне. Няхай вораг кожнае імгненне адчувае, што побач – яго вораг!

У скверы Маякоўскага я застыў. Там убачыў павешанага савецкага патрыёта. Зірнуўшы ў яго мужны твар, я міжволі ўявіў яго жывым, нявскораным, гатовым падаць кліч:

--Людзі, за зброю! Смерць фашысцкім людаедам!

У той жа дзень адбылося незабыўнае – я сустрэўся з камуністам Чарновым. Дзялюся з ім:

--Прыйшоў да вас, вядома, не на чай, а па нашых партызанскіх справах…

--Лічы, мой дарагі сябар, -- перабіў Чарноў, -- што адначасова і па нашай справе. Будзем разам.

…Хочам мець пастаянную сувязь  з горадам. Для гэтага абмяняліся сувязнымі. Пажадана атрымаць з горада партызанскае папаўненне, асабліва з ліку камуністаў і камсамольцаў.

Чарноў ажывіўся:

--Трапіў у цэль? Мы самі збіліся з ног, усё шукаем вас. Будуць нашы сувязныя, і папаўненне прыйдзе ў лес. Ёсць яшчэ арлы-рабяты. Для пачатку прышлю

дваццаць узброеных байцоў. Зараз яны сур’ёзна рыхтуюцца да экзамену на баявую сталасць: днямі павінны ўзарваць віцебскую фабрыку “Дзвіна”.

Назаўтра я быў на кватэры савецкага актывіста Бугаёва. З ім мы ўтрэслі ўсе тонкасці нашых будучых узаемных дзеянняў. І ў самы разгар гутаркі пачуўся моцны стук у дзверы. Запахла небяспекай.

--Хавайся! – Бугаёў паказаў на суседні пакой.

У пакой уваліўся ляснічы Бялько, які здрадзіў Радзіме, пачаў у поце чала працаваць на акупантаў і нават лічыў сябе мясцовым арыйцам. Аб гэтым ведалі ў Віцебску і за яго межамі. Ён быў на прыцэле ў падпольшчыкаў.

--Хайль Гітлер! – крыкнуў Бялько і разваліўся за сталом.

Бугаёў раптам апынуўся ў дамовай пастцы. Выкруціцца – гэта азначала хутчэй адправіць няпрошанага госця. Гаспадар моцна перажываў за мой лёс. Ён стараўся быць маласлоўным, а болей – маўчаць. Бялько выкрыкваў:

--Партызанаў разграмім! Усіх актывістаў перавешаем! Фюрэр за гэта нас узнагародзіць! Як ты думаеш, гер Бугаёў?

--За мяне думае фюрэр…

--Правільна. А ты? Сам?

--На вайне перамагае мацнейшы.

--Вось іменна: вялікая Германія заваюе ўвесь свет, ачысціць яго ад бруду.

--Гадзіна! – ледзь не вырвалася з маіх грудзей. – Пальнуць бы! А ў самога рука міжвольна мацае курок пісталета. Аднак стрымала канспірацыя. Прыйдзе час, і Бялько атрымае свае грамы свінца.

Бялько, відаць, упэўніўшыся, што ў асобе Бугаёва знайшоў вернага прыхільніка “вялікай Германіі”, выкінуў наперад руку, яшчэ раз крыкнуў: “Хайль Гітлер!” і падаўся з дому.

--Ну як у мяне з ім? – спытаўся Бугаёў, калі замкнуў за здраднікам дзверы.

--Лепей не прыдумаеш, -- хвалю гаспадара. – Для канспірацыі можна з ворагам і чарку выпіць.

А мне час вяртацца да сваіх.

За горадам даведваюся: карнікі ў хеўры з паліцыяй збіліся з ног, шукаючы нейкага небяспечнага каморніка: мяне, не інакш. У Подбераззі сустрэў знаёмых Мельячэнку і Фадзеенку. Па сакрэту расказваюць, што ўчора і сёння каля паўтары сотні ўзброеных немцаў шукаюць партызан. Амаль у кожную хату заходзяць.

--Сцеражыся, Даніла… -- папярэдзіў Фадзеенка.

--А якая мне справа да партызан, -- адказваю, а сам з аглядкай трымаю шлях на Барвінскі лес.

Немцы даўно пераканаліся, што вайна – гэта не толькі фронт. Ёсць фронт без флангаў. Калі страляе любы куст. І гітлераўцы пачалі прачэсваць вёскі і дубровы. Ім на кожным кроку мроіліся беларускія партызаны.

Хутка ў лесе я сустрэў дзве фурманкі – немцы везлі дровы. Я прывітаўся з імі, як толькі мог ветліва, і яны мне адказалі тым жа.

--Добра, калі большага страху не будзе, -- прыкідваю летуценна, спускаючыся да Дзвіны. І толькі дасягнуў левага берагу – вачам сваім не паверыў: насустрач імчыць на веласіпедах больш  сотні нямецкіх аўтаматчыкаў. Уступіў ім дарогу, не казыраючы. Мне дзіўна, чаго гэта я іх не цікаўлю. Што гэта за смерць, што не бярэ мяне ў свае страшэнныя кіпцюры? А мо’ яна валачэцца ззаду, хутка сустрэнецца са сваёй ахвярай лоб у лоб?

Доўга чакаць не давялося. Крыху прайшоў па вёсцы Вярхоўе, і па дарозе, што вяла на Мікалаёва, прама на мяне рухаецца нямецкі мотаабоз, сотні паўтары; у абозе нарабаваныя ў насельніцтва свінні, куры, кажухі…

--Хальт!

--Дакументы! – закрычалі раз’юшаныя карнікі.

Прыкідваюся недарэкам. Частую чалавек пяць тытунём, а аднаму афіцэру паказваю наўгад на адну з вясковых хат, кажу:

--Я тут жыву…

Афіцэр папярэдзіў салдатню:

--Не чапайце яго. Месэн…Месэн… Ён мясцовы….

Немцы адчапіліся, накіраваліся ў сваім напрамку. А мне заставалася марудна крочыць у бок той хаты, якую я назваў сваёй. А потым, як кажуць, дай бог ногі! Апоўначы апынуўся на тарфяным балоце. Там заўважыў двух чалавек. Прысеў. Раптам чую:

--Стой!

--Рукі ўгору!

Гэта былі Селязнёў з Кулікавым, нашы людзі з Пляшкова. Кулікаў мне сказаў:

--Цябе, Фядотавіч, шукаюць немцы…

--Ведаю, ведаю, не ад цябе першага чую. – А пасля паўжартам кажу: -- Тых немцаў я ўжо бачыў. Яны аказаліся надзвычай памяркоўнымі. Не чапаюць. Нават па-сяброўску разам задымілі.

З атрадам я сустрэўся ў Касачэўшчыне. А праз тры дні даведаўся пра гісторыю з маім бацькам Фядотам Пахомавічам.

Партызанскі атрад працягваў расці, і ўжо налічвалася да ста байцоў. Ішло папаўненне з Віцебска. Прыбыў І.Ф. Міканенка, які пазней стаў камісарам нашага атрада.

## ІХ БЫЛО 2500

Кажуць, каб добра пазнаць чалавека, трэба з ім пуд солі з’есці. Я з многімі суражанамі на працягу ўсяго свайго жыцця еў хлеб-соль, дзяліўся думкамі. І цяпер, калі настаў ліхі час, было няцяжка вызначыць тыя душэўныя маршруты, якія выбіралі мае землякі. Добрае веданне людзей давала падставу беспамылкова вызначыць: адных – у партызаны, другіх – засылаць у варожы стан, трэціх – пакідаць сувязнымі.

Рады лясных салдат няспынна раслі, папаўняліся новымі байцамі. У душах людзей, як у кроплі расы, адлюстроўваліся патрыятычныя адносіны да Радзімы ў час цяжкіх выпрабаванняў.

Тут я крыху парушу ход успамінаў, каб выдзеліць, акрэсліць характары асобных народных мсціўцаў, іх шлях да нас.

… Іван Гваздзёў. Курынскі камсамолец. Сярод вясковай моладзі вылучаўся сваімі штукарствамі. Многа чытаў аб подзвігах герояў грамадзянскай вайны і

першых пяцігодак, дзяліўся прачытаным з равеснікамі. Моцна сябраваў з камсамольцам Міхаілам Сільніцкім. Марыў стаць пагранічнікам і пільна ахоўваць свяшчэнныя рубяжы Радзімы. А пакуль што ён у мяне на прыкмеце: дзяліць яму з намі партызанскую долю.

Калі я ішоў да айчыма Гваздзёва Яўхіма Фёдаравіча Клімовіча, на вуліцах былі расклеены нямецкія аб'явы: "Хто паведаміць, дзе хаваецца Райцаў Д.Ф., той атрымае ўзнагароду ў суме 50 тысяч рублёў". Але я не шукаў прытулку ў той хаце, а хацеў як мага хутчэй далучыць да Клімовіча ягонага пасынка. Прынёс некалькі лістовак з паведамленнямі Савецкага інфармбюро, аддаў іх Івану.

--Гебельс і ўся яго прапаганда, -- тлумачу, -- вылузваюцца са скуры, надрываюцца ў хлусні. Трэба, каб нашы людзі ведалі праўду аб становішчы на франтах, аб гераізме Чырвонай Арміі і ўсяго савецкага народа. Ідзі, Ваня, да людзей, расказвай ім нашу праўду. Гартуй і рыхтуй да партызанскіх баёў моладзь.

Маладыя патрыёты збіралі зброю. Кралі аўтаматы і ў саміх гітлераўцаў, асабліва ў час налётаў нашай авіяцыі. У вёсцы Андронавічы ў дамах, дзе жылі камсамольцы Пётр Зязюлькін і Васіль Салаўянаў, разлягліся нанач нямецкія салдаты. Спалі моцна. Пётр і Васіль, не губляючы часу, забралі зброю, гранаты і патроны, пераапрануліся ў нямецкую форму і пад покрывам ночы прыйшлі ў партызанскі атрад.  Потым яны былі добрымі разведчыкамі і мінёрамі.

Наш партызанскі пароль прывёў у лес не адну групу юных мсціўцаў. Тыя, што прыходзілі са зброяй у руках, папаўнялі атрад і накіроўваліся на баявыя заданні, а шлях астатніх ляжаў за лінію фронту, у рады Чырвонай Арміі.

Сам Іван Гваздзёў потым стане ў адзін рад з самымі кемлівымі і адважнымі. Будзе пасланы ў Маскву, сустрэнецца з першым сакратаром ЦК ВЛКСМ М.А. Міхайлавым, раскажа карэспандэнтам савецкага друку і радыё аб подзвігах беларускіх партызан, паступіць у спецшколу. Начальнік яе пастараецца, каб юныя мсціўцы як мага хутчэй авалодалі падрыўной справай і вярнуліся ў тыл ворага. І паляцяць пад адхон эшалоны з жывой сілай і ваеннай тэхнікай праціўніка.

...Вольга Сонава – камсамолка з вёскі Стырыкі. Да вайны хадзіла ў школу; як і яе сяброўкі марыла аб тых невядомых шляхах, якія ад суседняга шклозавода вялі ў гарады, дзе былі інстытуты, студыі, спартыўныя залы. А цяпер усе гэтыя

шляхі-дарогі пераблытала вайна, і выйсце з вогненнага лабірынту Вольга бачыла толькі цераз разгром фашызму. Калі наш атрад прыбыў у Стырыкі, камсамолка адразу ж завітала да мяне і заявіла:

--Прыміце мяне ў атрад. Хачу помсціць лютаму ворагу. Дзеля роднай Бацькаўшчыны не пашкадую нічога, нават жыцця.

--Добраахвотнік – не нявольнік, кожнаму вядома. Прымем у атрад, -- адказваю Сонавай. – Толькі якую прыдумаць табе спецыяльнасць?

--Я прыдумала ўжо! – узрадавалася Вольга станоўчаму рашэнню. – Я... Я ж скончыла курсы медыцынскіх сясцёр... і практыку прайшла...

--Нам такія патрэбны ўжо сёння...

--І фашыстаў буду біць нароўні з вамі, -- рашуча дадала камсамолка.

Яна пойдзе з намі цярністымі дарогамі. Яе не спалохаюць доўгія і далёкія пераходы. Будзе смелай і мужнай у баях з ворагам. Калі хто з нашых натыкнецца на варожую міну, будзе паранены, яму акажа дапамогу “партызанская сястрычка”.  Потым яна стане знатнай “сумежніцай”: будзе адначасова і медыцынскай сястрой, і аўтаматчыцай, і падносчыцай двухпудовых порцый толу да чыгуначнага палатна, стане разведчыцай. І гэта цудоўнае маладое жыццё абарвецца ў высокім чароце разам з абозам раненых партызан, з якім па-зверску расправіліся фашысцкія карнікі...

...Федзя Клімовіч -- зусім юны,  курынскі піянер... Як казаў паэт, ён “больш не падрос ды ад бацькавых калёс...”

А той Федзя, ростам мне па пояс, стаіць па ўсёй вайсковай выпраўцы, чаканіць:

--За кроў, за слёзы, за пажары я ім, фашысцкім гадзінам, горлы перагрызу, перадушу ўсіх да аднаго!

Можна падумаць, што гэты хлапчук – не Федзя, вясковы, басаногі, а казачны Вярнігара.

--Я, дзядзька Даніла, падрыхтаваўся стаць сапраўдным партызанам, -- працягваў піянер ужо з “вольнай нагі” і глядзеў мне ў твар сваімі вачыма-васількамі. – Няхай камсамольцы пацвердзяць: я зброю, патроны, гранаты збіраў, ужо шмат фашыстам нашкодзіў. Ці ж не партызан я?

--Вядома, партызан, -- было маё слова ў адказ. – Пойдзеш у разведку?

--Гатовы на любое заданне!

І Федзя Клімовіч здзівіў сваімі бясстрашнымі подзвігамі самых бывалых.  Ён будзе ўдзельнічаць у кожнай аперацыі, вызначыцца адвагай, кемлівасцю і вынослівасцю, занясе на свой рахунак многа гераічнага і адправіць на той свет не адзін тузін акупантаў. З аднавяскоўцам камсамольцам Іванам Гваздзёвым ён сотні разоў сходзіць у разведку, даставіць “языкоў”, разам з ім двойчы па нашаму заданню перасячэ лінію фронту і прынясе важныя звесткі ў Беларускі штаб партызанскага руху. І калі ў няроўным баі будзе схоплены фашыстамі, якія ў час катаванняў выражуць на яго целе пяцікутную зорку, ён нічога не скажа карнікам да апошняга імгнення жыцця.

…Пятро Скупаў,  “паліцай”…

Ходзіць па Курыне з павязкай на рукаве, схіліўшы галаву, быццам той бусел, шукаючы жабу. Я яго ведаў да вайны як някепскага хлопца. Што ў яго на душы цяпер? Трэба ратаваць… Наш жа ён! Магчыма, шукае бліжэйшыя подступы да нас… Рашаю: пайду на сувязь з ім сам.

Восенню сорак першага, як звычайна, завітаў да Яўхіма Клімовіча. Мы з ім доўга гутарылі, чыталі савецкія лістоўкі і газету. Калі на зямлю апусціўся густы змрок, я паклікаў Івана Гваздзёва, даю заданне:

--Пакліч Пятра Скупава. Скажы яму: дзядзька Яўхім запрашае. І ні слова пра тое, што тут Райцаў.

Пачуўшы за акном крокі, я стаіўся ў суседнім пакоі. У мяне быў надзейны пісталет. А тым часам гаспадар з госцем пачалі гаворку. Я выбраў зручны момант і нечакана далучыўся да іх.

--А ты, Пеця, мяне не бойся, -- кажу Скупаву. – Ведаю, які ты паліцай, хоць і ўсе іхнія даспехі носіш… Здагадваюся, якое ліха цябе загнала ў воўчае логава.

Я не памыліўся: Скупаў усім сэрцам з намі. Пасля нашай з ім гутаркі ён раз-пораз паўтараў:

--Я – вораг нашаму агульнаму ворагу – фашыстам. Верце мне. Хоць зараз гатовы  пайсці да вас разам з жонкай Варай. І біць, біць, біць гадзін!

--Зараз не трэба, -- тлумачу яму. – Заставайся ў паліцыі і служы нам, партызанам. Работы будзеш мець навалам. А калі выдыхнешся, запросім у атрад.

Пятро Скупаў і яго жонка – медыцынская сястра Варвара Сокалава пойдуць аднымі партызанскімі сцежкамі-дарожкамі. Увесь іх баявы шлях будзе ўсеяны незлічонымі подзвігамі ў імя Радзімы.  І ў адным з жорсткіх баёў, апынуўшыся адзін на адзін з вялікай зграяй фашыстаў, біліся да апошняга патрона, а ў самы крытычны момант, каб не трапіць у рукі ворага жывымі, узарвалі сябе апошняй гранатай…

Людзі, якія ішлі да нас, былі непадобныя адзін на аднаго. (Мусіць, калі б сабраць усе мільярды чалавек нашай планеты, то ў кожным з іх прыкмеціш сваё, непаўторнае). Аднак тых, хто накіроўваўся да нас, у партызаны, пры ўсім такім непадабенстве  аб’ядноўвала адна рыса – характар савецкага патрыятызму. І ўсіх іх пад канец партызанкі было 2500.

## БОЙ  У  ПЛОТАХ

У былыя гады канец сакавіка бурліў паводкамі, дарыў падснежнікі. А ў сорак другім ён патанаў у глыбокіх сумётах, дапякаў марозам. Наш атрад дзейнічаў у трохкутніку Віцебск – Гарадок – Сураж і пераждываў многа цяжкасцей у складаных пераходах. З дня на дзень чакалася аказія памерацца сіламі з пераўзыходзячым нас праціўнікам.

Акупанты, завяршыўшы ў Смаленскай вобласці аперацыю супраць атрадаў “Баці”, прыбылі на адпачынак у вёску Калышкі Лёзненскага раёна. Гэта быў спецыяльны батальён СС, дзе налічвалася 500 карнікаў. Праціўнік вёў разведку супраць нашага атрада. А мы пільна назіралі за паводзінамі эсэсаўцаў. Нарэшце варожы батальён атрымаў загад нанесці сакрушальны ўдар па партызанскім трохкутніку.

25 сакавіка карнікі рушылі ў бок Віцебска, аднак у горадзе не затрымаліся, змяніўшы напрамак  на Барвін і Вярхоўе. У Вярхоўі яны падзяліліся на дзве групы. Адна з іх – 120 чалавек з дванаццаццю падводамі – рухалася па Вялікалуцкаму тракту да вёскі Шухвосты, а затым у Ноўку. Другая група  ў саставе 380 чалавек на 78 падводах выбрала маршрут у напрамку вёсак Лушчыха, Курына, Плоты – да зыходнага пункта Ноўка. У ноч з 27 на 28

сакавіка гэта калона спынілася на адпачынак у Лушчысе, а першая зрабіла прывал у Шухвостах.

Перахітрыць ворага, заманіць яго ў пастку, а пасля разбіць – быў наш асноўны план. Мы перабазіраваліся з Курына ў Казловічы, каб зацягнуць карнікаў углыб партызанскай зоны. У Курыне пакінулі толькі юнага разведчыка Федзю Клімовіча. У яго быў конь, і ён павінен быў паведаміць у штаб атрада аб паяўленні карнікаў. Другі наш разведчык – калгаснік з вёскі Пляшкова Курынскага сельсавета Пётр Селязнёў выконваў не менш адказнае заданне. Напярэдадні яго накіравалі ў Віцебск, і ён удакладніў асабовы састаў нямецкага батальёна, яго ўзбраенне, колькасць падвод. Гэтыя звесткі ён перадаў разведчыку-піянеру Федзю Клімовічу, а той хутка прыскакаў на кані ў штаб нашага атрада і паведаміў, што 500 эсэсаўцаў рухаюцца ў напрамку Ноўкі.

Аб’яўляю баявую трывогу…

У штабе атрада тэрмінова распрацоўваецца засадная аперацыя. Бо нельга ўступаць у лабавы бой: сілы няроўныя, перавага яўна на баку праціўніка. У нас было 150 партызан, 9 кулямётаў, 12 аўтаматаў, а астатняе – вінтоўкі і гранаты. Рашаем нанесці праціўніку сакрушальны ўдар раптоўнай засадай у вёсцы Плоты.

Ноччу выслалі конную разведку на чале з Парфенам Якаўлевічам Каралёвым.

Выбар месца засады быў абумоўлены правільна. Цераз Плоты праходзіла толькі адна дарога. На поўдзень ад вёскі працякала рэчка Кастаўлянка, і на ёй быў адзіны мост. За мостам дарога раздвойвалася: адна – у Плоты, другая – на поўнач, у Ноўку.

28 сакавіка ноччу пачаўся наш паход. Я ўзначаліў групу са 106 партызан; у баявым парадку мы выехалі ў Плоты. Другую групу з 35 чалавек павёў у засаду ў вёску Гарбач, каля Ноўкі, камандзір атрада Аляксей Пятровіч Дзік. Яны павінны былі на возеры Вымна сустрэць тых 120 карнікаў, якія рухаліся па Вялікалуцкаму тракту. Трэцяя група партызан у саставе 12 разведчыкаў накіравалася ў раён вёскі Астраўскія кантраляваць дарогу з Суража на Ноўку.

Атрад пад маім камандаваннем на месца засады прыбыў у пяць гадзін раніцы. Высланы ноччу дазор паведаміў, што гітлераўцы зняліся з Лушчыхі і ўсім абозам цягнуцца ў Ноўку, каб захапіць партызан знянацку. Карнікам

было няўцям, што Ноўка заставалася адкрытай, а нашы сілы канцэнтраваліся ў Казловічах, у дзесяці кіламетрах ад Ноўкі.

План аперацыі выконваўся аператыўна. Праз нейкую гадзіну партызаны занялі свае баявыя месцы. Ранак выдаўся вельмі марозны. Снег быў глыбокі, пакрыты ледзяной скарынкай. Але ніхто з нашых не звяртаў на гэта ўвагі.

Засада прыняла форму падковы.

--Лапікаў, за мной на гарышча! – скамандаваў першы нумар кулямёта Міхаіл Сільніцкі свайму памочніку.

Кулямётчыкі занялі выгадную пазіцыю на гарышчы крайняй хаты. Адтуль мясцовасць праглядалася як на далоні, і можна было пачаставаць карнікаў кулямётнымі чэргамі.

На той жа сядзібе ў лазні заляглі разведчыкі Купчанка і Спірыдонаў, узброеныя аўтаматамі і гранатамі. На выпадак, калі праціўнік паспрабуе пачаць атаку, яны павінны закідаць яго гранатамі і адкрыць аўтаматны агонь.

Адказным за плотаўскую групу быў камісар атрада І.Ф. Міканенка. Для сувязі яму былі прыдадзены партызаны Кандраценка і Якубенка, а пасля далучыліся яшчэ дзесяць чалавек на чале з камандзірам аддзялення Пятром Сцяпанавічам Пятроўскім.

На ўскрайку Касачэўскай лясной дачы, у мяркуемым накірунку праціўніка ўстанавілі два кулямёты. За адным з іх, станковым, заляглі В. Старавойтаў і П. Быкаў, а за ручным – Я. Забаўленка. Там жа размясціліся 65 стралкоў, камандны пункт, сувязныя і медыцынская частка. Агульнае камандаванне засадным боем было даручана мне. У заходняй частцы засады, на могілках, я размясціў кулямётны разлік і восем стралкоў. Гэту групу ўзначаліў камандзір аддзялення атрада Т. І. Зайцаў.

Прадугледзелі і такую сітуацыю, як адваротны ход праціўніка. У лес, што быў за паўсотні метраў ад дарогі, па якой рухаліся карнікі, выслалі баявую групу з дзясяці партызан.

Паблізу ад каманднага пункта на густой яліне арганізавалі пазменнае назіранне за праціўнікам.

--Едуць! – данеслася з яліны.

--Але што гэта? Не карнікі… На фурманках свае людзі, -- паступіла папраўка.

Да нас набліжаліся калгаснікі з вёсак Курына і Подцева, якія ўцякалі ад гітлераўцаў. Ад бежанцаў мы яшчэ раз даведаліся, якія нямецкія сілы ў шляху і што карнікі ў вёсках бясконца дапытваліся:

--Дзе рус партызан?

Наш назіральнік не аднімаў ад вачэй бінокля. Нарэшце ўдакладніў:

--Добра бачу абстаноўку. Трэба сустрэць і пачаставаць “гасцей”, што едуць з вёскі Подцева прама на нашу засаду… Вунь 78 падвод. Абапал дарогі баявая ахова, па 30 лыжнікаў у кожнай групе. Наперадзе абоза – дзве гарматы.

Даю апошнія ўказанні:

--Зброю трымаць на баявым узводзе… Агонь адкрываць толькі па сігналу з каманднага пункта… Біць фашыстаў толькі прыцэльным агнём.

У дзесяць гадзін раніцы карнікі ўступілі ў Плоты.

Паводзілі сябе бяспечна. Кепска было толькі адно: занадта расцягнуўся парожні абоз. І галоўную калону прыйшлося падпусціць на 5—7 метраў да кулямёта Сільніцкага.

Раптам я выстраліў з карабіна. Гітлераўцы застылі на месцы. На мой сігнал адазваўся камсамольскі кулямёт. Дождж куль пасыпаўся на галовы карнікаў, яго падтрымалі стралкі цэнтральнай часткі засады. Удар быў такі нечаканы, што фашысты не паспелі разабраць на санях сваю зброю, падалі, паўзлі ў тыл, да могілак, дзе агнём іх сустракала група камандзіра ўзвода Т.І. Зайцава. Бой працягваўся каля трох гадзін.

Першымі ўдарамі мы знішчылі варожыя гарматныя разлікі, бакавую ахову.

Засадная аперацыя завяршылася ўдала, як нельга лепей. Загінуў увесь фашысцкі абоз, аддалі богу душу 320 карнікаў. Уцалела не болей за дваццаць ваяк. Яны заселі ў пуні і вялі бой, прыкрываючы адступленне.

Калі бой закончыўся, партызаны пачалі збіраць трафеі. І трэба сказаць, што “намалот” быў багаты: 14 мінамётаў, гарматы, каля 30 кулямётаў, сотні аўтаматаў. Я агледзеў усё гэта і сказаў:

--Цяпер мы ўзброім свой новы партызанскі батальён. А навабранцы – вунь яны, -- паказаў у бок нявскораных наддзвінскіх вёсак.

Аднак ставіць зброю ў козлы было яшчэ рана. У двух кіламетрах ад поля бою мы ўбачылі пажар – гарэла вёска Кастовічы. Ясна: на дапамогу разбітым спяшаецца другая калона фашысцкіх лыжнікаў.

Гэта былі тыя сто дваццаць карнікаў, якія рухаліся ў Ноўку Вялікалуцкім трактам. Там, у ваколіцы вёскі Гарбач яны не сустрэлі запланаваны намі засадны бой. Трыццаць пяць партызан на чале з Дзікам адышлі з занятых пазіцый. Фашысты без бою ўступілі ў Ноўку, спадзяваліся далучыцца да першай групы. Затое яны пачулі рэха плотаўскага бою і накіраваліся да нас. Каб напалохаць партызан,  карнікі на сваім шляху палілі  населеныя пункты. Зайшлі ў Плоты з другога боку і абстралялі адну нашу групу.

Мы вымушаны былі адысці. А для прыкрыцця адыходу на тым жа гарышчы крайняй хаты застаўся кулямётны разлік Міхаіла Сільніцкага.

Сільніцкі і Лапікаў удвух змагаліся супраць усёй калоны фашысцкіх карнікаў. Трапна стралялі камсамольцы па ворагу. Няроўны бой працягваўся занадта доўга.  Апусцелі кулямётныя стужкі. Фашысты акружылі хату, хацелі ўзяць кулямётчыкаў жывымі. Але яны не здаліся ў палон.

Міша скокнуў з вышак, узброены нажом, і ў рукапашнай паспеў знішчыць трох эсэсаўцаў.

Сам герой загінуў ад выстралу нямецкага пісталета ў левы вісок. Загінуў у няроўным баі і Лапікаў.

Наша асноўная група, якая базіравалася ля каманднага пункта, адкрыла па фашыстах масіраваны агонь. Яшчэ не адзін дзесятак карнікаў застаўся на корм груганам.

Фашысты не вытрымалі націску партызан, уцякалі, колькі духу стае, у віцебскі гарнізон. Іх шлях ляжаў цераз вёску Лушчыха, дзе была заказана багатая вячэра. Аднак гітлераўцам з перавязанымі галовамі і рукамі было не да ежы, унесці б ногі…

Фашыстам, якія акапаліся ў віцебскім гарнізоне, мроіліся цэлыя рэгулярныя палкі. Бо ўжо назаўтра з Віцебска наляцела шэсць самалётаў, на працягу ўсяго дня бамбілі і абстрэльвалі месцы партызанскай засады. Раскідвалі лістоўкі,

дзе пісалася: “Здавайцеся ў палон, бо вы акружаны і ваша далейшае супраціўленне не мае ніякага сэнсу!”.

Пра нашу засадную аперацыю даведалася камандаванне 21-й стралковай брыгады, якая дыслацыравалася ў раёне Усвят. З мэтай больш дэталёвага знаёмства з сапраўдным становішчам да нас прыбыла адтуль армейская разведка. Яна агледзела поле бою, убачыла непрыяцельскія страты і нашы трафеі. Разведчыкі па заданню свайго камандавання прапанавалі даць спіс тых, хто найбольш вызначыўся ў засадных баях, для прадстаўлення да ўрадавых узнагарод.

Пазней выйдзе Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, і многія нашы баявыя таварышы за мужнасць і адвагу, праяўленыя ў няроўных баях з фашысцкімі акупантамі, атрымаюць ордэны і медалі. Бессмяротны подзвіг нашага слаўнага камсамольца-кулямётчыка Міхаіла Фёдаравіча Сільніцкага будзе адзначаны высокім званнем Героя Савецкага Саюза.

Вось што пра нашага Мішу расказаў у другім томе Збору твораў народны пісьменнік Беларусі, заслужаны дзеяч навукі Кандрат Крапіва:

“Амаль кожны дзень адбываліся сутычкі атрада з акупантамі і дыверсійныя акты – падпалы складаў, падрывы мастоў і чыгуначнага палатна. Усё гэта не адбывалася без Мішы Сільніцкага. Усюды ён быў актыўным і адважным.

Уступіўшы ў партызанскі атрад (Данілы Райцава), Міша адразу ж узяўся вывучаць трафейную зброю, якой больш за ўсё было на ўзбраенні атрада. Так за некалькі дзён ён дасканала вывучыў нямецкія станковы і ручны кулямёты. Пасля гэтага стаў абучаць таварышаў і падрыхтаваў аддзяленне кулямётчыкаў.

Міша страшэнна не любіў сядзець на месцы і заўсёды шукаў сустрэчы з ворагам. Калі праходзіла некалькі дзён без схваткі з фашыстамі, ён прыходзіў да камандзіра атрада і прасіў даць яму “работу”. Пры гэтым ён уносіў рад прапаноў і сам вызываўся на аперацыі, якія патрабавалі вялікай адвагі і спрыту.

Такім чынам, ён аднойчы прабраўся ў занятую немцамі вёску Жалезнякі і з-пад носа ў акупантаў вынес два кулямёты і сем вінтовак, якія былі схаваны жыхарамі. Другі раз Сільніцкі разам з партызанамі таварыша Курмялёва

ўварваўся ў вёску Прысушына, дзе было 40 фашыстаў, і адкрыў па іх агонь з кулямёта. Восем гітлераўцаў былі забіты, а астатнія разбегліся.

У баі Сільніцкі вызначаўся вялікай адвагай і ініцыятыўнасцю. Раз, каля вёскі Астраўное, партызаны вялі бой з атрадам фашыстаў колькасцю ў семдзесят чалавек. Сільніцкаму даручана было зайсці фашыстам у фланг і падтрымаць кулямётным агнём наступленне партызан. Міша па сваёй ініцыятыве спусціўся на лёд Заходняй Дзвіны і, прыкрываючыся высокім берагам, зайшоў фашыстам у тыл. Раптоўна адкрыўшы агонь з блізкай адлегласці, ён пасеяў паніку сярод фашыстаў, і тыя кінуліся ўцякаць, усцілаючы поле дзясяткамі трупаў.

Кулямёт сабе Міша здабыў у баі. Бой быў гарачы і ўпарты. Гітлераўцаў было значна больш, чым партызан, і яны нахабна лезлі ўперад. Асабліва дакучаў кулямёт, які паліваў свінцом пазіцыі партызан. Міша ляжаў за пнём і адну за другой пасылаў трапныя кулі ў наступаючых фашыстаў. І тут кулямётная чарга ўзвіхрыла снег побач з ім, другая прасвістала над галавой: нямецкі кулямётчык страляў па ім. Злосць узяла Мішу. Ён рашыў расквітацца з фашыстам. Скінуўшы пінжак і шапку, Міша палажыў іх ля пня на віду ў нямецкага кулямётчыка, а сам паўзком стаў падбірацца да гітлераўца. Калі Міша непрыкметна падпоўз да гітлераўца, той усё яшчэ страляў па Мішавай вопратцы. Прыкончыўшы фашыста адным ударам, Міша захапіў кулямёт, скрынку з патронамі і вярнуўся да сваіх.

З гэтым кулямётам Міша не расставаўся да канца сваіх дзён, і нямала фашысцкіх вырадкаў палягло ад яго трапных стрэлаў. З гэтым жа кулямётам Міша быў і ў апошнім сваім баі".

## БАЯВЫЯ СЁСТРЫ

Вясной сорак другога Марыя Казлова цудам вырвалася з фашысцкіх засценкаў і збегла ў віцебскія лясы.

Доўга блукала незнаёмымі гушчарамі, арыентавалася па зорках і мху на дрэвах. Шукала ратунку. Гукаць не будзеш – можна наклікаць бяду, якая завядзе да гітлераўскіх катаў. У лясной цішыні рухалася асцярожнай хадою, стараючыся не наступаць на сухое ламачча.

Аднойчы на досвітку заўважыла жанчын, якія гналі ў поле статак. “Свае! Яны мне дапамогуць…” – мільганула ў галаве думка, і яна смела, прыбавіўшы кроку, паспяшалася да іх. І пачала без аглядкі:

--Хачу змагацца, помсціць ворагу за ўсё, за ўсё, за ўсё… Да перамогі. Прашу вас імем роднай маці: адвядзіце мяне да партызан… Або пакажыце, як іх знайсці самой…

Кабеты пераглянуліся, пакруцілі галовамі, кажуць:

--Не чулі. Не ведаем.

-- Няма ў нас партызан.

Нарэшце, адна з іх, цяжка ўздыхнуўшы і агледзеўшы маладую незнаёмку з галавы да ног, адвяла яе крыху ў бок і ледзь чутна сказала:

--Партызан я не ведаю, вось ісцінны крыж. А дапамагчы хачу. Пойдзем да мяне, адпачнеце, набярэцеся сіл. Пасля неяк будзе…

І жанчына забрала Марыю да сябе ў вёску Буёва.

Гэтай сардэчнай жанчынай аказалася Вера Паўлаўна Ноўская – адна з тых, што складалі наш надзейны партызанскі тыл. Буёўскія жанчыны ў тыя суровыя дні абмывалі, абшывалі і кармілі партызан. Вера Паўлаўна многім людзям дапамагла трапіць у наш партызанскі атрад.

Марыя Казлова ў шчодрай гаспадыні заседзелася нядоўга.

--Цяпер можна і ў партызаны, -- адкрылася Вера Паўлаўна. – Адвяду, наваюешся. Якая ты ёсць – вельмі прыгодная для атрада Данілы Райцава.

На правым беразе Заходняй Дзвіны стаяла рота Ф.А. Варапаева. Ноўская сюды прывяла Казлову. Тут пачаліся яе партызанскія будні, не падобныя ні на якія іншыя ў свеце.

--Не такі страшны фашыст, як яго яны самі малююць, -- сказала аднойчы Марыя, калі летам 1942 года мы збіраліся пашчыпаць акупантаў у вёсцы Бялынавічы, дзе быў добра ўмацаваны гарнізон. І, прыціскаючы да грудзей аўтамат, дадала: “Хоць я баец у спадніцы, няважна, ад хлопцаў не адстану!”

Яе залічылі ва ўзвод разведкі.

Незадоўга да штурму мы звязаліся з бялыніцкімі жанчынамі, якія працавалі ў полі. Яны накрэслілі падрабязную абстаноўку. А 10 жніўня разведка даведалася, што частка варожага гарнізона змянілася, на месцы засталося сем немцаў, якія жылі ў гарнізоне, і каля сарака паліцэйскіх. Камандаванне загадала разграміць варожы гарнізон.

Разведчыкам адводзіўся свой “надзел” – знішчыць фашысцкі гарнізон у школе. Узвод імгненна перарэзаў тэлефонную сувязь з Віцебскам і Суражам. Іван Бугаёў прыкончыў паставога каля школы. Астатнія былі знішчаны ў лічаныя хвіліны.

А тут раптам да слыху Казловай данеслася з канюшні нямецкая гаворка. Затым высветлілася, што ў пачатку ночы сюды прыбыла  з Веліжа і размясцілася на сене група карнікаў. Па сігналу ў атрад я прыйшоў сюды і, узважыўшы абстаноўку, загадаў зачыніць стайню і падпаліць.

Далейшыя падзеі разгортваліся з хуткасцю маланкі.

З боку шашы даносіліся выбухі – гэта нашы мінёры падрывалі масты і тэлеграфныя слупы. Разведчыкі працягвалі бой з паліцэйскімі, і сярод іх ад душы завіхалася Марыя Казлова. Другая група партызан на чале са мною старалася не даць немцам вырвацца са стайні. Фашысты адкрылі страляніну, аднак зручных пазіцый у іх не было. Адно з двух: ці мы знішчым карнікаў, ці яны нас.

У час разведкі Марыя Казлова ўстанавіла, што да 200 фашыстаў кіруюцца ў вёскі Палудзеткі і Рабцава ўбіраць ураджай. Мы прынялі рашэнне зрабіць засаду. Праціўнік рухаўся з вёскі Жабенцяі, у калоне налічвалася каля паўтары сотні немцаў і паўсотні паліцаяў. Яны былі ўзброены батальённымі мінамётамі, кулямётамі, аўтаматамі і вінтоўкамі. Ішлі самаўпэўнена, не падазраючы небяспекі. Навокал было ціха, і толькі нямецкая гаворка парушала мірную цішыню.

Партызаны падпусцілі праціўніка на сто метраў і адкрылі ўраганны кулямётна-ружэйны агонь. Мала каму з фашыстаў удалося ўцячы ад пагібелі.

Разведчыца Казлова вызначылася яшчэ  і ў верасні сорак другога на шашы Віцебск – Сураж, калі партызанам стала вядома, што па гэтым шляху пойдзе машына з нямецкім генералам.

Узвод разведчыкаў зрабіў засаду ў раёне Косава – Бялынавічы. Узначалілі аперацыю начальнік штаба атрада Машкоў і камандзір разведкі Ф. Бугаёў.

Пасля Марыя Казлова расказвала:

--На досвітку мы дабраліся да шашы і занялі зручныя пазіцыі. Узышло сонца, на дарозе пачаўся рух. Чаканне да мяжы напружыла нервы. Сонца ўзнімалася ўсё вышэй і вышэй. Час набліжаўся да поўдня. Усё часцей праходзілі машыны, а каманды страляць не было. Каля адзінаццаці на шашы паявілася легкавая машына. Пачулася каманда:

--Агонь!

Ударылі дружна. Машына ўмомант спынілася. Мы працягваем страляць з кулямётаў і аўтаматаў. Зрашэцілі машыну ў некалькі мінут. Як толькі спынілі агонь, з прыдарожнай канавы пачаў страляць нямецкі шафёр, які выскачыў з машыны ў першыя хвіліны бою. Нарэшце машына загарэлася. Тады мы хутка адышлі. Фашысты пачалі праследаваць нас, адкрылі мінамётны агонь.

Спачатку міны рваліся наперадзе, потым пачалі рвацца справа. Па змяненні іх напрамку можна было здагадацца, што гітлераўцы абыходзяць нас злева. Густога лесу ў гэтым месцы не было. Мы апынуліся далёка ад атрада, утварылася небяспека аказацца адрэзанымі ад яго.

Міны рваліся зусім побач. Нас абдавала граззю. Мы імкнемся наперад. У мяне сарваўся бот і застаўся ў гразі. Не пасляваю павярнуцца, як хтосьці з мужчын ужо схапіў мой бот.

--Наперад! – чую я.

Наперадзе  наша выратаванне. Улева мы не можам павярнуць, бо там адкрытае поле, справа рвуцца міны.

У атрадзе адчулі, што нам пагражае небяспека, і насустрач ворагу выслалі роту Яршова. Але фашысты праследаваць нас далей не адважыліся. Стомленыя, галодныя, мы прыйшлі на тэрыторыю нашага лагера. У вушах у мяне звон. Я з цяжкасцю разбіраю, што кажа мая сяброўка Вера Мухіна. Яна здымае з мяне аўтамат і гранату. Я кладуся і засынаю. Не адчуваю, як яна сцягвае з мяне брудныя боты. Калі прачнулася, сонца ўжо заходзіла. Неўзабаве мы пайшлі з Верай купацца.

Аповед Марыі Казловай дапоўню я, калі спашлюся на мемуарную кнігу камандзіра партызанскага злучэння Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Елісеевіча Лабанка “У баях за Радзіму”, дзе ёсць радкі пра Веру Мухіну: “У адным з дамоў карнікі арганізавалі абарону. Ведучы моцны агонь з кулямётаў, аўтаматаў і вінтовак, яны верагодна думалі, што іх не возьме цяпер цэлы атрад. Але вось, выбраўшы момант, ад пуні ў бок дома кінулася амаль дзіцячая фігура... Удар прыкладам па раме, і ў хату паляцела супрацьтанкавая граната... Так дзяўчынка-камсамолка, медыцынская сястра Вера Мухіна расправілася з вялікай групай азвярэлых карнікаў”.

Праз некалькі дзён мы даведаліся, што нашы разведчыкі забілі нямецкага генерала, і за гэта гестапаўцы збіраюцца расстраляць суражскіх паліцэйскіх.

7 верасня рашылі наладзіць засаду днём. Такую ініцыятыву праявіў Кандрацій Ляцэвіч. Прыйшоў да камандзіра разведчыкаў і напрамілы бог просіць, каб на гэту аперацыю адпусцілі Марыю Казлову.

Партызаны выйшлі ў раён вёсак Мішуткі і Сакольнікі і занялі вышыню, з якой добра відаць невялікі ўчастак шашы. Устанавілі супрацьтанкавае ружжо, з якога Марыя Казлова з Фёдарам Сіняковым па чарзе стралялі па праходзячых машынах. Яны ідуць не часта, вочы хутка стамляюцца. Участак дарогі, за якім назіраюць, кароткі, таму трэба сачыць за ім напружана.

Ляцэвіч усё ўзважыў. Каб на партызан нечакана не напалі, пакінулі ахову – аўтаматчыкаў. Донька Мухін, кулямётчык, сядзіць на дрэве ў ста метрах ад Казловай з Бугаёвым, пад дрэвам ляжыць яго кулямёт. З вышыні адкрылі агонь, і Фёдару Бугаёву ўдалося разбіць машыну. Яна была на вялікай адлегласці, партызаны не бачылі падрабязнасцей катастрофы і працягвалі страляць.

Раптам Донька з дрэва закрычаў:

--Фашысты ідуць ланцугом!

Ляцэвіч хапае супрацьтанкавае ружжо, астатнія ідуць цераз поле да лесу. На ўзлеску спыніліся. Ляцэвіч просіць Доньку, каб той паглядзеў прыцэл. Усе выбралі зручныя пазіцыі і чакаюць. Немцы ланцугом, не спяшаючыся, ідуць і глядзяць у той бок, дзе нядаўна размяшчалася засада. Па камандзе дружна стралялі з аўтаматаў і кулямёта. Затым павольна прабіраліся ў бок партызанскага лагера. Праз некаторы час гітлераўцы пачынаюць

абстрэльваць узлесак. Трашчаць векавыя дрэвы пад выбухамі мін. Бегчы партызаны не маглі, бо з імі супрацьтанкавае ружжо і кулямёт. Несці іх нялёгка па дрымучым лесе.  Ірвуцца міны, трашчыць лес... Партызаны то падалі, то ўскоквалі.  Неўзабаве вырваліся з паласы абстрэлу. А праз сорак мінут немцы ўзмацнілі абстрэл, відаць, атрымалі падмацаванне. Але партызаны былі ўжо на недасягальнай адлегласці.

У атрадзе, дзе несла баявую вахту бясстрашная Марыя Казлова, поплеч ваявалі беларусы, рускія, украінцы, татары, палякі, эстонцы, цыганы. У агні гартавалася інтэрнацыянальная салідарнасць.

Аб мужнасці нашых партызан сведчылі самі акупанты. У жніўні 1942 года ў газеце “Правда” была апублікавана запісная кніжка нямецкага обер-яфрэйтара, знойдзеная пры разгроме фашысцкага гарнізона ў вёсцы Кошалева. Ён запісаў: “Ад’езд з Францыі. Маёр Гіль з намі. Праязджаем цераз Руан... Прыбылі ў Віцебск: горад разбураны. Хтосьці падпаліў салдацкую казарму, якую нядаўна пабудавалі. Нас абстралялі. Загінуў лейтэнант Кумер. 25 гадзін без перадышкі вялі бой, лейтэнант Даус і унтэр-афіцэр Шлісер звар’яцелі. Клаус падлічыў, што ў нас 56 працэнтаў страт. Напісаў развітальнае пісьмо. Праціўнік зноў уварваўся ў населены пункт. На вуліцы ляжаць трупы нашых забітых таварышаў. Ля самага штаба рускі снайпер забіў обер-лейтэнанта Трэйера. Ганс Цабель загінуў, Карл Бак – таксама. У вёсцы мы спалілі 60 хат. Палавіны жыхароў няма. Яны пайшлі ў партызаны. Здзіўляюся адвазе рускіх. Яны ніколі не здаюцца”.

У сярэдзіне верасня Марыя Казлова з дыверсійнай групай лейтэнанта Н. Буцэнкі  пайшла працягваць барацьбу з акупантамі ў Шклоўскі раён Магілёўскай вобласці.

## ПРАВАКАТАРЫ

У нямецкіх штабах мудрагелілі, афіцэрскія лысіны пацелі над планамі пагалоўнага знішчэння партызанскіх падраздзяленняў. Козырам у гэтай гульні павінна было стаць пранікненне ў нашы рады, і адсюль – паніка, правакацыі, раптоўны напад і раззбраенне партызан. Акупанты спадзяваліся на шэраг задуманых аперацый у надзеі на лёгкі поспех.

Аднойчы недалёка ад нашага лагера спынілася нямецкая машына, і афіцэры адтуль высадзілі хлапчука гадоў трынаццаці. У яго пінжачок зашылі пісьмо на маё імя, загадаўшы ўручыць яго асабіста камандзіру партызанскай брыгады.

Прачытаўшы варожае пасланне, я падумаў: “Вунь якое яно, не тое, што запарожцы пісалі турэцкаму султану, у іх няма ніякай абразы. Наадварот!”

У пачатку пісьма расхвальваліся на ўсе лады мае баявыя здольнасці. Не Райцаў я, а ні даць, ні ўзяць, сам Аляксандр Македонскі! Далей – “сяброўскі” папрок у мой адрас: чаго ты, славуты чалавек, сядзіш у лесе, ідзі да нас без ваганняў, мы табе гарантуем шчаслівае жыццё ў Францыі, Германіі – дзе сам выбераш. А ў сябе на радзіме на лепшае разлічваць больш не можаш, бо Чырвоная Армія ў палоне, Масква рыхтуецца да здачы.

Мне прапаноўвалася прыбыць у Мазалава з явачным паролем “Паўлаў”.

Колькі было смеху, калі фашысцкае пісьмо зачытвалася ў партызанскім лагеры! Асобныя з нашых пачалі жартаваць:

--Шчаслівая доля наканавана нашаму камбрыгу.

--Сама ў яго рукі просіцца…

--Кім ён можа стаць?

--Бургерам!

--Фон барон!

--А правады будуць?

--Без правадаў, -- рэзка адказваю насмешнікам. – А просьбу выканаць трэба. Пойдзем у Мазалава, як прапануецца ў пісьме. Будзе сустрэча з музыкай!

Неўзабаве добра ўзброены атрад партызан накіраваўся ў Мазалава. Папярэдне наша разведка ўдакладніла размяшчэнне і сілы варожага гарнізона.

На ціхім досвітку бясшумна знялі фашысцкую ахову, расставілі свае баявыя разлікі і па камандзе “Агонь!” адкрылі па ворагу прыцэльны мінамётны шквал.

Бой працягваўся нядоўга, але і кароткага часу хапіла, каб ад гарнізона засталіся трэскі.

Дык вось мая шчаслівая доля – у помсце лютаму ворагу. Шукалі лёгкадумных здраднікаў, а знайшлі сваю смерць на нескаронай Савецкай зямлі ад яе мужных сыноў. Гітлераўцы, якія так лёгка купілі на захадзе Лаваля, Пэтэна, Квіслінга – былых правіцеляў-калабарацыяністаў разлічвалі на магічную сілу наіўнай пісулькі, якая павінна была завесці ў зман, у пастку аднаго за другім партызанскіх важакоў.

Правакацыйнае пісьмо з Першай Беларускай брыгады па рацыі было перададзена на Вялікую зямлю. У дадатак паведамлялася, што немцы настойліва прапануюць Райцаву перайсці на іх бок, чаго нельга дапусціць, бо яго брыгада адна з самых баявых, трымае пад сваім кантролем многія ключавыя пазіцыі, а сам камандзір з першых дзён барацьбы паказвае сябе на справе як патрыёт, з сыноўняй любоўю да Радзімы помсціць лютаму ворагу.

Але знайшоўся адзін аператыўнік, які аберуч ухапіўся за сенсацыйнае глупства і пачаў раздзімаць справу. А нямецкая фальшыўка яму паслужыла аргументам. Мне гэта стала вядома ад камандзіра авіяцыйнага палка Яўгена Дамасавіча Клусава.

Я атрымаў загад неадкладна вылецець на Вялікую зямлю. Аднак выканаць яго адразу не змог. Рашыў найперш завяршыць баявыя аперацыі, і калі на ўчастку маёй брыгады складзецца больш-менш спрыяльная абстаноўка, накіруюся ў штаб партызанскага руху.

У хуткім часе з правакацыйным пісьмом у кішэні я вылецеў на Вялікую зямлю. У Беларускім штабе партызанскага руху ўсю абстаноўку я далажыў таварышам П.К. Панамарэнку, П.З. Калініну, І.А. Крупені, Рыжыкаву. З Беларускага штаба мяне тэрмінова выклікалі ў Маскву ў Цэнтральны штаб партызанскага руху. А там начальнік аператыўнага аддзела штаба Сергіенка доўга мяне дапытваў.

У маёй галаве ўвесь час мроіліся думкі: кім я выйду з гэтага кабінета? Адданым народным мсціўцам, якім я ёсць на самой справе? А мо' здраднікам, нямецкім шпіёнам? Да вайны на падставе розных фальшывак і хлуслівых даносаў загінулі некаторыя нашы знакамітыя палкаводцы і военачальнікі. Я хто ў параўнанні з імі? Нуль… І падумаў яшчэ: калі што не так, то таварыш Панамарэнка разбярэцца і далажыць таварышу Сталіну.

Допыт працягваўся. Хвіліны здаваліся вечнасцю ў гарачым пекле. І яшчэ падумаў: як жа я пайду на расстрэл пад іменем здрадніка? Што скажуць

хлопцы-партызаны, якіх я вадзіў з бою ў бой? А заложнікі з маёй сям'і – бацька, маці? Таксама фашыстоўскія сатэліты? Цяжка, як цяжка пераносіць паклёп…

А скончылася ўсё памяркоўна. Разабраліся да танюсенькай павуцінкі. І ўжо без падазронасці мяне са шчырымі абдымкамі накіравалі туды, адкуль выклікалі. Каб працягваў кіраваць брыгадай, яе баявымі аперацыямі супраць акупантаў.

…Нямецкі капітан Кох ручаўся:

--Мая каманда зробіць цуд, партызаны самі залезуць у маю пастку! – І фанабэрыста тыцнуў пальцам у мундзір: маўляў, гэта месца для самай высокай узнагароды. Хайль Гітлер!

І Кох спяшаўся.

У яго рэзерве былі дзве групы правакатараў, якія ў Смаленску прайшлі спецыяльную падрыхтоўку. Іх было па сто ў кожнай групе. Туды засылалі найбольш няўстойлівых з ліку савецкіх ваеннапалонных, а ў большасці гэта былі немцы, якія размаўлялі па-руску. Яны зубрылі розныя версіі, накшталт:

--Мы – партызаны. Ваявалі ў Прыбалтыцы. Немцы нас пацяснілі, і мы, як бачыш, апынуліся ў Беларусі. У нашым сэрцы бурліць прага помсты. Будзем разам граміць фашыстаў!

Прабралася адна такая група і ў наш партызанскі край. Перад правакатарамі ставілася пакуль што адна задача: здабываць "языкі". У першую чаргу схапіць і даставіць у нямецкі гарнізон мяне, камандзіра суседняй партызанскай брыгады Якава Захаравіча Захарава і іншых партызанскіх важакоў. Кох запісаў у сваю "стратэгію" задачу задач: у "языкоў" пад прымусам высветліць самыя надзейныя метады барацьбы з партызанамі. У гітлераўскай стаўцы генеральскія галовы пухнуць, а ніяк не могуць прыдумаць адзіна правільны стратэгічны план антыпартызанскай вайны. Іншая справа Кох. Пры дапамозе надрэсіраваных правакатараў ён стане першаадкрывальнікам і, напэўна, за гэта атрымае жалезны крыж з рук самога фюрэра.

На "братанне" з прыбалтыйскімі "баявымі сябрамі" былі прызначаны палітрук Яршоў са Сцяпанавым і іншымі партызанамі.

Яны хутка раскусілі правакатараў:

--Чаму на пяску след аўтамашыны? Вядома, што акрамя нямецкіх, ніякіх іншых машын тут не магло быць.

Правакатары разгубіліся: крыць няма чым. Цяпер мы павінны навязаць ім бой, сцерці гадаў у парашок.

У закінутай немцамі групе адзін аказаўся сапраўды сваім – танкіст-віцябчанін Галакоз. Нашай разведцы ён даў слова, што дапаможа знішчыць групу правакатараў, а затым з дзясяццю савецкімі ваеннапалоннымі ўвальецца ў партызанскую брыгаду.

Пасля па яго сігналу мы пачалі акружэнне групы.

Праз кароткі гарачы час мы “падбілі бабкі”: дваццаць забітых, шаснаццаць уцяклі, астатнія трапілі да нас у палон. Быў узяты жывым разам з радыёстанцыяй савецкай маркі капітан Кох.

На допыце ён увесь час даказваў нам вялікія перавагі фашызму. Гаварыў пранікнёна, відаць, разлічваў, што нават трапіўшы ў партызанскі мяшок, ён, ні даць, ні ўзяць, перацягне нас на свой бок. Я плюнуў, калі надакучыла яго слухаць, кажу са злосцю:

--Нам тут не да філасофіі, трэба ваяваць, знішчаць такіх, як ты, фашысцкіх гадзін. Вось звяжам табе рукі і ногі, адправім самалётам у Маскву, а там… нафіласофствуешся…

Вылазка “прыбалтыйскіх сяброў” у пэўным сэнсе была прэлюдыяй да вялікай навальніцы. Рэха яе было чутна зводдаля.

Узброеныя да зубоў фашысты, урэшце, падрыхтавалі  супраць нас самую масіраваную за ўвесь час супраціўлення аперацыю. Чатырма цэнтрамі кінулі ў атаку дваццаць тысяч адборнага воінства. Першы бой мы прынялі  ў вёсцы Дражна. Кавалерыя праціўніка загінула на партызанскім мінным полі. А потым мы пачалі заводзіць немцаў углыб Шчалбоўскіх лясоў, хоць кальцо варожай блакады вакол нас ушчыльнялася.

У раёне Шчалбова мы ажыццявілі вельмі важную ў стратэгічных адносінах аперацыю. У тыле ворага замаскіравалі сваё падраздзяленне, вялікая група партызан залегла ў глыбокім рове, каб сустрэць нямецкія танкі. І танкавая калона была разбіта ўшчэнт. У стане ворага ўзнялася паніка. Немцы пачалі граміць свае ўласныя часці, і толькі пасля той міжусобіцы іх танкі пачалі

шукаць партызанскую засаду. Партызаны змянілі баявыя пазіцыі і зноў адкрылі агонь па жывой сіле праціўніка. Пасля немцы пачалі ўбіраць сваіх параненых. Партызаны адышлі на зыходныя пазіцыі ў лес.

ТАБЕ, ПЕРШАМАЙ!

Набліжалася вялікае свята – Першамай 1942-га.

Будзем адзначаць яго як на Вялікай зямлі – мітынгам, парадам, дэманстрацыяй. У нас ужо моцная, згуртаваная брыгада – 1500 добра ўзброеных партызан.

Мы ўжо не толькі лясныя салдаты, але і гаспадары становішча ў многіх сельсаветах.

Партызанская брыгада святкавала Першамай разам з масай насельніцтва Курынскага, Камароўскага, Пачынкаўскага, Ботаніцкага, Мікалаёўскага, Кабішчанскага сельскіх Саветаў і рабочага пасёлка Ноўка.

* * *

...Толькі ў час паводкі такое духмянае, такое дзівоснае паветра на рацэ. У ім змяшаліся сотні веснавых пахаў. Хмельны – мінулагодніх траў, які прынеслі расталыя воды з лугоў, перапрэлага лісця, смалісты пах сасны, што раскінулася на ўзбярэжжы.

--Эге, ды ніяк пірагамі пацягнула! – павёў носам чубаты Васіль Жукоўскі. Ён сядзеў на карме і плаўна вёў лодку да левага берагу Заходняй Дзвіны.

--Яшчэ што скажаш, -- весела ўсміхнуўся Міша Купчанка, аднагодак Васіля і ўсіх пяці, што сядзелі з ім у лодцы, былы калгасны шафёр, а цяпер старшы групы разведчыкаў; ён трымаўся асабліва сур'ёзна. – А скажы, ці пачуў пах самагонкі?

Хлопцы стрымана рассмяяліся. Толькі маўклівы Пётр Клімовіч нават не варухнуў губамі. Ён глядзеў угору, у бясхмарнае неба над лесам. Учора, калі ён убачыў у небе звяно фашысцкіх "юнкерсаў", спазмы сціснулі яго горла. Самалёты зрабілі круг над Курынам і абрушылі шквал агню. У апошнія дні яны прыляталі сюды ўжо некалькі разоў. Відаць, даведаліся аб размяшчэнні штаба партызанскага атрада і збіраюцца "адзначыць" першамайскае свята.

--Верце ці не верце, а я адчуваю пах пірагоў, -- працягваў Васіль. – Такія пірагі пякуць толькі ў нашай вёсцы. З капустай, грыбамі, рыбай, тварагом, яблыкамі…

Да вёскі Кошалева не менш кіламетра. Бясшумна прычалілі. Схавалі лодку ў кустах і пайшлі лесам – вядомай Васілю сцяжынкай. Перш, чым выйсці з-за дрэў, Міша Купчанка залез на шыракастволы дуб і ўважліва паглядзеў у невялікі трафейны бінокль. І раптам … позірк яго застыў, на твар набегла трывога. Лінзы наблізілі аддалены малюнак: па дарозе рухалася вялікая калона фашыстаў. Не менш як трыццаць вазоў.  А на кожным з іх – па аднаму-два салдаты. Ды яшчэ салдат дванаццаць верхавых. Зразумела: разбойніцкі налёт на Кошалева.

--Вось табе і пірагі, святочны пачастунак! – усміхнуўся камандзір разведчыкаў, саскочыўшы з дрэва. Ён адразу прыняў рашэнне прабірацца хмызняком да вёскі. Праўда, у іх толькі аўтаматы і адзін ручны кулямёт. Але вярнуцца назад, за падмацаваннем – значыць даць магчымасць  уцячы гітлераўцам, якія звычайна не затрымліваюцца ў аддаленых вёсках. А іх трэба ў што б там ні стала затрымаць да прыходу таварышаў па зброі.

Акупанты не адчувалі небяспекі. Прывязаўшы коней ля калгасных свірнаў, яны абыходзілі хату за хатай, выносілі кошыкі з яйкамі, салам, выводзілі з хлявоў кароў і авечак.

Партызаны чакалі. На гарышчы адной з хат ля невялікага акенца прыстасаваў свой кулямёт брат камандзіра разведчыкаў Максім. Як ганарыўся хлопец, што гэту трафейную зброю даверылі іменна яму! Кулямёт той некалі здабыў у баі адважны Міхаіл Сільніцкі. У Плотах Сільніцкі знішчыў з яго дваццаць фашысцкіх карнікаў.

“Цікава, які ж рахунак будзе сёння ў гэтага кулямёта?” – толькі Максім пра гэта падумаў, як пачуўся шоргат на гарышчы. Гэта – брат Міхаіл.

--Вунь, бачыш, гітлераўцы раскрылі бурт? – паказаў камандзір у бок аднаго з гародаў. – Адкрыем агонь, калі на пагрузку да воза падыдзе іх болей.

І вось застрачыў кулямёт. Да яго далучыліся нядоўгія чэргі аўтаматаў. Замітусіліся ў паніцы гітлераўцы. Але, панёсшы страты, яны неўзабаве апамяталіся і арганізавалі абарону.

--Раз! Два! Тры! – націскаючы на гашэтку кулямёта, вёў лік забітым Максім. Пераможнай музыкай ліліся грукатлівыя гукі. І раптам гэта музыка абарвалася. Гітлераўцы асмялелі і пачалі высоўвацца з укрыцця.

--Што здарылася? – перабягаючы цераз вуліцу, паспяшаліся на гарышча да Максіма Міша Купчанка і Васіль Жукоўскі. Максім ляжаў ля акенца, раскінуўшы рукі. Твар яго быў нерухомы.

Міша, разгублены, схіліўся над забітым братам. Нечаканае гора падкасіла яго. Нялёгка ў дзевятнаццаць гадоў стрымаць набор пачуццяў, што гатовы захліснуць сэрца  бязмежным смуткам. Але ён не толькі брат. Ён яшчэ камандзір, які адказвае за лёс кожнага, за зыход бою, што сам распачаў.

--Вось што, Вася, -- Міша выцер шурпатай далоняй набегшыя на твар  скупыя мужчынскія слёзы і прыўзняўся, -- станавіся ля кулямёта і трымайся да апошняга патрона. Хлопцы падтрымаюць. Чуеш, як б’юць іхнія аўтаматы? А я паімчуся за дапамогай.

Ён знік, а Васіль уладкаваўся за кулямётам. Ля акенца засвісталі кулі. Зразумела, немцы засеклі кулямёт. Васіль, не раздумваючы, узяў кулямёт і ўскараскаўся з ім на дах. Тут ён схаваўся за комінам. Цяпер яму бачна ўсё навокал. Адстрэльваючыся на хаду, гітлераўцы па адным бягуць да свірнаў, дзе прывязаны коні. Там ужо да дзесятка салдат.

Першая чарга – і ўсё пераблыталася  на ўскраіне вёскі: замітусіліся параненыя коні, акупанты. Яны кінуліся бегчы ў розныя бакі, але іх даганялі кулі партызан. Гэта стралялі Парфен Каралёў і Пётр Клімовіч. Перабягаючы з месца на месца, яны імкнуліся стварыць уражанне шматлікасці партызанскай групы. Цяпер іх галоўнай задачай было прыціснуць гітлераўцаў да зямлі, трымаць іх так да падыходу падмацавання.

Пра бой за Дзвіной мы даведаліся адразу. Ад Кошалева да Курына не больш чатырох кіламетраў. Мы пачулі першыя стрэлы, і я неадкладна накіраваў узвод партызан на выручку таварышам. Як толькі стала вядома пра гэта, да мяне прыбег баец гаспадарчай часці Іван Барысавіч Кандраценка, былы калгасны цясляр. Гэты пажылы чалавек увесь час іраваўся ў бой. І я нядаўна абяцаў, што вазьму яго на чарговую аперацыю. Кандраценка моўчкі стаяў перада мною, і ў вачах яго застыла чаканне. Я яму і кажу:

--Спадзяюся, ты не забыў, што хутка Першамай. Свята будзем адзначаць па ўсіх правілах. Толькі ў Курыне нельга. Фашысцкія самалёты могуць зноў наляцець. Трэба падабраць надзейнае месца ў лесе і абавязкова змайстраваць трыбуну. Табе гэта і даручаецца. Бяры колькі спатрэбіцца памочнікаў і – за работу.

Я, хутка пастроіўшы байцоў, павёў іх да Дзвіны. З камандзірам разведчыкаў мы сустрэліся ўжо на рацэ, калі перапраўляліся на схаваных у хмызняку лодках.

Бой быў нядоўгі. Па прыкладу Васіля Жукоўскага на дахах устанавілі яшчэ два кулямёты. Іх агонь адрэзаў ворагу дарогу да адступлення. А аўтаматчыкі, выявіўшы месца размяшчэння гітлераўцаў, не давалі ім магчымасці згрупавацца і арганізаваць контратаку.  Партызанам удалося захапіць у палон восем гітлераўцаў, у тым ліку аднаго афіцэра ў чыне капітана. Гэта ўсё, што засталося ад вялікай групы. Большасць яе была знішчана, і толькі некаторым удалося ўцячы.

З допыту палонных высветлілася , што ў шэрагу вёсак, якія знаходзяцца паблізу Суражскай шашы, некалькі дзён назад размясціліся варожыя часці чацвёртай дэсантнай дывізіі. Разбітыя пад Ржэвам, яны прыбылі сюды на адпачынак і перафарміраванне.

Мы разумелі, што гітлераўцы не змірацца з панесенымі стратамі. Яны, безумоўна, зробяць яшчэ адну спробу раздабыць прадукты ў вёсцы Кошалева. Таму я рашыў неадкладна выклікаць увесь партызанскі атрад – усіх 250 байцоў.

Як толькі партызаны перабраліся на левы бераг Заходняй Дзвіны, на Кошалева ўпалі першыя снарады. Фашысты пачалі абстрэльваць вёску з дробнакаліберных гармат.

Я загадаў выйсці з Кошалева, пайсці насустрач гітлераўцам, каб зберагчы вёску. Ля невялікага ўзлеску партызаны акапаліся.

Чакаць прыйшлося нядоўга. Праз якія паўгадзіны паказаліся варожыя ланцугі. Дружны кулямётны і аўтаматны агонь збіў парадак фашысцкіх радоў. Вораг спрабаваў залегчы. Але партызаны не далі гэтага зрабіць. Мы кінуліся ў атаку, ашаламіўшы праціўніка імклівым націскам.  Гітлераўцы не вытрымалі, пачалі адступаць. На полі бою засталося многа  забітых фашыстаў і зброі.

Я падвёў вынікі баёў за дзень. 31 забіты гітлеравец, 8 палонных, захоплена 30 вінтовак, 12  аўтаматаў, два кулямёты, адзін мінамёт – нядрэнны падарунак да свята, калі яшчэ ўлічыць , што страты партызан невялікія – адзін забіты і адзін паранены.

Але галоўнай перамогай, галоўным падарункам  да Першамая было тое, што мы адстаялі вёску, не дазволілі фашыстам яе разрабаваць. Таму ішлі партызаны па вёсцы гордыя і шчаслівыя. А кошалеўцы абдымалі іх , як братоў, цалавалі, бясконца дзякавалі ім.

А потым было 1 Мая.

Свята пачалося ранішняй бамбардзіроўкай партызанскай базы. Толькі калі “юнкерсы”, зніжаючыся, накіраваліся да Курына, у вёсцы не было людзей – і ваяскоўцы, і партызаны знаходзіліся ў суседнім лесе.

Народныя мсціўцы ішлі роўнымі радамі ўздоўж святочнай трыбуны, устаноўленай на вялікай паляне.  На суровых, абветраных тварах – радасныя ўсмешкі. Івану Барысавічу Кандраценку, які стаяў ля трыбуны ўнізе, здавалася, што людзі ўсміхаюцца яму, чалавеку, які змог зрабіць свята такім радасным. Справа не толькі ў тым, што ён праявіў гаспадарскую кемлівасць, раздабыўшы чырвоны паркаль для ўпрыгожання трыбуны. Гэта ён знайшоў цудоўную паляну для першамайскай дэманстрацыі ў лесе.

Такой дэманстрацыі, як цяпер, на другі год вайны, старому калгасніку яшчэ ніколі не даводзілася бачыць.  Прайшлі калоны партызан – і нібы толькі скончыўся ваенны парад. Цяпер пачалося галоўнае – дэманстрацыя працоўных. Іх многа, гэтых мірных людзей – жанчын, дзяцей, старых, дзяўчат і хлопцаў. І ўсе ў святочным адзенні. Вось наперадзе калоны калгаснай сельгасарцелі “Зорка” з чырвоным сцягам ідзе яе старшыня Пётр Селязнёў. А цётка Кацярына Ратохля ўзначаліла са сцягам у руках калону другога калгаса. З якіх толькі аддаленых вёсак ні прыйшлі людзі! Хто прынёс дзесьці схаваны сцяг, хто дастаў са схованкі партрэт Леніна, а хто проста на аркушы паперы пранёс сваё прывітанне Першамаю. Каля тысячы людзей, што не скарыліся ворагу, захавалі вернасць Радзіме, ішлі ў лясных першамайскіх калонах. Многія з іх тут жа вырашылі  ўліцца ў рады партызан. Нездарма атрад праз два дні быў пераўтвораны ў партызанскую брыгаду імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола Беларусі.

На паляне адбыўся кароткі мітынг. На ім з яркай прамовай выступіў наш камісар Васіль Кандратавіч Перуноў.

--Камуністычная партыя, вобраз вялікага Леніна, -- сказаў прамоўца ў заключэнне, -- натхняюць увесь савецкі народ на свяшчэнную бітву за Айчыну. Нашы сілы незлічоныя, гераізм абаронцаў Радзімы бясконцы.  Мы пераможам, выратуем чалавецтва ад пагрозы гітлерызму, знішчым фашызм! Вы бачыце, колькі нас сёння на першамайскай дэманстрацыі… Вось такімі і яшчэ большымі партызанскімі калонамі хлынем на лютага ворага, задушым фашысцкага звера!

Пасля мітынгу, калі я сышоў з трыбуны,  да мяне падышоў Васіль Жукоўскі.

--Таварыш камандзір, тут вас хочуць бачыць…

--Што за людзі? – спытаў я. – Калі наконт запісу ў атрад, скажы, каб звярталіся да начальніка штаба.

--Не, які там запіс… Гэта старыя.

Сівыя дзяды былі пасланцамі вёскі Кошалева. Высокі хударлявы дзядок, што ўзначальваў дэлегацыю, спрабаваў сказаць прамову, але на першых жа словах збіўся і, махаючы рукамі, вымавіў:

--Ну, што там казаць. На ўсё жыццё мы вашы даўжнікі. Прыміце ад усіх вяскоўцаў нізкі паклон за тое, што не далі нас у крыўду. І яшчэ вось гэта, -- ён разгарнуў вялікі клунак і працягнуў мне.

--Ніяк пірог? – востры пах здобы прыемна заказытаў у носе. – Ды такога пірага хопіць на ўвесь атрад!

--Гэта вам! Асабіста для вас! – загаманілі старыя. --  Мы прывезлі цэлы воз пірагоў. Пастараліся нашы жанчыны. На ўсіх партызан хопіць. Няхай кожнаму будзе наш пачастунак.

-- Што ж, сёння не грэх падсілкавацца і пірагом, -- прымаю пачастунак і шчыра дзякую.

Тое ж самае сказаў і Васіль. Ён таксама трымаў у руках вялізны пірог. Яго прынесла маці. Васіль пайшоў шукаць сяброў-разведчыкаў, каб разам з імі раздзяліць святочны падарунак.

## ВАРОТЫ Ў СОРАК ВЁРСТ

Ратнай трасай стала дарога Сураж – Усвяты: прамежак, на якім актыўна дзейнічалі ўдарныя злучэнні Чырвонай Арміі і партызанскія атрады. Па лініі фронту ўтварыўся разрыў паміж варожымі групамі “Цэнтр” і “Поўнач” на сорак кіламетраў. Гэты пралом, што злучыў акупіраваную тэрыторыю з Вялікай зямлёй, партызаны назвалі “Віцебскімі (Суражскімі) варотамі”.

“Вароты” сталі важнай жыццёвай артэрыяй, падобнай на Дарогу жыцця, пракладзеную па Ладажскім возеры ў заціснуты варожай блакадай Ленінград. Праз легендарныя партызанскія “вароты” на Вялікую зямлю ішло папаўненне радоў Чырвонай Арміі, рухаліся абозы з прадуктамі, фуражом, цёплым адзеннем. Вялікая зямля забяспечвала партызанскі тыл зброяй, сродкамі сувязі і антыфашысцкай прапаганды, з абодвух бакоў ішлі і ехалі сувязныя з асоба важнымі даручэннямі.

Нямецкае камандаванне, напалоханае бурным ростам партызанскага руху, кідае на нас буйныя карныя атрады. Аднак дабіцца чагосьці істотнага фашыстам не ўдаецца. Партызаны своечасова даведваліся аб намерах праціўніка і зрывалі яго планы. У гэты час у трохкутніку Сураж – Віцебск – Гарадок актыўна дзейнічалі атрады Міная Шмырова, Міхаіла Біруліна, Данілы Райцава, Аляксея Дзіка, у Веліжскім раёне – атрад Міхаіла Дзячкова. Але дзейнічалі яны паасобку.

У сакавіку 1942 года на Паўночна-Заходнім фронце па ініцыятыве П.К. Панамарэнкі – першага сакратара ЦК КП(б)Б, члена Ваеннага савета 3-й Ударнай арміі была створана паўночна-заходняя аператыўная група па кіраўніцтву партызанскім рухам на чале з сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі Г.Б. Эйдзіным. Неўзабаве ў атрад Бацькі Міная па заданні гэтай групы прыбылі сакратар Віцебскага абкама партыі І. Стулаў, старшыня аблвыканкама І. Рабцаў, В. Раманаў. Яны ўстанавілі сувязь з атрадамі М. Біруліна, Д. Райцава, А. Дзіка і пазнаёмілі іх з пісьмом ЦК КП(б)Б.

У сваім пісьме на імя М.П. Шмырова П.К. Панамарэнка пісаў: “ЦК КП(б) Беларусі пастанавіў лічыць ваш атрад апорным атрадам, які ў бліжэйшы час павінен вырасці ў партызанскую брыгаду. Для гэтага вам неабходна арганізаваць дадаткова некалькі атрадаў і ўліць у свой атрад. Неабавязкова, канечне, усё зводзіць у адну кучу. Падпарадкаваныя вам атрады могуць

знаходзіцца і перасоўвацца асобна, але быць аб’яднанымі пад вашым кіраўніцтвам як падраздзяленні партызанскай брыгады Шмырова”.

Так па ініцыятыве П.К. Панамарэнкі 4 красавіка 1942 года ў вёсцы Шыцікі Пудацьскага сельсавета на нарадзе камандзіраў і камісараў партызанскіх атрадаў была створана Першая Беларуская партызанская брыгада. Камандзірам брыгады быў прызначаны М. Шмыроў, камісарам Р. Шкрэда і начальнікам штаба Я. Захараў. Атрад Бацькі Міная ўзначаліў Г. Курмялёў. Такім чынам, брыгада сфарміравалася з атрадаў Г. Курмялёва, Д. Райцава, М. Біруліна, А. Дзіка.

* * *

“Віцебскія вароты” спраўна дзейнічалі на працягу васьмі месяцаў. Яны сталі легендарнымі. Ім адведзена залатая старонка ў летапісе Вялікай Айчыннай вайны.

* * *

... З-за “варот” да нас дайшла ў падрабязнасцях навіна: “Гітлераўцы разбіты пад Масквой ушчэнт, хвалёны нямецкі “бліц-крыг” стаў для іх бліц-крахам!

Склікалі партыйны сход. На парадку дня – адно пытанне: чым адказаць Камуністычнай партыі і кераічнай Чырвонай Арміі на вялікую перамогу пад Масквой.

Усе, хто выступаў на сходзе, гаварылі прыўзнята. У голасе кожнага камуніста гучала нота помсты акупантам за смерць, за пажары, за слёзы, за ўсе пакуты.

Я прапанаваў неадкладна правесці аперацыю ў падарунак гераічнай Чырвонай Арміі. Зноў нацэліліся на Курынскую ўправу.

Напалі на групу праціўніка раптоўна, не даўшы яму апамятацца. Страляніна працягвалася амаль гадзіну. У якасці трафеяў у нашых руках апынулася дабро, нарабаванае ў мясцовага насельніцтва. Даю ўказанне:

--Загружайце мяшкі, кладзіце на фурманкі і ўсё да грама развязіце па дварах. Калі ўсё гэта зробім мы, то карнікі будуць менш прыдзірацца да жыхароў Курына, маўляў, наша хата з краю, спаганяйце з партызан.

Так і зрабілі.

А цяпер чарга новай аперацыі.

Захапіўшы нямецкую ўправу, я важна ўсеўся ў крэсла бургамістра, самазвана аб’явіў сябе на гэтай прыслужніцкай пасадзе.

Званю ў Сураж:

--З вамі размаўляе курынскі бургамістр. На нас моцна насядаюць партызаны. Тэрмінова шліце падмацаванне…

--Колькі чалавек?

--Сорак паліцэйскіх, як мінімум.

--Сорак будзе. Сустракайце.

Выклікаю да сябе кулямётчыка Міхаіла Сільніцкага, каб даць важнае даручэнне.

--Слухаю, таварыш камандзір, -- узяў Міша пад казырок.

Я яго пытаю:

--Хочаш стаць паліцаем?

--Сапраўдным?

--Вядома, не сурагатным…

--За каго вы мяне прымаеце, Фядотавіч? – пакрыўджана адпарыраваў камсамолец.

Я хутка яго супакоіў, бо часу на жарты было ў абрэз.

--У нашу партызанскую пастку з Суража рухаюцца сорак паліцаяў. Ты ж павінен сустрэць іх на дальніх подступах да Курына і прывесці сюды. Зараз жа “ўпрыгожвай” свой рукаў паліцэйскай павязкай – і ў добры шлях!

--Служу Савецкаму Саюзу! – прамовіў Сільніцкі.

Прайшло нямнога часу, і ён сустрэў паліцаяў. Пачаў іх па чарзе абдымаць. Ну, як дарагіх збавіцеляў.

--Што чутно? – пытаюць яны ў Сільніцкага.

--Бургамістр на месцы, чакае вас. Ёсць і немцы, але іх малавата – цяпер уся надзея на вас.

--Мы гэтым партызанам пакажам, на чым свіння хвост носіць, -- і паліцаі прыбавілі крок.

Управа была ўзмоцнена партызанскімі засадамі. Я чакаў “гасцей”. А калі яны ўбачылі, да якога бургамістра завёў іх Сільніцкі, адразу аслупянелі, сталі нямымі.

--Зброю ў козлы! Рукі ўгору! – загадваю паліцаям. Іх акружылі партызаны цесным кальцом, умомант абяззброілі.

--Што з намі будзе? – спытаў адзін з палонных, відаць, нейкі іхні старшы.

--Не расстрэльвайце… -- маліўся ў дрыжыках другі.

--Вы нам дазарэзу патрэбны жывыя, -- супакойваю паліцаяў. – Нагружайце падводы  прадуктамі, павязеце за лінію фронту. 80 фурманак з падарункамі роднай Чырвонай Арміі былі гатовы ў шлях праз “Віцебскія вароты”. Некалькі партызан канваіравалі палонных паліцаяў. Я перадаў з абозам запіску на імя камандзіра савецкай дывізіі. Ад імя народных мсціўцаў і насельніцтва выказаў воінам нашу шчырую падзяку за іх мужнасць і гераізм у барацьбе супраць гітлераўскага нашэсця, запэўніў, што беларускія партызаны са свайго боку не пашкадуюць смяротнага агню, будуць помсціць ворагу, знішчаць яго там, дзе ён толькі высуне нос.

Калі партызаны вярнуліся назад, расказвалі, што камандзір дывізіі вельмі здзівіўся такому нечаканаму абозу, шчыра дзякаваў за прадукты. Ён вельмі хацеў у бліжэйшы зручны час сустрэцца са мною. А ў знак непахіснай дружбы і моцнага марозу армейцы падарылі партызанам бочку гарэлкі.

--У вас, мабыць, цяпер бровары не працуюць, -- паспачуваў інтэндант.

--Чаго няма, таго няма, -- адказаў наш ездавы. – Былі паліцаі, і мы іх ад усёй душы падарылі вам…

Некалькі дзён запар нашы абознікі нястомна неслі вахту агітатараў. Партызаны не адставалі ад іх ні на хвіліну:

--Раскажы, браток, як там на пазіцыях…

--Што перадавала франтавая братва?

Гутаркам, здавалася, не будзе канца.

Я хутка сабраўся ў дарогу – за лінію фронту, у госці да завочна знаёмага камандзіра 47-й стралковай дывізіі палкоўніка С.С. Чарнюгова. Ад імя народных мсціўцаў перадаў у падарунак камдыву добрага верхавога каня.

Наша першая асабістая сустрэча была па-братэрску сардэчнай. Дзяліліся баявымі ўспамінамі, пра быт наш салдацкі гаварылі і, вядома, удакладнялі нашы супольныя ваенныя справы.

Партызанскія баявыя аперацыі ў іх тактычным плане ў корані адрозніваліся ад вайсковых. І Чарнюгова вельмі цікавіла кожная дэталь.

--Вашы асобныя метады, -- падкрэсліў ён, -- вельмі спатрэбяцца нашай разведцы.

У сваю чаргу камандзір дывізіі даў мне некалькі  вельмі каштоўных парад, правераных  гераічным чырвоным войскам у ходзе бітвы пад Масквою.

Пад канец візіту я прыняў парад, якім сам і камандаваў. Палкоўнік Чарнюгоў асядлаў падоранага яму партызанамі каня, прышпорыў, зрабіў аб’езд, прывітаўся, як належыць, хутка саскочыўз сядла, падбег да мяне і сказаў:

--Дзякую. Да новых сустрэч!

* * *

Пакуль “Вароты” былі наўсцяж, Вялікая зямля днём і ноччу шчодра сілкавала партызанскі край рознымі сродкамі масавай інфармацыі. База партызанскага “Саюздруку”накапіла вялікую колькасць савецкіх перыядычных выданняў, плакатаў, лістовак, брашур, твораў палітычнай і мастацкай літаратуры. На ўвесь гэты ідэйны арсенал ускладаліся вялікія надзеі, як на дынаміт, гранату, штык, кулямёт. У ім быў закладзены зарад вялікай моцы, здольны ўзнімаць на бітву легіёны і сеяць смерць у варожым стане. Так павялося з першых нумароў ленінскай “Іскры”, ленінскай “Праўды”.

Нашы людзі, асабліва палітработнікі, разведка, падпольшчыкі ў любы зручны час, рызыкуючы сваім жыццём, распаўсюджвалі выданні Вялікай зямлі сярод насельніцтва і ў варожых гарнізонах.

А на складзе яшчэ заставалася некалькі цэнтнераў антыфашысцкіх лістовак. Хоць оптам, хоць у розніцу, а збыць іх трэба было аператыўна і па прызначэнню. Думалі-гадалі… Хутка на конях не развязеш, за пазухамі не разнясеш. І сваёй авіяцыі няма.

--Ёсць выйсце! -- не памятаю, хто з нашых пажадаў унесці сваю рацпрапанову. – Пусцім лістоўкі па Дзвіне.

--З баржамі?

--Загнуў, браток!

-- У закаркаваных бутэльках паплывуць!

--Здорава! – дружна падтрымалі прапанову. А посуду ў нас – слава богу!

Велізарную колькасць бутэлек “канфіскавалі” на Ноўкінскім шклозаводзе, пакінутым на волю лёсу. У вайну яны атрымалі сваё новае прымяненне – запраўляліся гаручай сумессю, каб потым  трапна шпурляць іх пад гусеніцы нямецкіх танкаў. Цяпер тыя звычайныя паўлітроўкі стануць неацэннымі носьбітамі антыгітлераўскай агітацыі.

Працавалі да сёмага поту, бутэлькі набівалі шчыльна і ў хуткім часе больш за сто кілаграмаў лістовак былі гатовы ў шлях па дзвінскаму фарватэру.

Дзвіна падхапіла іх на свае хвалі і панесла міма дуброў, праз гарады і вёскі да самай Балтыкі. Гледзячы на гэты цуд, мясцовыя жыхары вылоўлівалі па некалькі бутэлек або падбіралі  на мелях  выкінутыя прыбоем лістоўкі, як вестуны немінучай пагібелі акупантаў.

А часам на берагах Дзвіны стаяў суцэльны галас, фашысты пераклікаліся з аўчаркамі. Кінуўшы губныя гармонікі, карнікі вар’яцелі ад убачаных на вадзе бутэлек. Можна злавіць адну, дзве, дзясятак, а астатнія не дагоніш!

І пачулася каманда:

--Плі!

Загаварылі варожыя гарматы, выконваючы смяротны прыгавор бутэлькам. А яны плылі, плылі, плылі…

Масква даслала многа антыфашысцкіх сатырычных плакатаў. І іх мы бласлаўлялі ў людзі. А аднойчы атрымалася вельмі арыгінальна.

Дачуліся, што ў Подбераззе завітаў з Германіі нейкі фон барон, пачаў абзаводзіцца маёнткам. Машыны завёз. А ў дадатак невядома дзеля якой патрэбы даставіў вярблюда.

Нашы партызаны пажадалі “пазнаёміцца” з каланізатарам бліжэй. А той, пранюхаўшы пра візіт, даў цягу – і толькі яго бачылі.

Вярблюд застаўся. І мы яго ўзялі ў свой партызанскі прыют. Накармілі ад пуза, напаілі  як мае быць. Пачалі раіцца, якую функцыю ён павінен  выконваць. Як жывое цягло выкарыстаць не маглі, нязручна з ім у паходах і засадах. А ваяваць на нашым баку павінен, хоць трэсні!

Няхай панясе ў Віцебск антыгітлераўскую агітацыю.

Абклеілі яго ўсяго сатырычнымі плакатамі, вывелі на бойкую дарогу і прагналі ў бок горада.

Вярблюд доўга шпацыраваў па вуліцах, завулках, хадзіў між гандлёвых радоў на Смаленскім рынку, не спяшаючыся, быццам у Каракумах.  Як і належыць яму, на сваім гарбе насіў Гітлера. Праўда, намаляванага, і зусім не па-берлінску. Худога. Шалёнага. Пабітага. У клейстары.

Вярблюда абступалі людзі, добразычліва ўсміхаліся яму.

Акупанты, прачытаўшы на правым баку жывёліны “Гітлер – капут!” – кінуліся ўзяць яе ў палон.  Аднак збаяліся, што недзе між гарбамі ў вярблюда пакладзены міны.

Фашысты расстралялі вярблюда аўтаматнымі чэргамі. Мірны выхадзец з Сахары загінуў, выканаўшы важнае заданне партызан.

… Брыгада імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола выкарыстала “вароты” па-гаспадарску. Усё, што дала нам Вялікая зямля да апошняга грама з высокай аддачай скарысталі ў барацьбе з лютым ворагам. І мы не засталіся ў даўгу. Па дарогах брыгады за лінію фронту прайшло звыш дваццаці тысяч адмабілізаваных мужчын для фарміравання Беларускай стралковай дывізіі. На Вялікую зямлю перадалі тугія мяхі з грашыма і аблігацыямі дзяржаўных пазык, сабраных сярод насельніцтва ў фонд абароны, на выпуск танкавых калон і авіяэскадрылляў. Жывёла, збожжа, фураж, цёплае адзенне накіроўваліся ў дзеючую армію абозамі, часам суцэльным патокам…

## ШЧАЛБОЎСКАЯ  ЭПАПЕЯ

У лютым 1943 года ў партызанскую брыгаду М.Ф. Біруліна перайшоў сфарміраваны гітлераўцамі з ліку ваеннапалонных так званы волга-татарскі батальён. Іх рыхтавалі для барацьбы супраць партызан. У батальёне было звыш 800 салдат і афіцэраў, а на ўзбраенні – шэсць гармат-саракапятак, сто кулямётаў, мноства аўтаматаў, вінтовак. Запас боепрыпасаў і харчоў быў разлічаны на цэлы месяц. Перабежчыкаў падзялілі паміж партызанскімі брыгадамі. Першай Беларускай дасталося 200 чалавек.

Паўстанне батальёна давяло камандаванне віцебскага гарнізона да шаленства, і гітлераўцы рашылі разгарнуць супраць партызан чарговую экспедыцыю пад кодавай назвай “Екельн”. Фашысты разлічвалі цалкам знішчыць партызан у прыфрантавой зоне Віцебск – Гарадок – Невель – Сураж. У першай дэкадзе лютага ў ваколіцах Віцебска, Гарадка, Мяжы і Суража праціўнік сканцэнтраваў больш 20 тысяч салдат і афіцэраў 403-й ахоўнай дывізіі,  3-й танкавай, не лічачы розных паліцэйскіх і ўласаўскіх фарміраванняў. З паветра экспедыцыю падтрымлівала бамбардзіровачная, разведвальная і знішчальная авіяцыя, якая базіравалася на віцебскім і ўльскім аэрадромах.

Перад танкавай армадай ставілася задача заціснуць у кальцо блакады партызан, а затым знішчыць іх газамі. На ўльскім аэрадроме ўжо быў запас авіябомб  з атрутнымі рэчывамі.

У пачатку лютага  мяне тэрмінова выклікалі ў Беларускі штаб партызанскага руху. Свае абавязкі я часова ўсклаў на начальніка штаба брыгады А.Я. Федарэнку. Ва ўсіх аператыўных справах яму дапамагаў камісар В.К. Перуноў.

12 лютага фашысцкія карнікі з усіх бакоў рушылі на партызанскую зону Віцебск – Невель – Сураж. На чыгуначным перагоне Віцебск – Гарадок курсіраваў варожы браняпоезд і з цяжкіх гармат абстрэльваў вёскі Кулі, Шніці, Пальмінку і Кушнярова, дзе размяшчаліся нашы атрады.  Аб экспедыцыі мы даведаліся загадзя. Наш чацвёрты атрад пад камандаваннем С. Зарэнды і атрад “Сібірак” на чале з М. Паддубным былі ў вёсцы Раманава, а баявая ахова – у Кушнярове, за сем кіламетраў ад Гарадка. Другі атрад, якім камандаваў Я. Забаўленка, займаў Пальмінку. Першы атрад на чале з Ф. Міхалковым і атрад імя Лазо пад камандаваннем І. Куксёнка дыслакаваліся ў Трашкове. Атрад Я. Клімовіча размяшчаўся ў вёсках Шніці і Кулі. Штаб партызанскай брыгады знаходзіўся ў Кабішчы. А ўвогуле наша брыгада кантралявала ўсю тэрыторыю ўздоўж чыгункі на перагоне Гарадок – Лосвіда,

вёска Храпавічы. А далей – па рацэ Лужаснянка і ўсё правабярэжжа Заходняй Дзвіны да вёскі Лушчыха – кантралявала 1-я Віцебская партызанская брыгада на чале з М.Ф. Біруліным.

Ад Гарадка да Мяжы размяшчаліся падраздзяленні брыгады імя Кутузава (камандзір С.Т. Воранаў) і 2-й Беларускай партызанскай брыгады пад камандаваннем М.І. Дзячкова.

На ўсходзе зоны дзейнічалі атрады 1-й Беларускай брыгады, якой у той час камандаваў Я.З. Захараў. У нашу зону пасля студзеньскай варожай экспедыцыі ў Багушэўскім і Лёзненскім раёнах прыбылі партызаны брыгады “Аляксея”.

У зоне 2-й Беларускай брыгады размясціліся партызаны брыгады А.А. Баскакава. Было многа розных дыверсійных і спецыяльных груп, якія трымалі шлях у заходнія раёны вобласці. У Суражска-Гарадоцкай  і Езярышчанскай зонах сканцэнтравалася 10 партызанскіх брыгад – звыш васьмі тысяч байцоў, узброеных станковымі і ручнымі кулямётамі, аўтаматамі і вінтоўкамі. У партызан было таксама шэсць гармат-саракапятак, каля двух дзясяткаў батальённых мінамётаў, звыш пяцідзясяці бранябойных ружжаў. Гэту сілу не мог не ўлічваць праціўнік. Палонныя гітлераўцы паказвалі, што іх камандаванне паставіла задачу прасоўвацца не больш трох кіламетраў за дзень і займаць абарону, каб ноччу не прасачыўся праз лінію блакады ніводзін партызан. У першы і наступныя дні наступлення гітлераўцы так і рабілі.

На пазіцыі 1-й Віцебскай партызанскай брагады наступала каля сямі тысяч варожых салдат пры падтрымцы танкаў і артылерыі. Жорсткія баі кіпелі каля вёсак  Высокае, Шалыгі, Чырвоны Двор. Двое сутак працягваўся бой каля пасёлка торфазавода “20 год Кастрычніка”. Гітлераўцы лезлі наперад, не лічачыся са стратамі. Партызаны адбівалі атакі ўрукапашную.

Камандаванне нашай брыгады своечасова разгадала задуму карнікаў – па Вялікалуцкаму тракту  перарэзаць партызанскую зону  на дзве часткі, каб потым знішчаць разрозненыя групоўкі. Нашы партызаны далі некалькі ўдалых баёў акупантам, якія наступалі з Гарадка і станцыі Залучча. Каб фашысты не зайшлі ў тыл, рашылі брыгаду Крэсіка пакінуць на рубяжы Сюбараўка – Кабішча, а нашы атрады паслаць на падмогу брыгадзе М.Ф. Біруліна. За адну ноч правялі перадыслакацыю атрадаў  і занялі абарону на

рубяжах ад Пуцілаўскага моста да ракі Лужаснянкі і амаль да торфазавода “20 год Кастрычніка”. Побач з бірулінцамі нашы партызаны трое сутак утрымлівалі занятыя рубяжы пад бамбёжкамі і артылерыйскімі абстрэламі. Часта пераходзілі ў контратакі. Аднак доўга трымаць пазіцыйную абарону не маглі. У нас не хапала боепрыпасаў. Таму камандзіры атрадаў рабілі засады, давалі кароткі бой і адыходзілі на новы рубеж. На Вялікалуцкім тракце партызаны паставілі больш 50 процітанкавых мін і фугасаў, на якіх падарвалася дваццаць варожых танкаў і аўтамашын. Партызанскімі мінамі ўзарваны тры масты праз Лужаснянку. На трое сутак быў спынены рух фашысцкіх войск, а партызаны выйгралі час для перафарміравання сваіх сіл.

Вялікі бой далі нашы партызанскія атрады ў пасёлку Ноўка, у вёсках Стырыкі, Канашы, Нізкія. Каля лясных вёсак Казлоўшчына і Нізкія партызаны адбівалі па пяць – шэсць атак пяхоты ворага, якую падтрымлівалі танкі і артылерыя. Нашы разведчыкі заходзілі ў варожы тыл і наносілі ўдары па штабах і тылавых часцях праціўніка.

А кальцо акружэння партызан з кожным днём сціскалася. З партызанамі адступала ўсё насельніцтва, якое жыло ў нашай зоне. Ішлі ў Шчалбоўскія лясы жанчыны з дзецьмі, старыя.

25 лютага ў вёсцы Забарок адбылася нарада камандна-палітычнага саставу. Многія таварышы выказваліся за выхад партызанскіх падраздзяленняў за лінію фронту. Камандаванню 4-й Ударнай арміі перадалі радыёграму. У ёй паведамілі, што варожае кальцо сціскаецца, і прарваць яго немагчыма з-за недахопу боепрыпасаў, што ў акружэнні знаходзіцца вельмі многа партызан і да 25 тысяч мясцовага насельніцтва. Армейцаў прасілі забяспечыць пераход праз лінію фронту ўсёй гэтай масы людзей шляхам вядзення артагню ў раёне вёсак Шаршні і Дразды. Указваўся аператыўны час з 24 да 2 гадзін у ноч на 27 лютага.  Арганізацыю пераходу даручылі камбрыгам М. Дзячкову і А. Баскакаву.

26 лютага зноў сабраліся камандзіры і партыйна-палітычныя работнікі, каб дамовіцца аб канчатковым варыянце. Сюды прыбылі кіраўнікі 1-й Беларускай брыгады на чале з камбрыгам Я.З. Захаравым і камісарам Р.У. Шкрэдам. Пачалася нарада. Першым узяў слова Я.З. Захараў.

--Мы ўжо чулі аб намеры перайсці за лінію фронту, -- пачаў ён. – Але ў ЦК Кампартыі Беларусі ёсць іншая прапанова…

Камісар брыгады Р.У. Шкрэда прачытаў тэлеграму ЦК. У ёй гаварылася, што камандуючым Суражскай зоны прызначаецца Я.З. Захараў. Ён абавязаны аб'яднаць намаганні атрадаў і брыгад, каб урэшце рэшт вырвацца з варожага кальца. Тут жа быў зачытаны загад па зоне. Ён рашуча забараняў пераход партызан за лінію фронту як неабгрунтаваны. Загад падпісалі камандуючы партызанскімі сіламі Суражскай зоны  камбрыг 1-й Беларускай брыгады  Я.З. Захараў, камісар Р.У. Шкрэда і начальнік штаба І.І. Панчошны.

А вогненнае кальцо блакады няспынна сціскалася. У няроўных баях з карнікамі праяўлялі выключную мужнасць кулямётчыкі В. Лажынскі, В. Нікіфараў з братам Мікалаем, А. Міканенка, разведчыкі С. Паварэха, Ф. Яршоў, П. Скупаў, П. Каралёў, І. Несцярэнка, В. Дамброўскі, М. Якубенка, У. Белахвостаў, С. Арцюхоўскі, В. Дзянісава, Ф. Клімовіч, П. Пятроў, А. Тарасенка, І. Маўлюжаў, У. Шляхто, Л. Клімовіч, М. Купчанка і многія іншыя партызаны. Чацвёрты атрад трое сутак трымаў абарону пад вёскай Нізкія, адбіваючы за дзень да васьмі варожых атак. Камандзір атрада С. Зарэнда і начальнік штаба І. Дзянісаў вызначаліся асабістым прыкладам, паднімаючы партызан у контратакі.

15 сакавіка карнікі сціснулі жалезны ланцуг каля ўрочышча Паўлавічы Шчалбоўскай лясной дачы. Тут скапілася больш трох тысяч партызан і вялікая колькасць насельніцтва. Фашысты вялі няспынны агонь . Партызаны стаялі насмерць. А іх абарончая зона звузілася  да чатырох кіламетраў у даўжыню і двух з палавінай у шырыню.

Авіяцыя 4-й Ударнай арміі наносіла ўдары  па скапленнях тэхнікі праціўніка. У начны час прыляталі лётчыкі, дастаўляючы боепрыпасы, медыкаменты і прадукты. Прылятаў з-за лініі фронту і я ў тыя крытычныя гадзіны.

Камандуючы зонай Я.З. Захараў перад апошнім штурмам сабраў усіх камандзіраў, камісараў, начальнікаў штабоў брыгад і атрадаў. Ён ахарактарызаваў становішча і аддаў загад на прарыў абароны праціўніка. Выконваючы абавязкі камбрыга А.Я. Федарэнка і камісар брыгады В.К. Перуноў пасля гэтага сабралі камандзіраў атрадаў, рот і ўзводаў. Перш-наперш загадалі сабраць усіх партызан і ўкамплектаваць ударную групу, узброеную аўтаматамі. Камандзірам атрадаў Ф. Міхалку, Я. Забаўленку, С. Зарэндзе, А. Клімовічу, камісару атрада П. Баранаву і начальніку штаба І. Дзянісаву прапанавалі адабраць па сто надзейных чалавек з кулямётамі і аўтаматамі. Атака была назначана на 24 гадзіны. Палітработнікі пайшлі да

мірнага насельніцтва, а камандзіры прыводзілі ў гатоўнасць свае ўдарныя групы. Для прарыву выбралі балота. Праваднікам прызначылі былога начальніка лесасплаву І.С. Маржуева, які добра ведаў гэту мясцовасць.

Партызанская разведка данесла, што на цвёрдай зямлі, у першай лініі абароны праціўніка, з інтэрвалам 50 –70 метраў стаяць танкі, а паміж імі станковыя кулямёты. У другой лініі, на адлегласці 450 – 500 метраў, былі пабудаваны драўляныя дзоты, і там знаходзіліся рэзервы. А ў трэцяй лініі абароны знаходзіліся гаспадарчыя часці, штабы, артылерыя і мінамёты. Вячэралі гітлераўцы заўсёды а 24-й гадзіне. А на выбраным партызанамі балоце нямецкіх танкаў не было. Гэта партызаны і выкарысталі.

Роўна ў 23 гадзіны пачалося  пастраенне ўдарных груп. Усё ладзілася хутка і спрытна. Камандзіры павялі сваіх байцоў на зыходны рубеж. А.Я. Федарэнка выбраў рубеж атакі на 500 метраў па фронту.

Ударная група падпаўзла бліжэй да лініі абароны праціўніка. Раптам успыхнула белая ракета, нямецкі дазор даў па партызанах кулямётную чаргу.

Партызаны ўзняліся ў атаку. Суцэльная лавіна людзей з крыкамі “ўра!” страляла кароткімі чэргамі з кулямётаў, аўтаматаў і вінтовак. На месцы атакі стала светла, як днём. З ходу былі прарваны першая і другая лініі абароны. А калі партызаны выскачылі з балота ў сасновы бор, яны сутыкнуліся з гітлераўцамі, якія ў гэты час вячэралі. Усіх фашыстаў перастралялі. Партызаны разграмілі штаб палка, спалілі дваццаць легкавых і грузавых аўтамашын.

І калі гітлераўцы апамяталіся, то адкрылі агонь з кулямётаў і танкаў. Палавіна калоны мірнага насельніцтва зноў трапіла ў “кацёл”.  А тры чвэрці партызан выйшлі з акружэння і рушылі да возера Ціёста, у Вярэцкую лясную дачу.

Карная экспедыцыя працягвалася да 19 сакавіка. Але галоўную задуму – знішчыць партызан, вызваліць ад іх прыфрантавую зону – гітлераўцам ажыццявіць не ўдалося.

## КАНЦЭНТРАЦЫЯ  СІЛ

У самы разгар суровай зімы 1942 года мы атрымалі радасную вестку. Загаварыў Калінінскі фронт. Войскі 4-й Ударнай арміі сумесна з прыдадзенымі ёй злучэннямі пад камандаваннем генерал-палкоўніка А.І. Яроменкі перайшлі ў наступленне. Нягледзячы на ўпартае супраціўленне  ворага, яны

прасунуліся амаль на 250 кіламетраў і ўшчыльную падышлі  да Суражскага і Мехаўскага раёнаў Віцебскай вобласці.

Асобныя часці ўклініліся значна глыбей. Лыжныя батальёны 249-й стралковай дывізіі і 51-й стралковай брыгады абышлі Сураж, дзе быў вялікі варожы гарнізон, і пачалі наступаць па левым і правым берагах Заходняй Дзвіны. А трэцяга лютага перадавыя лыжныя батальёны захапілі чыгуначную станцыю Чэпіна і ўварваліся на паўночна-заходнюю ўскраіну Віцебска.

На ўсім шляху воінаў Чырвонай Арміі насельніцтва сустракала гарачымі абдымкамі.

Разам з чырванаармейцамі былі ў наступленні партызаны. Атрады М.П. Шмырова, Я.З. Захарава, М.Ф. Біруліна, М.І. Дзячкова, С.Т. Воранава і наш былі праваднікамі воінскіх падраздзяленняў, вялі разведку, сумесна штурмавалі варожыя гарнізоны на подступах да Віцебска.

Маланкава сакрушальны рэйд савецкіх войск прымусіў нямецкае камандаванне віцебскі напрамак усходняга фронту аднесці да крайняй рысы крытычнага становішча. Пад страхам далейшага нашага прарыву і страты выгадных стратэгічных пазіцый вермахт пачаў ліхаманкава перагрупоўваць сілы і падмацаваў гэты ўчастак танкавай дывізіяй, авіяцыяй, пяхотнымі часцямі. Перавага ў жывой і агнявой сіле была на баку праціўніка.  У лыжных батальёнаў не было артылерыі, каб весці агонь па варожых танках і самалётах, і яны з жорсткімі баямі адышлі ад Віцебска, заняўшы абарону на ўсход  ад Суража. Стралковы полк 51-й брыгады ўмацаваўся на рубяжы, які праходзіў па ўскраіне вёскі Цімахі Суражскага раёна.

Немцы не рызыкнулі працягваць контрнаступленне, палічылі за лепшае акапацца на ўчастку Веліж – Усвяты, на стыку флангаў груп армій  “Цэнтр” і “Поўнач”. У лініі нямецкай абароны аказаўся ладны пралом, шырынёй амаль у сорак кіламетраў. Партызаны, якія дзейнічалі ў межах Суражскага і Мехаўскага раёнаў, прыбралі гэты пралом у свае надзейныя рукі. І менавіта на гэтым “нічыйным” месцы былі створаны славутыя “Віцебскія вароты”. Цераз іх партызанскія атрады адразу ж устанавілі цесную сувязь з франтавымі часцямі Чырвонай Арміі.

Стрэлы на тактычных картах праціўніка былі ўвесь час нацэлены ў месцы размяшчэння нашых ударных войск і партызанскіх атрадаў.  Акупанты пачалі прымаць меры па ачыстцы ад партызан франтавой і прыфрантавой палос.

Аднак шматлікія іх атакі поспеху не мелі – народныя мсціўцы рашуча абаранялі занятую тэрыторыю. На суражскім напрамку партызаны атрада Г.С. Курмялёва пабудавалі абарончыя ўмацаванні па ўсіх правілах фартыфікацыі.

У штабе 51-й брыгады мы праходзілі добрую школу. Армейцы дапамагалі партызанскім атрадам распрацоўваць баявыя аперацыі. Пасля партызаны нярэдка пры падтрымцы артылерыі 51-й брыгады наносілі ўдары па ворагу. Былі разгромлены варожыя гарнізоны ў вёсках Тарасенкі, Пунішча, Галевічы, Азёркі, Украішча, Вярэчча, Казакова і іншых населеных пунктах. На дарогах ставілі міны, рабілі засады. Вораг не меў спакою ні днём, ні ноччу. Сотні фашыстаў загінулі ў адкрытых баях.

3 красавіка 1942 года на маё імя з Вялікай зямлі паступілі пасылкі і прывітальнае пісьмо Першага сакратара ЦК КП (б) Беларусі П.К. Панамарэнкі. Словы, з якімі да нас звярнуўся Панцеляймон Кандратавіч, да глыбіні душы кранулі кожнага партызана, усялілі непахісную веру ў перамогу, клікалі на новыя подзвігі. Мы неадкладна склікалі атрад на мітынг, дзе зачыталі баявое пасланне кіраўніка Кампартыі Беларусі. Усе выступаўшыя кляліся помсціць лютаму ворагу. І бязмежна радаваліся, што пра нашы партызанскія справы ведае ўся краіна.

Неўзабаве адбылася нарада камандзіраў і камісараў атрадаў Суражскай, Гарадоцкай і Мехаўскай зон. Да нас прыбылі першы сакратар Віцебскага абкама КП(б)Б І.А. Стулаў, старшыня аблвыканкама І.Н. Рабцаў, супрацоўнік ЦК Кампартыі Беларусі В.Р. Раманаў і прадстаўнік 4-й Ударнай арміі А.Е. Паўлючэнка. Камандзіры атрадаў падрабязна расказалі аб баявых дзеяннях партызан. Іх даклады паказалі, якую магутную сілу ўяўляла ў той час усенародная барацьба, разгорнутая ў тыле ворага. Удзельнікі нарады выказаліся за стварэнне брыгады і прапанавалі назваць яе 1-й Беларускай партызанскай брыгадай.

Фарміраванне буйной баявой адзінкі праходзіла паспяхова. У састаў брыгады ўвайшлі аб’яднаны атрад М.П. Шмырова, атрады Д.Ф. Райцава, А.П. Дзіка, М.Ф. Біруліна, В.В. Стралкова. У брыгадным страі было 968 байцоў, камандзіраў і палітработнікаў, у тым ліку 31 камуніст і 135 камсамольцаў. Абласны камітэт партыі зацвердзіў камісарам брыгады Міная Піліпавіча Шмырова, камісарам – Рычарда Уладзіслававіча Шкрэду і начальнікам штаба – Якава Захаравіча Захарава. Я быў прызначаны першым намеснікам камандзіра. Такім чынам адбылася канцэнтрацыя разрозненых партызанскіх

сіл. Узбуйненне дазваляла праводзіць баявыя аперацыі больш шырокага маштабу.

На вайне – як на вайне, markdown рознае бывае. Пад шквалам партызанскага агню нёс вялікія страты праціўнік, былі людскія ахвяры і ў нас. У адным з жорсткіх баёў загінуў смерцю героя камандзір першай роты Карповіч. На яго месца прызначылі малодшага лейтэнанта А.Я. Федарэнку. Аляксей Якаўлевіч, малады, энергічны афіцэр, у час адступлення нашых войск апынуўся  ў варожым акружэнні і застаўся на акупіраванай тэрыторыі Віцебскага раёна. Неўзабаве са зброяй у руках ён уступіў у наш атрад. 19 красавіка 1942 года з групай Арцёма Шаўрова ўзарваў мост на шашы Сураж – Віцебск. Пасля гэтай удалай дыверсіі рух фашыстаў на тым адрэзку дарогі быў паралізаваны на двое сутак. А.Я.Федарэнка многа разоў вызначаўся ў баях асабістай адвагай, вайсковай кемлівасцю і выходзіў пераможцам з самых, здавалася б, безвыходных сітуацый.

Лёс астатніх рот даверылі камандзірам з высокімі баявымі і маральнымі якасцямі. Другую роту ўзначаліў Ягор Аляксеевіч Забаўленка – лейтэнант сапёрных войск – удумлівы (сем разоў прымерай і пасля рэж фашысцкую рацць напавал), смелы (бо, як сам казаў, прыбылі ваяваць, а не да Ганны заляцацца). А камуніст Яфім Клімовіч, якому даверылі трэцюю роту, хоць і не меў ваеннай адукацыі, але не аднойчы праявіў сябе адважным байцом і ўмелым арганізатарам. (Калі шчыра прызнацца, то і наш камбрыг, славуты Бацька Мінай, ніякіх афіцэрскіх школ не канчаў, яго многаму навучылі першая сусветная і грамадзянская войны, а сам увогуле служыў у арміі лічаныя месяцы. “Камандаваць навучыцеся ў баях”, -- памятаю, сказаў нам першы сакратар Суражскага райкама партыі за суткі да сутычкі з гітлераўцамі). На чале чацвёртай роты стаў Ф.А. Варапаеў, афіцэр Чырвонай Арміі, якому вопыту і ініцыятывы пазычаць не трэба было.

Нарэшце канчаткова адшліфавалася арганізацыйная стройнасць кожнай роты. У іх склад уваходзілі па тры ўзводы, у якіх налічвалася ад 25 да 30 байцоў. На ўзбраенні рот, апрача вінтовак і ручных кулямётаў, знаходзілася па аднаму-два станковыя кулямёты, батальённыя і ротныя мінамёты. Роты былі самастойнымі баявымі адзінкамі.

Армейская структура нашага партызанскага атрада дазваляла больш аператыўна і канкрэтна кіраваць падраздзяленнямі. Па-новаму, больш плённа пачаў працаваць штаб атрада, якім кіравалі Яфім Клімовіч з

памочнікам Рыгорам Мельянцовым. У кожнай роце былі палітрукі. Яны ўзначальвалі партыйную, камсамольскую і масава-палітычную работу сярод партызан і насельніцтва.

Палітычная работа ў падраздзяленнях праводзілася штодня, па плану. Палітработнікі выхоўвалі асабовы састаў у духу адданасці справе партыі, гатоўнасці выканаць любое баявое заданне, каб паскорыць вызваленне роднай зямлі ад гітлераўскай навалы.

Раслі партызанскія рады. Было каму лячыць раненых і хворых партызан. Медыцынскую службу атрада з групай медсясцёр і санітараў узначаліў урач І.У. Гаранькоў.

Раслі колькасна, вызначаліся баявой дзейнасцю суседнія з намі партызанскія атрады М.Ф. Біруліна, С.Т. Воранава, М.І. Дзячкова. Сэрцам і душой падраздзяленняў народных мсціўцаў былі падпольныя райкамы партыі. Яшчэ ў студзені 1942 года  бюро Віцебскага абкама  КП(б)Б зацвердзіла першым сакратаром Суражскага падпольнага райкама І.Ф. Бардзіяна. Райкам знаходзіўся ў зоне М.П. Шмырова. У Гарадоцкім раёне падпольны партыйны цэнтр узначаліў Ф.Я. Рыбакоў, у Мехаўскім – М.Ф. Сафронаў. У той час партызанскі рух у прыфрантавой зоне разгортваўся ў трохкутніку Віцебск – Невель – Сураж і навісаў смяротнай сілай над галовамі фашысцкіх акупантаў і іх наймітаў.

Камуністы і камсамольцы – авнгард атрада – атрымалі кожны сваю і агульную задачы. Перш-наперш – ніякага марадзёрства, за гэта нікому ніякай літасці. Наадварот, у час любой баявой аперацыі мы павінны адбіраць у ворага ўсё, што ён нарабаваў у мірных жыхароў – зерне, бульбу, фураж, якія акупанты збіраліся адправіць ў Германію або на пракорм свайму войску. У нас меліся дакладныя звесткі, дзе, у якіх валасных управах накоплена нарабаванае, на якіх малакапунктах і колькі прыгатавана акупантам масла, смятаны, вяршкоў. Пасля адбыліся маланкавыя партызанскія налёты на нарыхтоўчыя базы, і народнае дабро апынулася ў руках народных мсціўцаў.

Партызанскія абозы з гэтым скарбам потым накіроўваліся ў часці дзеючай арміі. За вясну і лета 1942 года за лінію фронту партызаны 1-й Беларускай брыгады адправілі некалькі тысяч галоў буйной рагатай жывёлы, коней, адбітых у ворага пры разгроме нямецкіх гарнізонаў.

А сувязі партызан з франтавікамі ўсё мацнелі. На тэрыторыю нашай партызанскай зоны з воінскіх часцей Калінінскага фронту прыязджалі чырванаармейцы на аўтамашынах і збіралі патрэбныя запчасткі з падбітых танкаў і гармат.

Партызаны ўвесь час былі ў пошуку: чым яшчэ можам дапамагчы доблеснай Чырвонай Арміі? І знаходзілі пастаянна. На возеры Вымна працавала створаная намі рыбалоўная брыгада. Яе ўзначаліў даваенны брыгадзір Віцебскага рыбзавода Іван Зуеў. Партызанскія рыбакі за зіму і лета 1942-га налавілі і адправілі за лінію фронту дзесяткі тон свежай рыбы.

Трэба было бачыць, з якім уздымам збіраліся сродкі на будаўніцтва танкаў і самалётаў! Насельніцтва Суражскага і Гарадоцкага раёнаў аддавала на алтар абароны ўсё, што было, грошы і аблігацыі дзяржаўных пазык.

У канцы сакавіка з першай ротай, якой камандаваў А.Я. Федарэнка, мы зрабілі рэйд з вёскі Стырыкі Суражскага раёна да станцыі Залучча ў Гарадоцкім раёне.  Партызан радасна сустракалі жыхары вёсак Хобаты, Гарані, Кабішча. Па шляху ў атрад уліваліся навабранцы.

Рэйд працягваўся. Мы з ходу разграмілі ў Пальмінцы паліцэйскі гарнізон і валасную ўправу. Частка фашысцкіх наймітаў была знішчана ў кароткім баі, астатнія згарэлі ва ўласнай бярлозе – драўляным школьным будынку, адкуль адстрэльваліся; іх было сорак – не засталося нікога.

Затым сто сорак партызан роты Аляксея Федарэнкі занялі перад чыгуначнай станцыяй вёску Валадарку. А падрыўнікі на перагоне Залучча – Лосвіда ўзарвалі чыгуначны мост і каля пяцідзясяці стыкаў рэек. Рух паяздоў быў затрыманы на двое сутак.

За першую палавіну года многа баявых аперацый правялі партызаны атрада Міхаіла Фёдаравіча Біруліна. Яны поўнасцю знішчылі многія гарнізоны і паліцэйскія заставы на правым беразе Заходняй Дзвіны ў даваенных межах Віцебскага раёна аж да самай шасейнай дарогі Віцебск – Доўжа. Гэта тэрыторыя поўнасцю кантралявалася бірулінцамі.

Уплывала з-пад ног акупантаў зямля ў Гарадоцкім і Мехаўскім раёнах. Вялікі абшар яе вызвалілі атрады С.Т. Воранава і М.І.Дзячкова ў  складзе 1-й Беларускай брыгады. Утварылася партызанская зона ў трохкутніку Сураж  -- Віцебск – Невель. А ў заходніх сельскіх Саветах гэтых раёнаў наносілі

сакрушальныя ўдары па ворагу атрады Фалалеева і Кузняцова. Акупанты і паліцаі, трымаючыся зубамі за кожны метр, абаранялі шасейную дарогу, чыгунку Віцебск – Невель і грунтавы шлях, што вёў з Гарадка на Усвяты. Апошні служыў гітлераўцам адзінай транспартнай артэрыяй для забеспячэння войск на Усвяцкім напрамку фронту. І ўсюды варожую абарону ламалі падраздзяленні народных мсціўцаў.

На вызваленай тэрыторыі былі адноўлены дзяржаўныя органы Савецкай улады. Вёска Пудаць Суражскага раёна стала сталіцай партызанскага краю. Тут размяшчаўся штаб нашай брыгады, пачалі працаваць Суражскі райкам партыі і выканаўчы камітэт раённага Савета дэпутатаў працоўных, партызанскі шпіталь. Па даваеннаму адміністрацыйнаму дзяленню была адноўлена работа сельскіх Саветаў. А ў Вярэччы і Ноўцы працавалі школы. З многімі сельскімі Саветамі райвыканкам меў тэлефонную сувязь.

Пачалі апрацоўваць і зясяваць зямлю. Вясной 1942 года кожны атрад выдзеліў групы партызан, якія дапамагалі вяскоўцам засяваць прысядзібныя ўчасткі і калгасныя нівы. Насенне збожжавых і бульбы было назапашана пасля разгрому нямецкіх гарнізонаў. Яго партызаны вывозілі ў вёскі прапарцыянальна з патрэбамі пасяўной. У час палявых работ яшчэ больш узмацнела дружба партызан з насельніцтвам.

І ўвесь час – днём, уначы – мы вымушаны былі падтрымліваць павышаную да крайняй ступені пільнасць. І, вядома, чаму: варожы стан не драмаў. Штодня над партызанскімі зонамі праляталі фашысцкія разведвальныя самалёты, засылаліся шпіёны.А ў канцы мая ў Суражскую партызанскую зону немцы накіравалі карную экспедыцыю – каля трох тысяч салдат з танкамі, артылерыяй і мінамётамі. Карнікі на сваім шляху расстрэльвалі старых, дзяцей, жанчын, рабавалі і палілі вёскі. Дашчэнту згарэлі Курына, Ізахова, Дражна, Хамякова, Чырвоны Двор і іншыя.

Рашылі: на сябе прымем рашучую абарону сваёй зоны, а акупантам справім хаўтуры. У рашучы бой уступілі атрады Міхаіла Біруліна, Аляксея Гурко, наш і іншыя з суседніх падраздзяленняў. Мініравалі дарогі, узрывалі масты. Моцныя агнявыя ўдары наносілі з засад і абходных манёўраў. У выніку тыднёвых баёў карнікі не змаглі зламаць партызан. Панёсшы вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы, яны былі вымушаны зняцца са сваіх пазіцый і вярнуцца ў Віцебск.

## РАЗВЕДЧЫКІ

Партызанская зона значна пашырыла межы свайго ўплыву. Змяніўся і характар баявых дзеянняў. Важна было ўзмацніць разведку з яе агентурнымі сувязнымі. Мы павінны былі ведаць сілы варожых гарнізонаў у Віцебску, Гарадку і пасёлку Доўжа. У гэты час камандаванне 4-й Ударнай арміі, Беларускі штаб партызанскага руху патрабавалі ад нас пільна сачыць за перадыслакацыяй гітлераўцаў, трэба было ўдакладніць, за кошт якіх злучэнняў адбываецца змена часцей на Вялікалуцкім, Невельскім і Усвяцкім напрамках фронту.

Разведаддзел 4-й Ударнай арміі і Беларускі штаб партызанскага руху двойчы на тыдні запытвалі ў нас па рацыі: колькі варожых эшалонаў прайшло па чыгунцы Віцебск – Невель да лініі фронту і ў адваротным напрамку, што вязуць у вагонах і на платформах, якія часці (і іх індэксы) рухаліся ў бок фронту і назад па шасейных дарогах Віцебск – Невель, Гарадок – Усвяты. Абставіны патрабавалі ад нас весці не толькі баявую разведку, але і агентурную.

Паўстала пытанне, каму даверыць вядзенне разведкі?

Параіўшыся ў штабе, мы спыніліся на дваццацігадовым лейтэнанце І.М. Дзянісаве. Перад вайной Іван Міхайлавіч выдатна скончыў 2-е Ленінградскае Чырванасцяжнае артылерыйскае вучылішча па спецыяльнасці інструментальнай разведкі. Ён дасканала ведаў тапаграфію. З чэрвеня 1942-га камандаваў партызанскім узводам і многа разоў вызначыўся асабістай храбрасцю, умелым манеўрам.

Начальнік штаба атрада І.І. Карнавухаў выклікаў Дзянісава, і той у маёй прысутнасці згадзіўся ўзначаліць разведку. У яе састаў падабралі трыццаць самых смелых партызан. Палітруком разведкі назначылі камуніста Уладзіміра Старавойтава. Раней ён вызначыўся ў баі з нямецкімі карнікамі пад Плотамі і быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Былі ўзнагароджаны яшчэ тры разведчыкі: Іван Несцярэнка – ордэнам Чырвонай Зоркі, Фёдар Яршоў – медалём “За адвагу”, Павел Каралёў – медалём “За баявыя заслугі”. Накіравалі ў разведку Віктара Дамброўскага, які прыбыў у атрад з Масквы па сапёрнай справе, а таксама медфельчара Лідзію Клімовіч.

Наступны наш клопат – як мага лепш узброіць разведку. І яна атрымала тры ручныя кулямёты, дзве снайперскія і дзве бязгучныя вінтоўкі, дваццаць аўтаматаў. А каб разведка была манеўранай і няўлоўнай, я паставіў задачу пасадзіць яе ў сёдлы, вядома ж, адбіўшы ў акупантаў кавалерыйскіх коней з амуніцыяй.

Неўзабаве пешыя сталі коннымі.

Створаная разведка пачала выконваць заданне за заданнем. І кожнае новае дыктавала ўсё большую адказнасць.

Абласны камітэт партыі і Беларускі штаб партызанскага руху далі нашаму атраду ўказанне выдзеліць праваднікоў і ахову для перапраўкі цераз чыгуначную і шасейную дарогі Віцебск – Гарадок спецгруп, упаўнаважаных абкама і ЦК КП(б)Б, назначаных за лініяй фронту камандзіраў і камісараў. На іх была ўскладзена місія разгортвання партызанскага руху ў раёнах Вілейскай, Беластоцкай і Брэсцкай абласцей.

Нашы разведчыкі за лета сорак другога года пераправілі каля сотні баявых груп.  У чэрвені па заданню ЦК Кампартыі Беларусі і армейскіх разведорганаў у Лепельскі, Ушацкі, Бягомльскі і Барысаўскі раёны накіравалі разведчыц В.Ф. Буйнячэнка, настаўніцу Таню з атрада Гурко і іншых, у Мінскі падпольны абкам партыі -- радыстку Клаву з Іванава і радыста Дзмітрыя з Сібіры. Для аховы рацыі на ўсім шляху прызначылі аўтаматчыкаў нашай разведкі Івана Бачарова і Андрэя Шляхто. З гэтай групай да Глыбачанскай лясной дачы Ульскага раёна ішоў камандзір партызанскай брыгады імя Чапаева Уладзімір Мельнікаў.  З ім знаходзіліся разведчыцы сёстры Юлія і Валянціна Берасневы. У той жа раён была прыведзена і дыверсійная група, якую ўзначальваў афіцэр з канспіратыўнай мянушкай Пушкін.

У гэты час нашым разведчыкам трэба было здаць не адзін адказны залік. У Мінскім падпольным абкаме, як усходу сонца, чакалі рацыю. Належала звязацца з партызанскімі атрадамі, якія дзейнічалі ў Лепельскім, Ушачскім, Бягомльскім і Барысаўскім раёнах, і перадаць, каб яны праз “Віцебскія вароты” накіравалі сваіх прадстаўнікоў ў Беларускі штаб партызанскага руху або Віцебскі абкам партыі. Адначасова яны павінны былі сабраць інфармацыю аб размяшчэнні ў гэтых раёнах варожых войск, аб узвядзенні на рацэ Бярэзіне і яе сістэме так званага Бярэзінскага вала. Апошні па задуме фашыстаў павінен быў стаць фарпостам у сістэме іх абароны.

І апошняе, важнае па значэнню і звязанае з рызыкай заданне, -- здабыць нямецкія акупацыйныя загады, перыядычны друк і розныя аб’явы.  А каб больш упэўнена прашчупаць варожыя гарнізоны і таго-сяго з акупантаў падкупіць, кожная наша разведчыца мела нямецкія франтавыя маркі і дакументы.

Пад Барысавам нечакана здарылася першая і апошняя асечка – разведчыца Таня трапіла ў рукі паліцая. Аднак службовую строгасць з апошняга як ветрам здзьмула, калі Таня дала яму наручны гадзіннік і частку нямецкіх марак.

Уся група вярнулася ў атрад без ахвяр і з каштоўнымі разведданымі.

Паход разведчыкаў па глыбокіх тылах ворага паслужыў для іх добрай школай. Вопытнай і смелай разведчыцай стала Валянціна Буйнячэнка. З падробленым пашпартам і з кошыкам – маўляў, мяняю адзенне на хлеб, -- хадзіла ў нямецкія гарнізоны ў Янавічы, Гарадок, Лужасна, у вёску Пушча, на сувязь з сіроцінскімі партызанамі.

Лейтэнант І.М. Дзянісаў за кароткі час арганізаваў разгалінаваную сетку агентурнай разведкі. На станцыі Лосвіда і Лосвідскім пераездзе дзейнічала група падпольшчыкаў, якую ўзначальваў камсамолец Аляксандр Гурко. Савецкія патрыёты збіралі даныя аб руху нямецкіх эшалонаў па чыгунцы  і воінскіх часцей па шасейнай дарозе Віцебск – Невель. У вёску Канавалава зачасціла разведчыца Ганна Бялова. Пятнаццацігадовы разведчык Леанід Бароўскі прыносіў у атрад звесткі з Гарадка.

Плённа працаваў на нашу разведку сын гарадоцкага бургамістра Р.І. Аляшковіч. Да вайны Расціслаў Іванавіч выкладаў фізіку, вучыў Івана Дзянісава. Цяпер выкрадаў з бацькавых сейфаў чыстыя бланкі нямецкіх “аўсвайсаў”, рабіў дакументы для агентурных разведчыкаў. Аляшковіч-малодшы карыстаўся ў акупантаў даверам, лёгка чэрпаў інфармацыю аб гарнізоне і перадыслакацыі варожых часцей. Па яго каардынатах савецкія лётчыкі разбамбілі буйныя склады ў Гарадку і Езярышчы, танкавую часць, якая спынілася ля чыгуначнай станцыі Прудок на перафарміраванне.

У жніўні 1942 года нашы разведчыкі прывялі ў атрад з вёскі Баталі былога повара Віцебскага чыгуначнага рэстарана М.Я. Нагібава з жонкай. Па нашаму заданню яны хадзілі ў разведку ў Віцебск і вярталіся з каштоўнымі данымі аб размяшчэнні ваенных складоў і фарміраванняў.

Разведчыцы Надзеждзе Грыневіч былі даступнымі звесткі аб руху варожых эшалонаў па станцыі Лоўша. Там на чыгунцы працаваў яе брат, які ахвотна дзяліўся з сястрою вядомай яму інфармацыяй.

У рэшце рэшт разведка дзейнічала далёка за межамі нашага атрада і дастаўляла амаль усе звесткі, што ад яе патрабаваліся.

Аднойчы разведчыкі паведамілі, што фельдкамендант Гарадка падпалкоўнік войск СС павязе ў Віцебск узгадняць  спісы савецкіх патрыётаў, сем'яў партызан і спачуваючых ім, каб пасля іх расстраляць. Я неадкладна загадаў І.М. Дзянісаву накіраваць пад Гарадок разведку і перахапіць пасыльных. Зборы былі кароткія. Трыццаць аўтаматчыкаў і чатыры кулямётчыкі зрабілі засаду ў адным кіламетры ад Гарадка. Сюды яшчэ не дабіраліся партызаны, і немцы з паліцаямі лічылі гэта месца спакойным.

А дзевятай гадзіне раніцы з Гарадка выйшла каманда па выяўленню партызанскіх мін. Наперадзе рухаліся тры фурманкі, загружаныя каменнем. Ездавыя ішлі за вазамі, трымаючы нацягнутыя лейцы даўжынёй пад дваццаць метраў. Усе яны былі нашы, гарадоцкія. Ззаду павольна рухаліся немцы з сабакамі, прывучанымі знаходзіць міны, а следам за імі ішлі тры салдаты з мінашукальнікамі. Замыкалі працэсію дзве фурманкі з кулямётамі і боепрыпасамі і група немцаў з паліцэйскімі, чалавек дванаццаць, не больш. Разведчыкі іх прапусцілі.

У дзесяць гадзін каманда па разміраванню дабралася да станцыі Залучча і пачала абстрэльваць з кулямётаў кусты. А з боку Гарадка паказаліся чатыры легкавыя і тры грузавыя аўтамабілі. Ля кабін грузавікоў стаялі станковыя кулямёты, а на лаўках сядзелі аўтаматчыкі, якія ў любую мінуту маглі адкрыць агонь. У першай машыне ехала ахова, а ў другой – фельдкамендант.

Дзянісаў аддаў загад:

--Першая група б'е па ахове, другая – па трэцяй машыне, а трэцяя – па чацвёртым аўтамабілі. З фельдкамендантам будзем разбірацца мы з Уладзімірам Шляхто і Іванам Несцярэнкам. Падпускаць ворага як мага бліжэй.

Калона ішла на невялікай скорасці, і калі эсэсаўцы наблізіліся, пачулася каманда:

--Агонь!

Шквальны агонь партызан ашаламіў акупантаў. Шафёр і афіцэр, якія сядзелі ў кабіне першай машыны, загінулі. Машына па інерцыіі пайшла пад адхон. Застылі на месцы трэцяя і чацвёртая аўтамашыны ворага. А партызаны працягвалі паліваць фашыстаў свінцовым градам. Фельдкамендант хацеў ужо развярнуцца назад у Гарадок.  Але партызанская куля імгненна разлічылася з катам, які замучыў сотні савецкіх патрыётаў і расстраляў за Гарадком у Вераб'ёвых гарах.

Бой працягваўся не больш дваццаці мінут. Былі забіты фельдкамендант, яго ад'ютант і 37 аўтаматчыкаў, каля двух дзясяткаў былі лёгка і цяжка паранены, разбіты чатыры аўтамашыны. А партызаны выйшлі з бою без ахвяр.

Па адыходзячых партызанах з вёскі Бярозаўка пачала біць варожая мінамётная батарэя. Да месца здарэння пад'ехала некалькі аўтамашын з жывой сілай. Пачалася страляніна.

Неўзабаве Гарадок і Віцебск абляцела "навіна": у вёсцы Сілкі высадзіўся чырванаармейскі дэсант.

За ноч Дзянісаў са сваёй групай апынуўся ля станцыі Язвіна, што на чыгунцы Віцебск – Полацк. На шашы паставілі тры фугасныя міны вагою па восем кілаграмаў. Яшчэ адну міну падклалі пад рэйкі.

А з узыходам сонца разведчыкі прыбылі ў вёску Худзялі, якая знаходзілася  на ўскрайку Лосвідскай дачы.

...Пры атрадзе была спецгрупа Уладзіміра Навуменкі і радыстка Клава з рацыяй "Поўнач". Праз гэту радыёстанцыю мы трымалі сувязь з Беларускім штабам партызанскага руху і Масквой.

Кожны дзень у штаб арміі ішла патрэбная фронту інфармацыя аб перадыслакацыі варожых войск. Падлічваліся ўсе аўтамашыны, танкі і іншая тэхніка, запісваліся намаляваныя на дзвярах  і бартах індэксы – слон, леў, леапард і іншыя знакі, назвы вайсковых злучэнняў.